БРЭСЦКІ АБЛВЫКАНКАМ
АБЛАСНАЯ БІБЛІЯТЭКА імя М. ГОРКАГА

# Берасцейскія кнігазборы

Матэрыялы міжнароднай
навукова-практычнай канферэнцыі
«Берасцейскія кнігазборы:
праблемы і перспектывы даследавання»
Брэст, 30—31 кастрычніка 2008 г.

Брэст
«Паліграфіка»
2010

УДК 002.2(476.7)(061.3)
ББК 76.116.3(4Бел-4Брэ)я431
Б 48



Б48 **Берасцейскія кнігазборы :** Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання» (Брэст, 30—31 кастрычніка 2008 г.) / УК «Абласная бібліятэка імя М. Горкага» ; складальнікі: А.М. Мяснянкіна, Т.С. Кавенька. — Брэст, 2010. — 464 с., 16 л. іл.

ISBN 978-985-90201-6-2.

Зборнік складзены з дакладаў, прачытаных на міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання» (Брэст, 30—31 кастрычніка 2008 г.). Аўтары з Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі і Украіны прапануюць вынікі даследаванняў гісторыі кніжнай культуры, значная ўвага надаецца кніжным старажытнасцям Брэстчыны, лёсу мясцовых архіваў і бібліятэк. Асаблівае месца займаюць матэрыялы, прысвечаныя сучаснасці: кнігавыданню, камплектаванню бібліятэк, пытанням рэстытуцыі, перспектывам аднаўлення гісторыка-архітэктурных аб'ектаў старасветчыны.

Зборнік адрасаваны гісторыкам, культуролагам, кнігазнаўцам, бібліёграфам, краязнаўцам, можа быць карысным для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй і духоўнай культурай беларускага народа.

**ISBN 978-985-90201-6-2**

## *Ад рэдакцыі*



Берасцейшчына займае асаблівае месца ў гісторыі краіны. Гэта ўнікальная тэрыторыя, дзе культуры славянскіх Захаду, Поўдня і Ўсходу, роўна як заходнееўрапейскія, прыходзілі ў непасрэднае, самае цеснае ўзаемадзеянне на працягу многіх стагоддзяў. Кніжнасць і літаратура сталі найбольш універсальнымі сродкамі ўзаемапранікнення, узаемаўзбагачэння, пазнання адзін аднаго. Ці варта здзіўляцца, што мінулае рэгіёна звязана не толькі з выдатнымі асобамі, але і з славутымі бібліятэкамі, друкарнямі і манастырскімі скрыпторыямі. На жаль, войны, непаразуменні, паўстанні і рэлігійная нецярпімасць, неаднаразовыя дзяржаўныя падзелы тэрыторыі знішчалі лепшыя ўзоры праяўлення духоўнай культуры народа — кнігі і рукапісы. Рэшткі кнігазбораў разносіліся па прасторах Расіі, Украіны, Швецыі, Польшчы і

іншых краін. Практычна ўсё ацалелае знаходзіцца за межамі Брэсцкай вобласці. Тым не менш, усе гэтыя дзяржавы захавалі беларускія каштоўнасці і садзейнічалі выратаванню многіх з іх.

Выканаць задачу захавання кніжнай культуры нацыі, адначасова забяспечваючы шырокі доступ да яе шляхам пераводу ў электронную форму і захавання на сучасных носьбітах рукапісных старадрукаваных і дакументальных помнікаў, што дазволіць аб'яднаць у адзіную электронную калекцыю копіі помнікаў, арыгіналы якіх захоўваюцца ў фондах Беларусі і замежных краін, павінны праграмы «Памяць свету» (ЮНЭСКА) і «Памяць Беларусі». Часткай іх можа стаць рэгіянальная праграма «Берасцейскія кнігазборы».



Пачаткам працы ў гэтым накірунку стала правядзенне міжнароднай прадстаўнічай навуковай канферэнцыі па ініцыятыве Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага, якая аб'яднала зацікаўленых і дасведчаных. Ініцыятыву бібліятэкі падхапілі шматлікія мясцовыя краязнаўцы, кнігазнаўцы і гісторыкі культуры з Мінска і Гродна, спецыялісты з Пецярбурга, Кракава, Масквы, Вільні, Кіева і Астрога. Гэты факт, як ні які іншы, гаворыць пра актуальнасць задумы. А Зборнік, які Вы, паважаны чытач, трымаеце зараз у руках, сведчыць пра плённасць выніку.

Галоўныя накірункі навуковых даследаванняў і практычнай бібліяграфічнай дзейнасці праграмы «Берасцейскія кнігазборы»:

- пошук і апісанне прадукцыі кнігапісцаў і манастырскіх скрыпторыяў;

- улік усіх захаваных (незалежна ад месцазнаходжання) асобнікаў брэсцкіх друкарняў XIV і пінскай XVIII стст.;
- рэканструкцыя рэпертуару друкарняў (друка-літаграфіяў) Брэстчыны XIX—XX стст.;
- гістарычная рэканструкцыя старасвецкіх бібліятэк Брэстчыны як прыватных, так і розных установ (царкоўных, манастырскіх, дзяржаўных, грамадскіх);
- даследаванне асобных кніжных помнікаў з іх, незалежна ад паходжання і сённяшняга месцазнаходжання;
- вывучэнне звязанай з кніжнай культурай «біяграфікі» — лёсаў кнігапісцаў, друкароў, аўтараў і гаспадароў (карыстальнікаў) кніг як у старажытнасці, так і ў Новы час.

У нейкай ступені пастаўленыя задачы вырашаюцца ў матэрыялах прапанаванага Зборніка, аднак для стварэння паўнавартаснай карціны кніжнай культуры рэгіёна патрэбна яшчэ неаднойчы звярнуцца як да гэтых, так і да іншых, не закранутых сёння сюжэтаў.

Матэрыялы размешчаны ў Зборніку паводле храналогіі рэтраспектыўна. У першым раздзеле — «Кніжная спадчына і яе сённяшні лёс» — змешчаны артыкулы аб праблемах рэстытуцыі, перспектывах аднаўлення гісторыка-архітэктурных аб'ектаў старасветчыны Берасцейшчыны і сучасным стане кнігавыдання і бібліятэчнай справы ў рэгіёне. Другі храналагічны раздзел — «Кніга і бібліятэчная справа на Берасцейшчыне ў XIX—XX стст.» — аб'яднаў артыкулы як тэарэтычныя, прысвечаныя культуралагічным, гістарыяграфічным і крыніцазнаўчым

аспектам праблемы існавання беларускай культуры ў прасторы Расійскай імперыі ў XIX—пачатку XX стст., так і распрацоўкі канкрэтных кніжных, бібліятэчна-архіўных і біяграфічных матэрыялаў гэтага часу. Трэці раздзел — «Кнігі і кніжная культура Берасцейшчыны XVI—XVIII стст.» — пачынаецца паведамленнямі пра помнікі рукапіснай кніжнасці, працягваецца блокам дакладаў, прысвечаных брэсцкім друкарням XVI ст. (сюды ж арганічна ўваходзіць матэрыял аб злотніках сярэдневяковага Брэста), а заканчваецца серыяй паведамленняў, прысвечаных царкоўным і манастырскім бібліятэкам у часы Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.



Рабочымі мовамі канферэнцыі былі беларуская, польская, руская і ўкраінская, адпаведна матэрыялы друкуюцца на гэтых мовах. Да польскамоўных артыкулаў зроблены кароткія анатацыі па-беларуску, пры рэдагаванні былі па магчымасці ўніфікаваныя напісанні імёнаў гістарычных дзеячаў.

Надрукаваны багаты матэрыял паказвае, колькі яшчэ важных для гісторыі культуры Берасцейшчыны тэмаў не закранута, не вывучана, не асэнсавана. Таму члены рэдкалегіі лічаць лагічным і патрэбным зрабіць гэта выданне, як і саму канферэнцыю «Берасцейскія кнігазборы», перыядычнымі.

*Несцярчук Л.М.*

# Перспектывы аднаўлення гісторыка-архітэктурных аб'ектаў старасветчыны на Берасцейшчыне



Берасцейская зямля — калыска шматлікіх гістарычных асобаў, якія вядомыя ў гісторыі Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі як выбітныя мысліцелі, дзяржаўныя, ваенныя, культурныя і рэлігійныя дзеячы.

Сярод іх — Андрэй Рымша, Фёдар Еўлашэўскі, Афанасій Філіповіч, Андрэй Баболя, Казімір Лышчынскі, Мацей Радзівіл, Мікалай Радзівіл Чорны, Іахім Храптовіч, Станіслаў Панятоўскі, Тадэвуш Касцюшка, Адам Нарушэвіч, Юльян Нямцэвіч, Адам Міцкевіч, Напалеон Орда, Гелена Скірмунт, Рафаіл Слізень, Тамаш Зан, Юзаф Крашэўскі, Рамуальд Траўгут, Лявон Бароўскі, Франц Савіч, Юльян Крачкоўскі, Паўлюк Багрым, Усевалад Ігнатоўскі, Рыгор Шырма і шмат іншых слынных асобаў, якія пакінулі ў матэрыяльнай і духоўнай спадчыне Беларусі глыбокі след.

Праблема паглыбленага вывучэння лёсу бібліятэк, музейных, архіўных і іншых каштоўнасцяў вышэйназваных выбітных асобаў паўстала надзвычай востра. У гэтым рэчышчы навуковая дыскусія, што адбываецца на сённяшняй канферэнцыі, з'яўляецца надзвычай актуальнай і запатрабаванай.

На Берасцейшчыне актыўна шырыцца аднаўленне і захаванне радавых гнёздаў гістарычных асобаў XVIII—XIX стст., а пасля іх рэабілітацыі востра паўстае пытанне ўнутранага напаўнення створаных тут музеяў і музейных комплексаў.

Мая задача — давесці да ведама ўдзельнікаў канферэнцыі інфармацыю пра тое, што робіцца сёння ў гарадах і раёнах вобласці для таго, каб вярнуць да жыцця 53 мемарыяльныя сядзібы, рэшткі якіх яшчэ захаваліся на тэрыторыі Берасцейшчыны.

Напрыклад, у Брэсцкім раёне налічваецца дзве мемарыяльныя сядзібы: Лышчыцы — радзіма асветніка і філосафа Казіміра Лышчынскага, і Скокі — радзіннае гняздо выдатнага пісьменніка, драматурга, палітычнага дзеяча ВКЛ Юльяна Нямцэвіча, стваральніка і актыўнага збіральніка бібліятэчных калекцый.

З гэтых дзвюх сядзіб захаваўся толькі Скокаўскі палацава-паркавы ансамбль. Ужо на працягу апошніх пяці гадоў тут вядуцца навуковыя праектныя і рэстаўрацыйныя работы. Падрыхтаваны праект аднаўлення сядзібнага дома пад раённы музей гісторыі асветніцтва на Прыбужскай зямлі. Толькі ў гэтым юбілейным годзе на рэстаўрацыю палаца ў Скоках з абласнога бюджэту выдзелена 300 млн. рублёў. Акрамя таго, у Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь накіравана хадайніцтва Брэсцкага аблвыканкама аб уключэнні Скокаўскага палаца Нямцэвічаў у Рэспубліканскую інвестыцыйную праграму на 2009 г.

Найбольшая колькасць мемарыяльных аб'ектаў налічваецца ў Баранавіцкім раёне. Тут іх выяўлена 9. Сярод іх — сядзіба Вольна, знітаваная з жыццём і дзейнасцю Рафаіла Слізеня, выдатнага архітэктара і скульптара, аўтара медальёнаў і помнікаў-бюстаў Тамашу Зану, Адаму Міцкевічу, Ігнату Дамейку і іншым вядомым асобам. Сядзіба Слізеняў у Вольна, на жаль, страчана, і аднавіць яе няма магчымасці.

Адной з самых знакамітых сядзіб, безумоўна, з'яўляецца Завоссе, у якой нарадзіўся Адам Міцкевіч. У 1998 г. колішні фальварак поўнасцю адноўлены, цяпер у ім працуе музей-сядзіба Адама Міцкевіча, які ўключаны ў турыстычныя маршруты Берасцейшчыны.

З вёскай Крашын звязана жыццё і дзейнасць народнага паэта і майстра Паўлюка Багрыма, мастака Пятра Святаполка-Завадскага, фальклрыста і этнографа Міхала Федароўскага і беларускага асветніка ксяндза Магнушэўскага.

У Баранавіцкім раёне, акрамя названых мемарыяльных сядзібаў, часткова захаваліся гістарычныя палацы роду Радзівілаў у в. Паланечка, роду Бохвіцаў у в. Паўлінава, роду Катлубаяў у в. Ястрамбель. Праведзена толькі частковая рэстаўрацыя названых палацаў.

Астатнія былыя сядзібныя дамы роду Дамейкаў у в. Сачыўкі, роду Верашчакаў у в. Туганавічы, роду Храптовічаў у в. Ясянец поўнасцю знішчаны. Захаваліся толькі рэшткі гістарычных паркаў.

У Драгічынскім раёне маецца тры мемарыяльныя сядзібы: Закозель, Людвінава і Пярковічы. Дзве першыя звязаны з жыццём і дзейнасцю прадстаўнікоў знакамітага роду Ажэшкаў, а Пярковічы былі спадчынным гняздом роду Віславухаў.

На сённяшні дзень разгорнуты рэстаўрацыйныя работы на Пярковіцкім палацы, падрыхтавана таксама навукова-праектная дакументацыя на рэстаўрацыю Заказельскай мемарыяльнай капліцы.

У Жабінкаўскім раёне распачаты праектныя работы па аднаўленні зачыненай базавай школы ў в. Малыя Сяхновічы (радавое гняздо Касцюшкаў-Сяхновіцкіх) пад раённы гісторыка-краязнаўчы музей.

На радзіме вядомага беларускага асветніка, этнографа, педагога і гісторыка Юзафа Крачкоўскага ў в. Азяты ўсталявана мемарыяльная дошка. Дом Крачкоўскіх ужо, на жаль, даўно не існуе.

У Іванаўскім раёне разгорнуты праектна-рэстаўрацыйныя работы па стварэнні музейнага комплексу Н. Орды ў в. Варацэвічы. Да 200-годдзя з дня нарадджэння Н. Орды (2007 г.) пабудавана і ўрачыста адкрыта карцінная галерэя. На 2009 год плануецца распачаць аднаўленне сядзібнага дома Ордаў. Гэта адзін з этапаў стварэння музейнага комплексу Н. Орды.

Івацэвіцкі раён звязаны з нараджэннем нацыянальнага героя ЗША, Літвы, Польшчы, Украіны, ганаровага грамадзяніна Францыі, кіраўніка нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. у Польшчы, Літве, Украіне і Беларусі. У 2004 г. пры фінансавай падтрымцы ЗША адноўлены сядзібны дом (фальварак Мерачоўшчына), у якім у 1746 годзе нарадзіўся Т. Касцюшка. У 2005 г. у гэтым доме адкрыты мемарыяльны музей.

У 2007 г. Дом-музей Т. Касцюшкі і палац Пуслоўскіх камісіяй ЮНЭСКА былі ўключаны ў спіс прыярытэтных аб'ектаў для развіцця айчыннага і замежнага турызму з выдзяленнем гранта ў памеры 50 тыс. долараў ЗША на працяг праектавання Косаўскага палаца. Акрамя таго, Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 14. 01. 2008 г. № 20

Косаўскі палац уключаны ў інвестыцыйную праграму рэстаўрацыі на 2008—2009 гг. пад турыстычны комплекс. Цяпер там разгорнуты рэстаўрацыйныя работы.

Багатыя на мемарыяльныя сядзібы Камянеччына, Кобрыншчына, Ляхавіччына.

На Камянеччыне (в. Волчын) нарадзіўся апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Захаваліся рэшткі Троіцкага касцёла, у якім ахрысцілі будучага манарха. У 2007 г. касцёл перададзены каталіцкай супольнасці, за бюджэтныя сродкі падрыхтавана навукова-праектная дакументацыя супрацьаварыйных і кансервацыйных работ. У колішняй плябаніі цяпер фарміруецца музей гісторыі в. Волчын.

На былых сядзібах аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 г. Рамуальда Траўгута (в. Астроўе Маларыцкага раёна, в. Божы Дар Кобрынскага раёна і в. Шастакова Камянецкага раёна) усталяваны ў 2002—2003 гг. мемарыяльныя знакі.

У стадыі аднаўлення пад музейныя комплексы знаходзяцца Дубайская гістарычная капліца і парк, палац Бутрымовіча на Піншчыне, Ружанскі палац Сапегаў на Пружаншчыне, Грушаўская мемарыяльная капліца ў Ляхавіцкім раёне, Картузіянскі кляштар у г. Бяроза, Нова-Беражноўскі палац у Столінскім раёне.

Чакаюць падтрымкі іншыя ўнікальныя аб'екты старасветчыны: Лыскаўскі касцёл, палацы ў в. Каштанаўка і пас. Інтэрнацыянальны на Пружаншчыне, палац у в. Флер'янава Ляхавіцкага раёна, былы палац роду Юндзілаў у г. Івацэвічы, які, дарэчы, у гэтым годзе ўнесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь.

Усё сказанае — гэта першыя крокі на доўгім шляху аднаўлення матэрыяльнай і духоўнай спадчыны. Страчана вельмі шмат, таму справу аднаўлення і вяртання страчанага прыйдзецца весці не аднаму пакаленню.

*Долгодрова Т. А.*

# О публикациях перемещенных культурных ценностей, хранящихся в Российской Государственной библиотеке



1993 год стал годом начала публикаций т.н. «трофейных» фондов РГБ[1], которые поступили в библиотеку после окончания Второй мировой войны в 1946 г. в возмещение ущерба, нанесенного отечественным культурным ценностям. Их существование замалчивалось почти полвека. Принятие Закона о перемещенных культурных ценностях дало возможность прежде всего начать работу по созданию каталогов с публикациями всех экспонатов Немецкого музея книги и шрифта (Лейпциг), хранящихся ныне в РГБ. О том, что работа по созданию трех каталогов была в основном завершена, сказано в нашем докладе на Третьих международных книговедческих научных чтениях в Минске в 2003 году[2].

На сегодняшний день вышел из печати только один «Каталог художественных переплетов собрания Карла Бехера» (М., «Пашков Дом», 2007).

---

1 Долгодрова Т.А. Коллекция Немецкого музея книги и шрифта в собрании Российской государственной библиотеки / Т.А. Долгодрова, О.Р. Бородин // Наше наследие. 1994. № 32. С. 98—105.
Dolgodrova T. Les livres de Leipzig / T. Dolgodrova., O. Borodin // Connaissance des Arts. 1995. № 515.P. 63—69.

2 Долгодрова Т.А. О создании каталогов собраний Немецкого музея книги и шрифта (г. Лейпциг), хранящихся в фондах РГБ // Материалы третьих международных научных чтений. Мн., 2003. С. 91—98.

Я — его составитель и автор вступительной статьи. Каталог переплетов собрания немецкого коллекционера конца XIX—начала XX вв. карлсбадского врача Карла Бехера представляет несомненный интерес для историков книги и книжного дела, в особенности изучающих вопросы переплетного мастерства, а также всех интересующихся проблемами книговедения. Коллекция Бехера отражает 500-летнюю историю западноевропейского переплета — она содержит 400 художественных, издательских, библиофильских и владельческих переплетов XV—XIX вв., в которых отражены все стили и школы западноевропейского (и отчасти восточного) переплета. В коллекции представлены все прославленные западноевропейские мастера переплета.

Описания переплетов в каталоге расположены в порядке номеров собрания К. Бехера с сохранением его нумерации, наклеенной на форзацных листах. Приведены также и номера Немецкого музея книги и шрифта (Лейпциг) — DBSM 11/..., находящиеся в книгах. В Каталоге подробно описаны все 400 переплетов коллекции, указаны размеры переплетов, материалы, из которых они сделаны, характер тиснения или другого декора — вышивки, живописи и т.д. Также обозначен стиль, воспроизведены надписи на переплетах и владельческие записи на титульных листах. Особенно важно то, что записи эти сопровождаются переводом на русский язык. Указаны суперэкслибрисы и экслибрисы, дана расшифровка символических значений всех изображений и иконография сюжетов. Каталог снабжен указателями по материалам переплетов, стилям, по странам изготовления, по именам переплетчиков, хронологическим указателем и др.

Библиографическая часть Каталога представляет полное описание 550 западноевропейских рукописных и печатных книг XV—XIX вв., которые находятся в этих переплетах. Дано поэкземплярное описание всех книг с указанием особенностей каждого издания. Этот факт стоит отметить особо, так как обычно при описании переплетов книги, описание книг, заключенных в них, делается либо в краткой форме, либо просто дается упоминание издания. Состав книг собрания Бехера сам по себе столь интересен, что потребовал такого подробного описания. Особенно подробно автором описаны рукописные книги — определены школы иллюминирования этих рукописей и иконография миниатюр, раскрыта символика изображенных предметов. Описания снабжены аннотацией с переводом на русский язык имен авторов и заглавий, имен

издателей, что помогает читателям лучше представить состав книг, входящих в коллекцию Бехера.

Во вступительной статье приведена краткая история переплета — даны обозначения всех стилей, возникших в истории переплета, и отмечены их характерные особенности, объяснено, почему стиль получил свое название. Это очень важно, так как в России отсутствуют издания на русском языке, охватывающие всю историю западноевропейского переплета. Поэтому статья и сам свод каталога способны отчасти возместить этот пробел. Так как во всех книжных и музейных собраниях России существует в той или иной мере значительное количество западноевропейских переплетов, данный Каталог может помочь в работе по их описанию. Автор рассказывает об особенностях переплетов XV в., о появлении затем стилей «à la dentelle», отмечая лучшие образцы переплетов в этом стиле, принадлежащие французским переплетчикам Жану-Антуану и Николя-Дени Derôme с характерным для них «dentelle avec les oiseaux». Описаны французские переплеты стиля «à Du Seuil», который появился в конце XVII в. в работах Августена Du Seuil. Отмечен стиль «à l'eventeille». В Каталоге описано 17 очень редких вышитых переплетов XVI—XVII вв., среди них особо стоит отметить переплеты английской работы, изготовленные монахинями монастыря Little Gidding, на которых вышиты настоящие портретные изображения английских королей. Очень интересны переплеты с тисненными надписями и девизами. Особо стоит сказать о переплете с тисненной надписью переплетчика: «Nicolaus ab Ebeleben vivit post funera virtus» — «Николай из Эбелебена будет жить после смерти».



Каталог сделан с учетом западноевропейских публикаций последних лет, что очень важно, так как позволяет внести коррективы и дополнения в существующие представления об истории переплета. Как, например, очень важна впервые на русском языке появившаяся информация о переплетах стиля Гролье. До сих пор переплетчик, их сделавший, считался в России анонимом, а теперь в Каталоге указывается его имя — это Жан Пикар. То же можно сказать и о переплетах, сделанных в венецианской мастерской, где переплетались книги, издаваемые Альдом Мануцием. До этого в России бытовало мнение, что книги переплетались в типографии Альда.

Очень важно видеть эти переплеты — даже небольшая выставка, подготовленная и устроенная нами в РГБ в апреле 2007 г., где были представ-

лены только 49 переплетов, показала, что собранные вместе переплеты могут сказать о многом. Так небольшое (9 экз.) собрание восточных переплетов, при экспонировании их рядом с переплетами венецианской школы XVI в., делают очевидным то влияние, какое оказали восточные переплеты на Венецию, а затем и на другие школы европейского переплета. Экспонированные рядом переплеты Саксонской школы XVI в. — школы Якоба Краузе, придворного переплетчика курфюрста Августа Саксонского — отражают влияние венецианской школы переплета. Находящиеся на выставке два русских переплета демонстрировали их близость и к венецианской, и к саксонской школам. Таким образом, концепция выставки переплетов Карла Бехера продемонстрировала очень важный аспект коллекции — взаимодействие школ переплета разных стран, их взаимовлияние и особенности.

В конце 2008 — начале 2009 гг. выйдет из печати в издательстве «Пашков дом» наш «Каталог набивных тканей XIII—XIX вв. собрания Роберта Форрера», который является продолжением серии «Коллекции Российской Государственной библиотеки». Западноевропейские старопечатные книги, начиная с 1460 г., украшались иллюстрациями, сделанными в технике гравюры на дереве, — ксилографии. С тех же самых ксилографических досок делалась и печать на набивных тканях, но гравюра на ткани отличалась укрупненными формами и появилась она на несколько веков раньше, чем гравюра в книгах. Опыт, наработанный в ксилографии на тканях, оказал свое влияние на изобретение книгопечатания.

Собрание набивных тканей XIII—XIX вв. немецкого коллекционера и ученого Роберта Форрера до поступения в ГБЛ являлось с 1920-х годов частью действующей экспозиции Немецкого музея книги и шрифта. При этом коллекция не имела своего печатного каталога. Эта уникальная коллекция содержит 238 (174 паспарту) образцов набивных тканей и отражает все стили и школы в истории западноевропейских тканей с набойкой. Эти редчайшие экспонаты послужили Р. Форреру основой для создания нового направления в искусствознании — истории печати на ткани. Кроме описания образцов тканей с набойкой, в каталоге впервые дается описание иконографии сюжетов. Каталог содержит указатели: материалов, техники, терминов, хронологический и др. Описания снабжены аннотацией с переводом на русский язык имен граверов и художников. Каталог предваряет вступительная статья, состоящая из трех разделов: о составе собрания, о тканях прославлен-

ного французского производителя набивных тканей XVIII—начала XIX вв. — Кристофа Филиппа Оберкампфа и о мужских набивных носовых платках начала XIX в., выпускаемых антинаполеоновской коалицией и находящихся в собрании Форрера.

Коллекция Форрера представляет огромную источниковедческую ценность для искусствоведов, художников, книговедов. Каталог собрания будет иметь цветные иллюстрации.

Третий каталог — «Собрание инкунабулов и палеотипов Генриха Клемма» (авторы-составители: Н.П. Черкашина, Т.А. Долгодрова), также будет издан в издательстве «Пашков дом» в 2009 г. Каталог содержит описания части собрания немецкого библиофила Г. Клемма (1818—1886 гг.), входившего с 1886 г. в состав Немецкого музея книги и шрифта (Лейпциг). В нем даны библиографические описания 136 инкунабулов и 10 изданий XVI в., дополненные основными библиографическими источниками по инкунабулам, а также аннотациями с краткой характеристикой издания, экземпляра и переплета. Научный аппарат содержит алфавитный указатель авторов и заглавий, указатель заглавий, указатель имен комментаторов, переводчиков, редакторов, корректоров, авторов дополнительного материала, комментируемых авторов, хронологический указатель, конкорданции. Каталог иллюстрирован репродукциями гравюр из старопечатных книг.



Кроме собрания Лейпцигского музея, в Отделе редких книг РГБ есть и другие, не менее ценные «трофейные» коллекции. Прежде всего, это собрание переплетов XVI в. работы прославленного придворного мастера Саксонского курфюрста Августа — Якоба Краузе[3]. Он явился создателем уникального стиля, в котором сочетались традиции немецкого Ренессанса и венецианские влияния. В Париже в журнале «Bulletin de bibliophile» нами опубликована статья, где были указаны все издания и рукописи, заключенные в переплеты Краузе, а сами переплеты были сгруппированы по материалам и мастерам[4]. В настоящее время нами ведется работа над «Каталогом переплетов Якоба Краузе и мастеров его круга». Собрание Краузе в РГБ насчитавает 365 переплетов, которые хранятся как единая коллекция. К сожалению, реальное количество

3 Долгодрова, Т.А. О создании Каталога собрания переплетов Якоба Краузе и его круга // Международная научная конференция Румянцевские чтения 2005. М., 2005. С. 73—78.

4 Dolgodrova T., Aurich F. Les reliures de Jakob Krause / T. Dolgodrova, F. Aurich // Bulletin de bibliophile. Paris. 2006. № 1. P. 41—66.

поступивших в ГБЛ переплетов Краузе остается неизвестным, так как часть коллекции в 1946—1947 гг. оказалась распыленной в собрании книг XVI—XVII вв. Но сейчас с помощью хранителя Т.А. Чернобровой нам удалось обнаружить еще 290 переплетов круга Краузе. Это не конец работы, некоторое количество переплетов еще будет выявлено. Их описания будут добавлены в создаваемый Каталог. Новые находки — это своего рода сенсация, так как до сих пор из 900 исчезнувших из Дрезденской государственной библиотеки переплетов Краузе были известны только 365, хранящихся в РГБ. Теперь можно говорить, что из 900 переплетов более 600 сохранились.

Особое место в фондах РГБ занимают работы знаменитого семейства граверов XVII в. — Мериан. Самой знаменитой из них стала Мария Сибилла Мериан — художница, жившая на рубеже XVII—XVIII вв. Её имя хорошо известно как в истории искусств (она с большим успехом занималась воспроизведением насекомых и цветов в акварельных рисунках и гравюрах на меди), так в истории естествознания (как исследовательницы насекомых). Одна из первых женщин, дерзнувшая посвятить себя научной деятельности, первооткрывательница мира насекомых Южной Америки, Мериан часто упоминается как одна из первых феминисток. Её отец Маттеус Мериан был знаменитым швейцарским гравером, художником и книгоиздателем, унаследовавшим типографию издателей и граверов семьи де Бри. Кроме Марии Сибиллы, известность получили его сыновья Маттеус Мериан-младший и Каспар Мериан. Все издания Марии Сибиллы Мериан в РГБ, кроме одного («Чудесные превращения гусениц», 1717 г.), происходят из перемещенных культурных ценностей — из Саксонской государственной библиотеки (Дрезден). Издания ее отца и братьев также большей частью из трофейных собраний Берлина, Дрездена, Дассау и др.

Самым прославленным творением Марии Сибиллы стали «Метаморфозы суринамских насекомых». Это были огромные альбомы гравюр in-folio, раскрашенные акварелью, первый том которых был издан в Амстердаме в 1705 г. печатником И. Валком. В РГБ хранится экземпляр этого альбома с текстом на латинском языке, где гравюры, сделанные в технике офорта, бесценны — раскрашены акварелью самой М.С. Мериан. Художница изобразила прекрасные цветы, поедаемые червячками, очень натуралистично передавая все стадии жизни насекомых: от коконов и гусениц до роскошных бабочек. Сравнение насекомого, вылупля-

ющегося из куколки, с душой человека, которая воскресает для вечной жизни, было любимым символом в эпоху Мериан, поэтому нельзя забывать и о религиозно-мистическом подтексте ее работ. Мериан называют «дитя барокко», но ее работы отличаются от других художников-флористов, также творящих в эпоху барокко, как Марель, например, необыкновенным экспрессионизмом, который недостаточно объяснять только торжествующим тогда стилем барокко, в бурном движении передающим накал страстей. Напряженная экспрессия линий и форм в гравюрах Мериан — это какая-то ее личностная особенность.

В Отделе редких книг РГБ есть это второе издание «Метаморфоз суринамских насекомых», представляющее собой полную перепечатку издания 1705 г., к которому было добавлено 12 новых гравюр и новый титульный лист в начале книги. Сравнивая издания 1705 и 1719 гг., нужно отметить, что гравюры в экземпляре 1719 г. (в отличие от альбома 1705 г.) сделаны способом перевернутой печати, поэтому там отсутствуют подписи граверов (иначе они вышли бы в зеркальном виде). Из-за этого оттиски в нем более бледные, чем объясняется и разный колорит раскраски экземпляров.



Кроме Отдела редких книг, альбомы Мериан есть также в Отделе изоизданий РГБ. Это второй в РГБ экземпляр издания «Метаморфоз суринамских насекомых» 1705 г., на этот раз на голландском, а не на латинском языке. Главной его особенностью является то, что часть гравюр в этом издании заменена акварельными рисунками (всего их 39) — копиями гравюр Мериан. В Отделе ИЗО есть второе издание 1719 г., но этот экземпляр включает только 12 гравюр, которые были созданы Мериан для предполагавшегося второго тома суринамских несекомых. Гравюры эти сделаны способом «перевернутой печати». Раскраска же их великолепна и содержит в отличие от экземпляра 1719 г. из НИО редких книг, довольно обильное использование золота как в буквах титульного листа и начале текста, так и в гравюре фронтисписа. Также в отделе ИЗО есть конволют, содержащий более поздние издания Мериан в переводе на французский язык. Это «Насекомые Европы», не изданные при жизни Мериан, переведенные с голландского языка на французский Жаном Марре и изданные в Амстердаме печатником Бернаром в 1730 г. Книга эта содержит 184 гравюры Мериан. Это повтор всех 150 гравюр трех частей «Чудесных превращений гусениц». Остальные гравюры взяты, видимо, из «Книги цветов» или из разрозненных листов гравюр Мериан.

Все они остались без раскраски. Книга имеет переплет альбома «Превращений суринамских насекомых» 1726 г., изданного в Гааге Пьром Госсе с параллельным текстом на латинском и французском языках. Все 72 оставшихся нераскрашенными гравюр этого издания — повтор издания 1719 г.

Судьба большей и ценнейшей части наследия Марии Сибиллы Мериан — ее изданий, коллекций и акварелей, благодаря интересу Петра I «к художествам» и к естествознанию, оказалась связана с Россией, вернее с Санкт-Петербургом. Хочется пожелать, чтобы к 300-летию со дня смерти Марии Сибиллы Мериан, которое будет в январе 2017 г., был создан хотя бы виртуальный музей. Пора собрать в нем вместе и описать все хранящиеся в России оригинальные акварельные рисунки и альбомы гравюр Мериан, чтобы иметь полное представление о том, какими шедеврами мы обладаем. Достойное место в этой виртуальной галерее могли бы занять и все «трофейные» издания альбомов Мериан, хранящихся в РГБ. Они дают полное представление об ее творчестве и содержат все главные издания художницы. Также они демонстрируют разнообразие технических приемов Мериан при изготовлении гравюр и совершенство их раскраски в изданиях о суринамских насекомых, сделанное самой художницей. Там бы уместны были и издания остальных представителей семейства Мериан.

*Валецкі Вацлаў*

# Польская нацыянальная бібліяграфія як інструмент сучасных даследаванняў у галіне літаратуры па вывучаемай праблематыцы



Цэнтр даследаванняў польскай бібліяграфіі Эстрайхераў Ягелонскага універсітэта, якім я кірую як навуковай адзінкай у структуры навучальнай установы, ставіць перад сабою некалькі даследчыцкіх задач, сярод якіх найбольш істотнае месца займае працяг публікацыі ўсіх серый Бібліяграфіі Эстрайхера, збіранне і папулярызацыя ў электроннай версіі атрыманай інфармацыі аб дапаўненнях і карэкціроўцы ўсёй *Польскай бібліяграфіі Эстрайхераў*, а таксама навуковае апрацаванне паводле эстрайхераўскіх стандартаў і публікацыя каталогаў бібліятэк, якія захоўваюць старыя польскія друкі (у тым ліку часта невядомыя Эстрайхеру), галоўным чынам на сённяшніх землях Украіны, Расіі і Беларусі, а таксама ў кніжных зборах недаступных публічна[1]. Але ж цяпер хацеў бы звярнуць увагу на нашу Электронную Базу Польскай Бібліяграфіі

1 Polskie książki i rękopisy w zbiorach Biblioteki Naukowej Państwowego Uniwersytetu im. M.W. Łomonosowa w Moskwie. Katalog = Польские редкие книги и рукописи в фондах Научной библиотеки МГУ им. М. В. Ломоносова. Каталог, opr. S. Siess-Krzyszkowski i И.Л. Великодная, Kraków-Москва, 2005 ; у Інтэрнэце даступны, напрыклад, каталог неіснуючай «старой» бібліятэкі ў Нясвіжы (сёння галоўным чынам у калекцыях у Пецярбургу, Маскве і Хельсінках, рыхтуем каталог бібліятэкі ў Красічыне, каталог бібліятэкі Музея кнігі ў Львове, каталог бібліятэкі езуіцкага калегіюма ў Львове і інш.) Параўнай: www.estreicher.pl

Эстрайхераў (Elektroniczna Baza Bibliografii Polskiej Estreicherów — EBBE), задачай якой з'яўляецца:

- бібліяграфічная і інфармацыйная апрацоўка, а далей — папулярызацыя ў Інтэрнэце электроннай версіі *Польскай бібліяграфіі* як электроннай кнігі(е-кнігі);
- навуковае пераўтварэнне ў базу дадзеных матэрыялу ўсіх тамоў бібліяграфіі Эстрайхера разам з дапаўненнямі.

Гэтыя два пункты навуковай дзейнасці Цэнтра даследаванняў польскай бібліяграфіі як пазнавальны выклік на парозе XXI стагоддзя будуць тэмаю дадзенага артыкула. У дадзены момант з'явіліся тэхнічныя магчымасці папулярызацыі эпахальнай працы Эстрайхераў у іншай версіі, якая адрозніваецца ад збору ў некалькі дзесяткаў тамоў (калі лічыць усе серыі і выданні — каля шасцідзесяці тамоў). Паасобныя часткі, якія з'явіліся ў выніку больш чым стогадовай працы, часам цяжка выкарыстоўваць у поўным аб'ёме, таму што трэба перагортваць (улічваючы магчымасць людской памылкі) шмат тамоў, якія па зразумелых прычынах не маглі ў час іх складання ахопліваць усяго камплекту матэрыялаў. Таксама даступнасць у Польшчы і за мяжою на кніжным рынку, а дакладней на букіністычным, *Польскай бібліяграфіі* з'яўляецца рэшткавай, а ў дачыненні да некаторых частак нават ніякай.

Магчымасць падачы ўсёй бібліяграфіі ў выглядзе электроннай кнігі ў Інтэрнэце адкрывае надзвычайнае поле для «прапаганды» польскай культуры, а таксама мае выключную навуковую карысць. Мы апрацавалі такую сістэму доступу да адсканаваных старонак друкаванай версіі ўсіх тамоў *Бібліяграфіі*, якая дае магчымасць спраўнага пошуку слова-запытання адначасова ва ўсіх тамах, дзе яно сустракаецца. З гэтага моманту практычна ўвесь свет мае доступ да скарбніцы польскай гуманітарнай навукі ў кожную хвіліну. Усё выглядае так, як бы мы выдалі *Польскую бібліяграфію* яшчэ раз у мільёнах экземпляраў, каб яна служыла навукоўцам з усіх галін гуманітарных навук ва ўсім свеце. Тут варта заўважыць, што гэтая асноўная для польскай культуры праца адсутнічае ў камплекце ў шматлікіх прэстыжных бібліятэках Еўропы і па-за яе межамі. Наш нядаўні досвед пераконвае, што яе няма ў звязаных з польскай культурай XIX стагоддзя венскіх бібліятэках, дзе, здавалася б, яна павінна быць. У сваю чаргу бібліятэкары ў Луцку на Украіне маюць толькі тамы, выдадзеныя перад 1908 годам, і на іх падставе апісваюць свае калекцыі палонікаў. Падобная сітуацыя ў бібліятэках Злучаных

Штатаў, для якіх культура Старога кантынэнта з'яўляецца падставай усялякай экзістэнцыі.

Апісаную тут электронную кнігу, створаную намі на падставе бібліяграфіі Эстрайхера, трактуем як даследчыцкі інструмент, патрэбны ўжо цяпер усім зацікаўленым. Галоўнаю нашаю мэтаю з'яўляецца размеркаванае на даўжэйшы час, апісанае ў пункце 2, стварэнне з матэрыялу эстрайхераўскай *Бібліяграфіі* не электроннай кнігі, але базы дадзеных. Базы, якая дазваляла б карыстацца багаццем назапашаных там крыніц, інфармацыі, недаступных з-за неэфектыўнага прагортвання тамоў або недасягальных, напрыклад, з прычыны звычайнай чалавечай памылкі праз няўвагу або з прычыны немагчымасці спалучэння дадзеных, камбінацыю якіх можа даць толькі каманда пошуку, зададзеная базе дадзеных.

База дае магчымасць адначасовай, хуткай і няцяжкай, а з пункту гледжання сумленнасці — надзейнай праверкі і пошуку як ва ўсёй бібліяграфіі, так і ў асобных яе частках з улікам самых вытанчаных даследчыцкіх патрэб. А гэта значыць не толькі просты пошук адначасова ва ўсіх серыях, што нас цікавяць, і дадатках прозвішча аўтара ці назвы працы, колькі б разоў ні былі яны пералічаны таксама па-за месцам, прадугледжаным для бібліяграфічнага слова-запытання, але таксама тэматычныя пошукі, якія тычацца якога-небудзь дадзенага працягу знакаў, дзе вышукоўваюцца, напрыклад, поўныя эстрайхераўскія бібліяграфічныя апісанні і каментары, а таксама, што вельмі істотна, падаецца інфармацыя пра бібліятэкі, якія маюць цяпер ці мелі калісьці асобныя, часам унікальныя на сённяшні дзень друкі. Гэта дазваляе таксама ў сваю чаргу выхопліваць самыя розныя залежнасці, утвараць тэматычныя і храналагічныя спісы, якія паслужаць далейшым інтэрпрэтацыйным даследаванням. Дарэчы, немагчыма і няма патрэбы пералічваць усе прымяненні і ўсе перавагі зразумелай такім чынам Электроннай Базы Бібліяграфіі Эстрайхераў, таму што гэта справа відавочная.

Яшчэ я хацеў бы звярнуць увагу на згаданую раней зусім не абы-якую справу, звязаную з нашай ініцыятывай.

Праект «Польская нацыянальная бібліяграфія ў версіі электроннай базы», гэта значыць абедзьве яго версіі: 1 і 2, з'яўляюцца падмуркам польскай гуманітарнай навукі, таму цяжка (побач з *Польскім біяграфічным слоўнікам*) знайсці ў гэтай сферы дзейнасці і ў гэтым навуковым абшары

пачынанне, больш вартае падтрымкі яго рэалізацыі як крыніцы ўсялякіх далейшых даследаванняў.

У нашыя перспектыўныя планы ўваходзіць спалучэнне электроннай версіі *Польскай бібліяграфіі* з электроннай версіяй *Польскага біяграфічнага слоўніка*, што створыць базу для далейшага пашырэння ўсёй біяграфічна-бібліяграфічнай сістэмы для польскай гуманітарнай навукі. Пры нагодзе прадбачыцца таксама змяшчэнне ў гэтай жа сістэме іншых баз бібліяграфічнага характару, якія будуць выкарыстоўваць структуру базы, створанай для гэтага праекта (напрыклад, згаданыя вышэй каталогі існуючых і не існуючых польскіх калекцый на Усходзе, галоўным чынам у Расіі — даўнія памесныя бібліятэкі, кнігі прывезеныя з польскіх зямель у якасці ваенных трафееў пасля II сусветнай вайны, а таксама захопленыя раней, як хаця б нявернутая частка Бібліятэкі Залускіх ці бібліятэкі Жыгімонта Аўгуста).

*

У Цэнтры даследаванняў польскай бібліяграфіі мы падрыхтавалі і рупліва рэалізуем падрабязную праграму перапрацоўкі *Польскай бібліяграфіі* на электронную базу дадзеных. Трэба моцна падкрэсліць: на базу дадзеных, не на прадастаўленне ў Інтэрнэце «карцінак» адсканаваных старонак *Бібліяграфіі*, гэта мы ўжо выканалі і адносімся, як згадвалася, як да часовага сродку. Толькі магчымасць «абарочвання» дадзенымі, а гаворачы прафесійна — іх перапрацоўка мае сэнс, калі мы ўспрымаем гэтае заданне з пункту гледжання згаданай навуковай карысці, якую мае прынесці.

Нам удалося выпрацаваць своеасаблівую мадэль падзелу паасобных слоў-запытанняў *Бібліяграфіі* на такія, гаворачы моваю інфарматыкаў, палі, што ўсе тыпы эстрайхераўскіх слоў-запытанняў ёю прымаюцца, і такі далейшы падзел запытання на рэкорды ў рамках паасобных палёў, што ўведзеная рэкамендацыя пошуку без праблемаў знаходзіць патрэбную інфармацыю і сартуе яе паводле чаканага крытэрыя. Дадаткова поўнае слова-запытанне з *Бібліяграфіі* размяшчаем у чарговым рэкордзе, не разбітае на паасобныя элементы, але цалкам, каб, напрыклад, дазволіць карыстальніку яго капіраванне і «ўклейванне» ва ўласныя электронныя матэрыялы і нататкі.

У гэтым месцы трэба падкрэсліць, што мы прынялі рашэнне аб перанясенні ў нашу базу друкаванай постаці *Польскай бібліяграфіі* ў

такой форме, у якой яна існуе ў дадзены момант. Гэта значыць, што мы не выконваем у гэтай частцы базы ніякай карэкціроўкі, ані паправак працы нашых папярэднікаў, прызнаючы гэта немэтазгодным па розных прычынах: па-першае, не хочам ствараць «папраўленай» версіі, хаця б таму, што ў такім выпадку ўтварылася б гідра, якая не прынясе ніякай карысці (напрыклад таму, што да шматлікіх апісаных друкаў у дадзены момант няма доступу, бо яны не існуюць, таму складанне бібліяграфіі з праверaных і неправерaных артыкулаў не мае сэнсу); акрамя таго, гэта была б праца невыканальная ў бліжэй акрэсленым часе. Мы лічым таксама, што нас абавязвае асноўны наказ лаяльнасці адносна працы Эстрайхераў, гэта значыць захаванне яе манументальнага выдання ў навуковым выглядзе такой, якая яна ёсць — тым больш, што яе навуковыя якасці, як было згадана вышэй, доўга яшчэ не будуць выкарыстаныя да канца. А нават больш: захаванне яе выгляду з'яўляецца адначасова захаваннем (часам нават не ўяўляемым) яе якасцяў, якія некампетэнтныя асобы нават не заўважаюць. Так, інфармацыя пра лакалізацыю паасобных экзэмпляраў, якая некаторымі ўспрымаецца як неактуальная, з'яўляецца адной з найбольш каштоўных крыніц інфармацыі пра страты польскай культуры ў галіне старажытнага пісьменства. А такіх прыкладаў можна прыводзіць мноства і бясконца.

*

Даступная ў Інтэрнэце пад адрасам www.estreicher.pl е-кніга *Польская бібліяграфія* і база ў рабочай версіі, якая ствараецца на яе падставе, мае чатыры (заўсёды хачу тут дадаваць: пакуль чатыры — у сувязі з тым, што гаворым аб тым, што з'яўляецца ўвесь час *in statu nascendi*) асноўныя апоры: Базу старапольскай бібліяграфіі (Baza bibliografii staropolskiej), Базу бібліяграфіі XIX стагоддзя (Baza bibliografii XIX wieku), Базу храналагічнай бібліяграфіі (Baza bibliografii chronologicznej) і Базу дадатковых матэрыялаў да *Польскай бібліяграфіі* Эстрайхераў (Baza materiałów do uzupełnień *Bibliografii Polskiej* Estreichera).

Старапольская база ў канчатковай форме будзе змяшчаць увесь матэрыял трэцяй часткі, разам з друкаванымі ў паасобных тамах дадаткамі і з выдадзеным асобна і чарговым томам, які рыхтуецца цяпер аб'яднаных дадаткаў, гэта значыць будзе ахопліваць старапольскі матэрыял.



*Пачатковая старонка базы бібліяграфіі Эстрайхера.*

База храналагічнай бібліяграфіі, альбо другой часткі ўсёй эстрайхераўскай працы, ахоплівае матэрыял тамоў пад нумарамі (у паслядоўным укладзе) VIII, IX і XI/2.

База бібліяграфіі XIX стагоддзя будзе ў канчатковай форме змяшчаць увесь матэрыял першай часткі, як першага выдання, так і другога; з апошняга — папаўняемай сістэматычна па меры выхаду ў свет чарговых тамоў перавыдання «XIX стагоддзя»; апрача таго знойдуцца тут таксама асобна нумараваныя тамы I—IV, што ўваходзяць у склад першай часткі і якія змяшчаюць друкі з 1881—1900 гадоў разам з дадаткамі, а таксама — зразумела — тамы, нумараваныя як X і XI/1, што ўваходзяць у склад другой часткі, храналагічнай, якая стасуецца XIX стагоддзя.

База дадатковых матэрыялаў да *Польскай бібліяграфіі* Эстрайхера з'яўляецца месцам збірання ўсіх бібліяграфічных апісанняў даступных з прац накшталт «друкі, невядомыя Эстрайхеру», і іншых падобных. Мы лічым, што нашым абавязкам з'яўляецца папулярызацыя гэтых матэрыялаў, без кваліфікавання ў дадзены момант іх прыдатнасці да планаваных на будучыню дадатковых тамоў *Польскай бібліяграфіі*, выдадзеных ужо як самастойная праца Цэнтра даследаванняў польскай бібліяграфіі, толькі ў пэўным сэнсе яны вырастаюць з *Польскай бібліяграфіі* Эстрайхераў.

База электроннай версіі *Польскай бібліяграфіі* Эстрайхераў ужо пашыраецца і далей будзе пашырацца за кошт розных самастойных бібліяграфічных спісаў, як, напрыклад, згаданыя дадаткі да працы Эстрайхераў, падрыхтаваныя намі каталогі недаступных (бо неіснуючых, або недаступных публічна) бібліятэк, тэматычныя бібліяграфіі (падыходзіць да завяршэння праца над бібліяграфіяй польскіх — ад найдаўнейшых часоў да сучасных — перакладаў усёй італьянскай літаратуры), альбо іншыя спісы, напрыклад, парэміялагічныя, якія абапіраюцца на старадрук працы Кнапскага, або база польскай пісьменнасці на даўніх паўднёва-ўсходніх крэсах Рэчы Паспалітай. Бо ўсе яны будуць выкарыстоўваць і спасылацца на тое самае ядро эстрайхераўскай базы, унікальна намі запланаванай і рэалізаванай пад нашым наглядам.

*

А цяпер паспрабуем паказаць на прыкладзе нашых інструментаў (якія ўвесь час з'яўляюцца *in statu nascendi*), якім чынам электронная версія бібліяграфіі Эстрайхера ў выглядзе е-кнігі і электроннай базы бібліяграфіі Эстрайхера, што ствараюцца ў нашым Цэнтры, могуць стаць пунктам выйсця да апрацавання запатрабаванай тут падчас пасяджэнняў шырока зразумелай бібліяграфіі Брэсцкіх друкаў і тых, якія стасуюцца Брэста. Невычарпальны матэрыял па гэтай тэме, што вельмі моцна трэба падкрэсліць, з'яўляецца адным з істотных элементаў польскай нацыянальнай бібліяграфіі.

## Брэсцкія друкі ў частцы II (храналагічнай) Польскай бібліяграфіі

**Akta** zboru krześciańskiego. Brześć, Murmeliusz (bez podania roku i nie wykryte) (w cz. III pod hasłem Zacius Szymon).
**Barlecyusz.** Historya o dobyw. m. Szkondry, tłóm. Bazylika. Brześć, Bazyl., 1569.
**Barlecyusz.** Żywot J. Kastryoty, tłóm. Bazylik Cyp. Brześć, Bazylik, 1569.
**Bazylik Cypr.** Historya o przesl. K. bożego Hist. o postanow. kościołów nad któremi był Jan Łaski (p. Utenchoviusa). Brześć, Bazylik, 1567.
**Biblia** Radziwiłłowska. Brześć lit. Wojewód. Obacz Testament, 1563.
**Budny.** O przedn. artyk. Wiary. Brześć litewski, 1570.
**Bullinger Hen.** O prawdz. Przyjmowaniu ciała. Brześć, S. Murmelius, 1559.
**Droga** krzyżowa. Brześć litewski, 1860.

**Falconius Tomasz.** Sprawy i słowa J. Chrystusa. Brześć, 1566 (w cz. III pod hasłem Biblia).
**Falconius Tomasz.** Wtóre księgi Łukasza św. Dzieje albo sprawy apostoła. Brześć, 1566 (w cz. III pod hasłem Biblia).
**Hozeasz.** Komentarz na proroctwo. Brześć, Radziw., 1559 (w cz. III pod hasłem Theodor Wit).
**Hozeasz** Prorok z wykładem Wita Teodora. Brześć (1559) (Tytuł tylko i dedyk. dodał do dawnej edycyi Wierzb[ięta]), 1567 (w cz. III pod hasłem Theodor Wit).
**Lippoman Alojzy.** Dwa listy na polski j. Brześć, Murmel., 1559 (w cz. III pod hasłem Vergerius Piotr Paweł).
**P.F.S.** Krótki zbiór z pisma św. Brześć litew., 1858.
**Pauli G.** O wyznaniu wiary ks. Sarnickiego. Brześć, 1564 (w cz. III pod Pauli Grzegorz).
**Postępek** prawa czartowskiego. Brześć, Cypr. Baz., 1570.
**Proszowic (z) Szymon.** Akta, t. j. Sprawy Zoboru wil. Od 1557. Brześć, Murmelius, 1559 (w cz. III pod Zacius Szymon z Proszowic).
**Zacyusz Simon.** O pościech. Brześć, Murmeliusz, 1559.
**Zacyusz Simon.** Confessio fidei eccl. vilnensis pro paedobaptismo. Brześć, 1559.
**Zacynusz Simon.** Wyznanie wiary Zboru wileńsk. Brześć. Ob. Proszowic, 1559.

## Друкі, датаваныя ў Брэсце

**Burzyński Stan.** Dekret Aug. III. ex actoratu St. Burzyńskiego instygatora z XX. Soc. Jes. Coll. Wileńs. o XX. Schol. Piar. zawarcie Szkół. W Brześciu 23. Marc. 1738. i w Dreznie 23 Kwietnia 1737, wyd. 1738.
**Burzyński Stan.** Dekret Aug. III. Otwarcia w Wilnie contra institutiones in praejudicium Akad. Wilens. w Brześciu 28. Marca. (dwojakie), 1738.
**Dekret** J. Kr. M. W. X. Litews. Brześć litews., 1738 (w cz. III pod Burzyński Stanisław).
**Niemcewicz Julian Ursyn.** Bruchstück der Targowitz. Bibel. Brześć, 1793.
**Potocki St.** Uniwersał do województw, ziem i powiat. Brześć lit. 6 Września 1792 (w cz. III pod hasłem Potocki Szczęsny Stanisław).

## Брэсцкія друкі ў частцы III (старапольскай) і ў частцы I (XIX ст. выданне 1 і выданне 2) Польскай бібліяграфіі

**Barlecyusz.** Historya o dobyw. m. Szkondry, tłóm. Bazylika. Brześć, Bazylik, 1569.
**Barlecyusz.** Żywot J. Kastryoty, tłóm. Bazylik Cyp. Brześć, Bazylik, 1569.

*Мамонтов М. А.*

# Брест в периодической печати Санкт-Петербурга, 1992—1995 гг.



Более 10 лет назад Российская национальная библиотека начала издавать «Белорусский сборник», на страницах которого стали регулярно помещаться текущие аннотированные указатели публикаций в периодических и продолжающихся петербургских изданиях, посвященные Беларуси. Появление этих списков не было случайным. Нижний хронологический период учета в них совпал с распадом СССР и образованием самостоятельных государств России и Беларуси. Нам представлялось, что учет таких материалов важен и интересен для обеих стран. Для Беларуси — это часть ее национального репертуара, то, что написано о стране за рубежом, и то, что, несомненно, должно собираться в ее книгохранилищах. Для России — это материал для изучения жизни своего нового соседа и партнера.

К настоящему моменту опубликованы списки за 1992—1994 гг., подготовлены для печати и выйдут уже в этом году материалы за 1995 г. В дальнейшем учет, естественно, будет продолжен. Работа велась очень широко, расписывались все доступные нам газеты и журналы, выходящие в эти годы, плюс продолжающиеся сборники, альманахи и бюллетени, имеющие постоянную нумерацию. Большинство из них не зарегистрировано в государственных библиографических изданиях Российской книжной

тут, што ПБ часта выконвае ролю пасярэдніка паміж чытачамі і архівамі ды музеямі, калі нашая інфармацыйная база аказваецца недастатковай і мы перанакіроўваем карыстальнікаў у адпаведны архіў ці музей.

Безумоўна, фонд рэдкіх выданняў ПБ і яго асобныя рарытэты, якія ў шырокім сэнсе заўсёды служылі справе ўмацавання беларускай дзяржаўнасці, павышэнню прававой культуры паспалітага люду, займаюць вызначальнае месца і ў забеспячэнні інфармацыйных патрэбаў рэгіянальнага краязнаўства.

*Доўнар Л. І.*

# Кніжная справа Брэст-Літоўска ў XIX — пачатку XX стст.



Мэтай нашага даследавання з'яўлялася вызначэнне асноўных кірункаў дзейнасці прадпрыемстваў па выпуску і распаўсюджанні кніжнай прадукцыі, вызначэнне ролі мясцовых выданняў як крыніц інфармацыі пра кніжную культуру горада.

Кніжная справа Брэст-Літоўска ў азначаны перыяд не з'яўлялася аб'ектам асобных даследаванняў. Можна літаральна на пальцах пералічыць кнігазнаўчыя працы беларускіх даследчыкаў, у якіх кнігавыданне ці кнігараспаўсюджанне ў Брэст-Літоўску XIX — пач. XX стст. хоць упамінаецца — гэта працы Я.С. Умецкай[1], Н.Ю. Бярозкінай[2], Л. Коўкель[3]. Праўда, брэсцкія выданні на рускай мове ўлічаны ў каталогу «Кніга Беларусі, 1517—1917»[4], бібліяграфічным

1 Умецкая Е.С. Из истории распространения книги в Белоруссии в начале XIX в. (1801 — 1832 гг.) // Вопросы библиографоведения и библиотековедения. Мн., 1980. С. 52—57.

2 Бярозкіна Н.Ю. Гісторыя кнігадрукавання Беларусі (XVI — пачатак XX ст.). — 2-е выд. — Мн. : Беларуская навука, 2000. С. 89—141.

3 Kowkel L. Prywatne księgozbiory na Grodzieńszczyznie w pierwszej połowie XIX wieku. — Kraków, 2005. — 222 s.: il.

4 Кніга Беларусі, 1517 — 1917 : зв. каталог / склад. Г.Я. Галенчанка [і інш.]. Мн., 1986. С. 193—569. У Дадат. скарачэнне КБ.

паказальніку «Библиотечное дело Белоруссии (XVI в. — 1917 г.)»[5]; на польскай — у бібліяграфічным паказальніку М.А. Васілеўскай у 2 частках «Белоруссия в печати XIX — нач. XX столетия»[6].

Што да крыніцазнаўчай базы па тэме даследавання, то выглядае яна даволі аб'ёмнай і патрабуе далейшага і больш глыбокага вывучэння, асабліва, што стасуецца архіўных матэрыялаў, у першую чаргу ў архівасховішчах Гродна, Вільнюса; мясцовых перыядычных выданняў і г. д. Пэўную інфармацыю, у тым ліку бібліяграфічную, пра брэсцкія кляштарныя кнігазборы аўгустынаў, базыльянаў, бернардынаў, езуітаў, трынітарыяў і інш., перамяшчэнне якіх прыпадае ў тым ліку на першую палову XIX ст., можна знайсці ў працах, напрыклад, М. Нікалаева[7], У. Пашкевіч[8], А. Пацявічуса[9]. Так, у прыватнасці, у Бібліятэцы Віленскага універсітэта захоўваюцца інвентары і каталогі бібліятэк брэсцкіх трынітарыяў 1816 г. (416 тамоў), акты візітацый брэсцкіх бернардынаў 1819 г. і інш.[10]

З даследчыцкага поля зроку не павінны выпадаць і апублікаваныя гісторыка-краязнаўчыя матэрыялы, якія пачалі з'яўляцца ў друку ў XIX ст. на польскай і рускай мовах. Так, да прыкладу, «Акты, издаваемые Виленскою комиссией для разбора древних актов» (1872. Т. 6.)[11] паведамляюць, што ў першай палове XVII ст. прыватнымі кнігазборамі ў Брэсце валодалі ўжо нават мяшчане, як Гурын Федаровіч. Паводле яго духоўнага тэстаменту ў яго ўласным кнігазборы былі Евангелле напрастольнае, Актоіх, Псалтыр, Трэбнік Астрожскі, Евангелле вучыцельнае, Біблія, два Апосталы, Псалтыр — «друку Скоринина», Маргарыт, Пчала,

5 Библиотечное дело Белоруссии (XVI в. — 1917 г.) : библиогр. указ. / сост. Л.Н. Новицкая. — Мн., 1982.—194с.

6 Белоруссия в печати XIX — начала XX столетия. Ч. 1 / сост. М. Василевская. — Мн., 1982. — 409 с.; Белоруссия в печати XIX — начала XX столетия. Ч. 2 / сост. М. Василевская. — Мн., 1983. — 419 с.

7 Нікалаеў М. Палата кнігапісная. Рукапісная кніга на Беларусі ў X — XVIII ст.ст. — Мн., 1993. — 239 с.

8 Paszkiewicz U. Inwentarze i katalogi bibliotek z ziem wschodnich Rzeczypospolitej (spis za lata 1510 — 1939). — Warszawa, 1998. — S. 38—39; Paszkiewicz U. Inwentarze i katalogi bibliotek z ziem wschodnich Rzeczypospolitej do 1939 roku. Supl. 2. Poznań, 2006. S. 41—42.

9 Pacevičus A. Vienuolynų bibliotekos Lituvoje 1795—1864 m.: dingęs knygos pasaulis. — Vilnius, 2005.— 312 p. : il.

10 Pacevičus A. Vienuolynų bibliotekos Lituvoje 1795—1864 m. ... P. 134—153, 167.

11 Акты, издаваемые Виленскою Археографическою комиссией для разбора древних актов. Т. 6. Вильна, 1872. С. 242—243. (Далей — АВАК, Т. 6.)

тры Маліто̆унікі, Часоўнік, Трэбнік — усяго ў дакуменце адзначана 16 кірылічных кніг. Былі ў зборы кнігі і на польскай мове, хаця Гурын Федаровіч і яго жонка Саламея Гурынава былі, як відаць, праваслаўнага веравызнання, бо некаторыя з кніжных дароў завяшчаліся Рускаму шпіталю, цэрквам Перамянення Св. Спаса і Св. Пакрова ў Славацічах[12].

Некаторыя матэрыялы пра бібліятэку Брэсцкага езуіцкага калегіума, створанага яшчэ ў 1620-я гг., захоўваюцца і ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску — гэта «Люстрацыя Брэсцкага езуіцкага калегіума за 1773—1774 гг.», у рэестры якой запісана 1725 кніг[13]. Каля 70% кніжнага фонду бібліятэкі езуіцкага калегіума складалі богаслужбовыя і рэлігійна-палемічныя творы, у тым ліку 11 Біблій. У бібліятэцы былі таксама кнігі па граматыцы, лінгвістыцы, гісторыі, матэматыцы, філасофіі, палітыцы, мастацкай літаратуры, медыцыне (у фондзе Аптэкі). Спіс быў складзены ў сістэматычным парадку з асобным вылучэннем колькасці кніг паводле фармату — «большага» (in folio) і «меншага». Аднак дадзены рэестр, на жаль, не ўтрымлівае апісанні саміх асобнікаў з кнігазбору. Вядома, што кнігі былі на лацінскай, нямецкай, французскай і, напэўна, на польскай мовах[14]. Нагляд за бібліятэкай ажыццяўляў ксёндз-езуіт Бухавецкі[15].

З 1795 г., пасля ўключэння Брэста-Літоўскага ў склад Расійскай імперыі, горад стаў павятовым месцам Слонімскай, затым Літоўскай, а з 1801 г. Гродзенскай губерняў[16]. Апошняя дата амаль супала з пачаткам рэформы сістэмы народнай адукацыі ў Расіі і ўвядзеннем у дзеянне царскіх загадаў 1801 і 1802 гг., якія дазвалялі «распечатывать» і адкрываць прыватныя друкарні[17].

Што да брэсцкіх выданняў XIX — пач. XX стст., то іх асноўная частка захоўваецца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў С.-Пецярбургу (55 асобнікаў), Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы ў Маскве (35), Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі (12), Бібліятэцы Віленскага універсітэта (6), Цэн-

12 АВАК, Т. 6. С. 242—243.
13 НГАБ. Ф. 1928. Воп. 1. Спр. 265.
14 НГАБ. Ф. 1761. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 324.
15 НГАБ. Ф. 1928. Воп. 1. Спр. 265. Арк.17адв.
16 Науменко В.Я. Брест : историко-экономический очерк. 2-е изд., перераб. и доп. Мн., : Наука и техника, 1977. — С. 48.
17 Умецкая Е.С. Из истории распространения книги... С. 52.

тральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (2), Бібліятэцы Варшаўскага універсітэта (1).

Першае вядомае на сёння брэсцкае выданне XIX ст. выйшла ў 1811 г. у друкарні Лейбы Шарашэўскага — гэта «Kronika zboru ewangelickiego» (аўтар — W. Węgiełski)[18]. У першай палове XIX ст. у друкарні Л. Шарашэўскага, якая найбольш вызначылася сваёй дзейнасцю ў горадзе ў параўнанні з іншымі, было надрукавана пяць выданняў: чатыры — на польскай мове, адно — на рускай. Выданні прысвячаліся ў асноўным навучанню, як «Elementarz polski, czyli nauka czytania polskiego...» (1860)[19] ці «Весна жизни. Новый русский букварь» (1862)[20]. Цікава, што абодва выданні былі складзены і выдадзены, як было зафіксавана ў назве, «сябрам дзяцей». Нават «Ołtarzyk mały...» (1860) таксама прызначаўся для навучання, але адпаведна богаслужэнню. Дарэчы, дадзенае выданне мела памер 8,5x12 см і змяшчала ілюстрацыі.

Імя Лейбы Шарашэўскага, кнігавыдаўца і кнігагандляра з Брэста, адзначана і сярод падпісчыкаў выдавецтва «Biblioteka Polska» Казіміра Юзафа Туркоўскага (1855—1863)[21]. Такім чынам Л. Шарашэўскі набываў польскія выданні для сваёй кніжнай лаўкі, якая існавала на Кобрынскім фарштаце ў Брэсце[22]. Паводле складзенага ў адпаведнасці з загадам «Об усилении надзора за продажей иностранной литературы» (25.01.1846—17.02.1847 гг.) «Каталога», у кнігарні Л. Шарашэўскага налічвалася 224 назвы кніг у асноўным на польскай і французскай мовах. Былі таксама слоўнікі і размоўнікі па рускай, нямецкай, лацінскай мовах. Большасць кніжных выданняў складала мастацкая (55 назваў) і гістарычная (53) літаратура , а таксама вучэбныя выданні па граматыцы, матэматыцы, геаграфіі, філалагічная літаратура (53). Усяго ў «Каталогу» вылучаны шэсць тэматычных раздзелаў, сярод якіх ёсць кнігі па гаспадарцы, лясніцтве, тэхналогіі (28 назваў), падарожжах, прыродазнаўстве, філасофіі, астраноміі (19), а таксама кнігі для дзяцей (16). Адзіным рэлігійным выданнем і апошнім у «Каталогу» запісаны «Złoty Ołtarzyk do Nabożeństwa»[23] [13, арк. 106 адв.]. На жаль, месца і год выдання ў пры-

18 Белоруссия в печати XIX — начала XX столетия. Ч. 2. С. 359, № 1961.
19 Белоруссия в печати XIX — начала XX столетия. Ч. 2. С. 32, № 141.
20 КБ. — С. 329, № 322.
21 Kowkel L. Prywatne księgozbiory na Grodzieńszczyźnie... S. 25, 60.
22 НГАБ у Гродна. Ф. 1. Воп. 21. Спр. 120.
23 НГАБ у Гродна. Ф. 1. Воп. 21. Спр. 120. Арк. 106адв.

ведзеных апісаннях не падаецца. Выключэнне складае «Geografia powszechna. Anzarta» — Вільня, 1844[24]. Дзе-нідзе адзначаюцца яшчэ выданні з Парыжа, Вроцлава, Варшавы, Берліна (у асноўным французска-польскія слоўнікі)[25]. Як відаць з зафіксаванага асартыменту кніжнай прадукцыі, брэсцкія чытачы маглі набываць мастацкія творы В. Скота, В. Дзюканжа, Ю. Крашэўскага, Ф. Булгарына і інш.; гістарычныя — С. Бандке, Т. Нарбута, А. Ціера, М. Балінскага, Ю. Крашэўскага і інш. У сваю чаргу Лейба Шарашэўскі даў падпіску ў тым, што «в книжной лавке моей, находящейся здесь в г. Бресте на Кобринском форштате, ни под каким видом не буду продавать книги, кои не были ещё рассмотрены цензурою, а ещё более таких сочинений, кои подверглись запрещению»[26].

На Гродзеншчыне і Брэстчыне прозвішча яўрэйскіх купцоў Шарашэўскіх было шырока і добра вядомым: у 1862—1924 гг. у Гродна існавала знакамітая тытунёвая фабрыка І. Л. Шарашэўскага[27], які з'яўляўся таксама членам праўлення Таварыства дапамогі бедным яўрэям г. Гродна[28]; многія хто з Шарашэўскіх былі брэсцкімі ўрачамі і грамадскімі дзеячамі, як Лявон Самуйловіч — штатны ўрач Брэсцкага яўрэйскага пачатковага вучылішча і сябра Гарадскога санітарнага камітэта[29] ці А. С. Шарашэўскі — кандыдат у сябры Брэсцкага пажарнага таварыства[30].



Друкарня Лейбы Шарашэўскага працавала прыкладна ў 1811—1862 гг. (паводле кніжных выданняў друкарні), потым, у 1880—1888 гг., друкалітаграфіяй валодалі ўжо нашчадкі, якія выпусцілі яшчэ тры кніжныя выданні: адно на французскай і два на рускай мовах таксама вучэбнага характару. Апошнія вядомыя з адзначаных выданняў друкарні — гэта парады Я.У. Шышко па навучанні салдат [Дадат. № 7]. Дарэчы, Я.У. Шышко быў не толькі аўтарам, але таксама з'яўляўся і выдаўцом сваіх твораў, а яшчэ меў кніжны склад у Брэсце-Літоўскім[31].

---

24 НГАБ у Гродна. Ф. 1. Воп. 21. Спр. 120. Арк. 99.
25 НГАБ у Гродна. Ф. 1. Воп. 21. Спр. 120. Арк. 98—100.
26 НГАБ у Гродна. Ф. 1. Воп. 21. Спр. 120. Арк. 45.
27 Памятная книжка Гродненской губернии на 1907 год. Гродно : Губ. Тип., 1907. С. 78—232.
28 Памятная книжка Гродненской губернии на 1907 год. С. 78—79.
29 Памятная книжка Гродненской губернии на 1907 год. С. 196.
30 Памятная книжка Гродненской губернии на 1907 год. С. 232.
31 Каталог книгам и пособиям для войск, имеющихся в складе изданий Я. У. Шишко. г. Брест-Литовск. — Пинск, 1887. — 53 с.

У галіне кнігазбіральніцтва вызначыўся яшчэ адзін брэсцкі яўрэй — гэта Самуэль Хэфт (1806—1895?)[32], пра якога ў «Przewodniku Antykwarskim» (1911. № 2—3) напісаў Міхал Федароўскі. Самуэль Хэфт паходзіў з сям'і «od wieków w Brześciu Litewskim osiadłej i nie bylejakiej»[33]. Яго дзед Даніэль быў адным з дарадцаў і настаўнікаў князя Марціна Радзівіла, а бацька на гандлі лесам зарабіў вялікі капітал, пакінуўшы яго Самуэлю — 100 тыс. руб., тры мураваныя дамы. С. Хэфт з вялікай любоўю адносіўся да кніг, самавукам авалодаў пяццю мовамі. Усю сваю энергію ён накіраваў пасля смерці бацькі, калі можна было ўжо не хаваць свайго захаплення, на збор кніг. Па дварах, кляштарах і плябанях «nieraz całe biblioteki nabywał» і ў нястомнай кніжнай пагоні штогод наведваў Вільню, Варшаву, Жытомір або Кіеў, адкуль прывозіў свае кніжныя набыткі. Адным з шляхоў папаўнення кнігазбору быў абмен, як адзначае М. Федароўскі, напрыклад, з бібліяфілам з Украіны Канстанцінам Свідзінскім. Бібліятэка займала тры вялікія і светлыя пакоі, запоўненыя да столі кнігамі. У чацвёртым пакоі размяшчаліся замкнёныя на ключ шафы з асабліва каштоўнымі рарытэтамі. Пераважалі ў прыватнай калекцыі кнігі на польскай і лацінскай мовах, былі на французскай (прыродазнаўчай тэматыкі), рускай (палоніка), не было габраікі. Багата рэпрэзентаваны былі розныя навукі — філасофія, гісторыя, літаратура, краязнаўства, а таксама белетрыстыка. «Książki Heft kochał nie dla bibuły, ale dla ich trześci»[34]. Бібліятэка была каталагізавана яе ўладаром. У кнігах нікому не адмаўлялася, але асабліва каштоўныя С. Хэфт даваў толькі добра знаёмым. Як паведаміў М. Федароўскі, бібліятэка згарэла ў пажары 1894 г. (а ці не 1895 г.?), а праз год не стала і самога бібліяфіла.

Цесныя кнігагандлёвыя і кнігавыдавецкія сувязі існавалі паміж Брэст-Літоўскам і Вільняй. Арганізацыя першых кніжных лавак як у Брэсце, так і Гродне, Нясвіжы, Віцебску, Мінску і інш. належыць Юзафу Завадскаму, якому да 1810 г. удалося разгарнуць шырокую сетку падобных невялікіх складаў па розных гарадах Віленскай навучальнай акругі[35]. Вядома, што Ю. Завадскі ў такіх «пунктах кнігараспаўсюджання»

32 Kowkel L. Prywatne księgozbiory na Grodzieńszczyznie... S. 171.
33 Fedorowski M. Samuel Heft, bibliofil (obrazek z galeryi oryginalów litewsk.) // Przewodnik Antykwarski. 1911. № 2. S. 10.
34 Fedorowski M. Samuel Heft, bibliofil (obrazek z galeryi oryginalów litewsk.) // Przewodnik Antykwarski. 1911. № 3. S. 4.
35 Умецкая Е.С. Из истории распространения книги в Белоруссии... С. 55.

прымаў таксама і тэксты для друку ў Вільні. Сярод такіх выданняў — праграмная літаратура па прадметах для навучання ў павятовай Брэсцкай публічнай школе, складзеная брэсцкімі базыльянамі на 1807—1808 (1808) і 1818—1819 навуч. гады (1818)[36]. Выкарыстоўвалася берасцейцамі таксама кнігагандлёвая і паліграфічная база Варшавы, Гродна, Мінска і інш. Напрыклад, Брэсцкае Таварыства дабрачыннасці свае статуты друкавала ў Варшаве ў 1809, 1823, 1849 гг.[37]. У 1833 г. К. Нямцэвіч выдаў у Парыжы «Pamiętnik o powstaniu w Brzeście Litewskim w roku 1831»[38].

У павятовым жа Брэсце ў першай палове XIX ст., акрамя друкарні Л. Шарашэўскага, спрабавалі наладзіць тыпаграфскую справу Л. Гільберт (адно выданне 1843 г.) і І. Тамашэўскі (адно выданне 1858 г.). У губернскім цэнтры — Гродне — таксама ў гэты час вызначыліся сваёй дзейнасцю толькі тры друкарні.

Неспрыяльна на кніжнай справе адбіліся падзеі 1831 і 1863 гг. Як вядома, ужо пасля паўстання 1831 г. у Брэсце шматлікія з уніяцкіх і рымска-каталіцкіх кляштараў і касцёлаў, якія валодалі ўласнымі кнігазборамі, былі знішчаны або выкарыстоўваліся на іншыя патрэбы. Так, з манастыра бернардынаў і бернардынак зрабілі кадэцкі корпус, з манастыра аўгустынаў — камітэт для інжынераў крэпасці, з езуіцкага калегіума — дом каменданта, з манастыра базыльян — артылерыйскія казармы з царквой, уніяцкія цэрквы былі разбураныя пад крэпасць і г. д.[39]. Новы ўклад у кніжным жыцці горада асабліва адчуўся пасля 1863 г. Напачатку ў друкарскай справе назіралася зацяжное зацішша — да 1880 г. За гэты час не зафіксавана ніводнага брэсцкага выдання (?!). І толькі паступова ў 80—90-я гг. XIX ст. у Брэсце-Літоўскім пачынае наладжвацца тыпаграфская вытворчасць. У перыяд 1880—1904 гг. у горадзе працуюць наступныя прыватныя друкарні: нашчадкаў Шарашэўскага (1880—1888), І. Л. Ракава (1887 (?) — 1914), А. Разенталя (1892—1896), І. Кобрынца (1898—1914), Б. С. Лібермана (1901), М. Л. Глікмана (1902—1912), братоў Глікман (1904—1912), якія выпусцілі паводле звестак у каталогу «Кніга Беларусі, 1517—1917» 33 экз. выданняў (у 1811—1862 гг. — 7 экз.). У параўнанні з іншымі губернямі друкарская справа ў Гродзенскай губерні развівалася

36 Белоруссия в печати XIX — начала XX столетия. Ч. 2. С. 38, № 173 ; С. 42, № 187.

37 Белоруссия в печати XIX — начала XX столетия. Ч. 1. С. 308, № 1576.

38 Белоруссия в печати XIX — начала XX столетия. Ч. 1. С. 204, № 1051.

39 Акты, издаваемые Виленскою Археографическою комиссиею. Т. 4. Акты Брестского гродского суда. Вильна: Тип. Губ. Правл., 1870. С. XLVII—XLVIII.

вельмі слаба. Лічаныя друкарні ў Гродне (С. Лапіна, Э. Мейлаховіча) і Брэсце (І. Ракава, І. Кобрынца) выпусцілі 10—15 выданняў[40].

Паводле тэматыкі брэсцкіх выданняў вызначаецца літаратура па пытаннях адукацыі (10 назваў), ваеннай справе (8); па два выданні выйшла па медыцыне, сельскай гаспадарцы, мовазнаўстве, бібліяграфічнай і сацыяльна-эканамічнай тэматыцы; па адным — па рэлігіі, філасофіі, фізіцы. Чытацкае прызначэнне асноўнай групы друкаванай прадукцыі — гэта афіцыйныя (14 назваў), навукова-папулярныя (9), вучэбныя (3), даведачныя (3); па адным выданні прыпадае на рэлігійныя, навуковыя і папулярныя выданні. Мова большасці брэсцкіх кніг 1880—1904 гг. — руская. Толькі адно з выданняў нашчадкаў Шарашэўскага, як відаць, было на французскай мове [Дадат. № 6].




*Кніга з друкарні А. Розенталя.*

Аднымі з асноўных спажыўцоў кніжнай прадукцыі ў горадзе з'яўляліся навучальныя ўстановы. Найперш трэба ўспомніць пра Брэсцкую павятовую школу, якую ўтрымлівалі мясцовыя базыльяне (1797—1830), а пазней яна стала павятовай школай для шляхты (1830—1865), на аснове якой і была створана ў горадзе мужчынская прагімназія. Князь Адам Чартарыйскі, які наведаў школу ў 1817 і 1822 гг., адзначыў, што пры выкладанні геаграфіі найперш трэба знаёміць вучняў з уласным краем, а потым і з іншым светам, а пры выкладанні гісторыі асаблівую ўвагу звярнуць на польскую гісторыю. Значная ўвага надавалася ім і лацінскай мове. Прыкладна ў 1820-я гг. у бібліятэцы павятовай школы налічвалася

40 Бярозкіна Н.Ю. Гісторыя кнігадрукавання Беларусі... С. 118.

200 тамоў кніг пераважна на лацінскай мове[41]. Пазней, асабліва пасля 1865 г., у Брэсцкай мужчынскай прагімназіі (з 1901 г. — гімназія) (1865—1915) вывучалі найперш рускую мову, а таксама французскую, нямецкую, лацінскую, гісторыю, геаграфію, прыродазнаўства, матэматыку, маляванне, музыку і спевы[42]. У 1904—1915 гг. у Брэсце дзейнічалі жаночая гімназія[43], чатырохкласнае гарадское вучылішча, казённае пачатковае яўрэйскае вучылішча і інш., якія забяспечваліся ў асноўным ужо рускамоўнымі выданнямі з С.-Пецярбурга, Масквы і Вільні.

Народныя вучылішчы атрымлівалі навучальную літаратуру бязвыплатна са склада Гродзенскай дырэкцыі народных вучылішч «в количестве возможном по средствам дирекции и далеко недостаточном для наличного числа учащихся»[44]. Пры народных вучылішчах існавалі бібліятэкі для чытання для пісьменных сялян. Так, у Брэсцкім павеце такіх бібліятэк было найбольш, чым у іншых паветах Гродзенскай губерні — 51 бібліятэка з фондам у 4885 тамоў, найбольшую кнігавыдачу якіх давалі навучэнцы (колькасць прачытаных імі кніг за 1901 г. — 3870)[45].

Для распаўсюджання рускай кнігі «в местном разноверном и разноплеменном населении» служылі і гандлёвыя склады (продажныя) пры народных вучылішчах (у сярэднім на кожны склад прыходзілася па 34 тамы кніг). Аднак вучылася ў Брэсце ў гэты час толькі 36% дзяцей школьнага ўзросту (апошняе месца па Гродзенскай губерні). Да прыкладу ў Кобрыне — 96%.

Паводле таго ж «Агляду Гродзенскай губерні» за 1901 г. у Брэсце-Літоўскім дзейнічалі дзве асобныя бібліятэкі, тры бібліятэкі пры кніжных магазінах. Усяго ж кнігарняў налічвалася 10, друкарняў, літаграфій — 9, што падымала горад на трэцяе месца ў Гродзенскай губерні па гэтых паказчыках (наперадзе былі Беласток і Гродна). Аднак, як відаць, не ўсе друкарні займаліся выданнем кніг, а найбольш — этыкетак, бланкаў, канцылярскай і іншай дробна-спажывецкай прадукцыі. Асноўнымі выданнямі, якія запаўнялі кнігарні, бібліятэкі і адпаведна навучальныя

41 Spis szkół w Grodzieńskiej gubernii na początku XIX wieku / Wołyniak. Poznań : Kuryer Poznański, 1885. S. 18—19.

42 Брэсцкая мужчынская гімназія // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. Мн., 1994. Т. 2. С. 97.

43 Обзор Гродненской губернии за 1901 год. Гродно: Губ. Тип., 1902. С. 82—83.

44 Обзор Гродненской губернии за 1901 год. Гродно: Губ. Тип., 1902. С. 98.

45 Обзор Гродненской губернии за 1901 год. Гродно: Губ. Тип., 1902. С. 102.

ўстановы, у гэты час былі, як сведчаць нават друкаваныя каталогі брэсцкіх бібліятэк, рускамоўныя кнігі з сталічных гарадоў Расійскай імперыі.



Кніга з друкарні І. Кобрынца.

У канцы XIX—пач. XX стст. у Брэсце ўзнікаюць розныя грамадскія таварыствы, як Таварыства ўрачоў (1903—1915), якое засноўвае сваю бібліятэку (бібліятэкары — Б.Б. Хват, М.С. Крастоў)[46]. Паводле статута, Таварыства займалася таксама арганізацыяй публічных чытанняў, выданнем папулярных твораў па праблемах агульнай і асабістай гігіены. Невялічкая бібліятэка збіралася ў Брэсцкім гарадскім шляхетным таварыстве. У 1890 годзе ў ёй налічвалася 367 асобнікаў кніг і 18 назваў перыядычных выданняў за 1889 г., 7 ілюстраваных альбомаў[47]. Асобна вылучаны даведачныя выданні — правілы гульні ў віст і каляндар Гопэ на 1890 г. У фондзе пераважалі кнігі, якія выходзілі ў якасці дадаткаў да часопісаў «Вестник Европы», «Исторический Вестник», «Наблюдатель», «Пантеон Литературы», «Русская мысль», «Русское Богатство», «Северный Вестник», «Труд». Мела сваю бібліятэку таксама Брэсцкае пажарнае таварыства [Дадат. № 42]. У 1913 г. у брэсцкай друкарні І. Ракава быў надрукаваны «Каталог библиотеки Брестского Пожарного общества», складзены ў алфавіце аўтараў і назваў: кнігі і зборнікі — 1483 тамы, перыядычныя выданні — 1046 тамоў, усяго — 2529 тамоў. Большасць кніжнага фонду складала мастац-

46 Памятная книжка Гродненской губернии на 1907 год. Гродно : Губ. Тип., 1907. С. 231.
47 Первое прибавление к каталогу Брестского благородного собрания, напечатанному в 1889 году. — Варшава: Тип. Марии Земкевич, 1890. — 18 с.

кая літаратура. На жаль, апісанні пададзены без выхадных дадзеных. Сярод мясцовых выданняў адлюстраваны толькі «Памятные книжки Гродненской губернии» за 1902, 1907, 1909 і 1912 гг.

Ствараліся і дзейнічалі ў Брэсце вайсковыя бібліятэкі (бібліятэка 6-га пяхотнага Лібаўскага палка, 5-га Калужскага імператара Вільгельма I палка, 149-га пяхотнага Чарнаморскага палка), аб складзе фондаў якіх сведчаць іх друкаваныя каталогі [Дадат. № 40, 45, 75]. Так, праца па складанні «Систематического «Указателя» книг 6-го пехотного Либавского полка» (1902, друкарня Глікмана) [Дадат. № 45] у яго аўтара капітана (?) Кісялёва, які, відаць, і загадваў бібліятэкай, заняла чатыры гады. Бібліяграфічны дапаможнік быў адначасова і сродкам для праверкі фонда бібліятэкі, выконваў пошукавыя функцыі, быў крыніцай бібліяграфічнай інфармацыі і папулярызаваў бібліятэку. Матэрыял у паказальніку сістэматызаваны па 10 аддзелах, пачынаючы з багаслоўскіх і ваенных навук. Значную частку ў каталогу займала мастацкая літаратура — белетрыстыка — 1200 назваў, а таксама кнігі па вайсковай справе — 557. Усяго сістэматызавана 2381 назва выданняў, якія ўсе выключна на рускай мове. Прыводзяцца дапаможныя паказальнікі: алфавітны паказальнік аўтараў, алфавітны паказальнік да ваеннага аддзела, алфавітны спіс драматургаў. Разам з пэўнымі дадатнымі бакамі, трэба адзначыць, што, на жаль, апісанні кніг прыводзяцца без месца і года выдання.



Яшчэ адна крыніца інфармацыі пра вайсковую бібліятэку ў Брэсце — «Систематический каталог офицерской библиотеки 149-го пехотного Черноморского полка» (1911, друкарня І. Ракава) [Дадат. № 40]. Уключае 3862 назвы кніг, 50 назваў перыядычных выданняў. Размешчаны таксама ў сістэматычным парадку, па 16 аддзелах, пачынаючы з «нравственных наук», філасофскіх, дзяржаўных, ваенных і г.д. Асобна вылучаны руская і замежная мастацкая літаратура, дзіцячая літаратура, перыядычныя выданні. Складзены загадчыкам бібліятэкі паручнікам (?) Клюевым. У апісанні падаецца месца і год выдання, а таксама колькасць экзэмпляраў. Пераважаюць с.-пецярбургскія і маскоўскія выданні. Аднак, паводле каталога, можна зрабіць вывад, што геаграфія кніжных выданняў у бібліятэцы была даволі шырокай: Адэса, Арол, Арэнбург, Берлін, Варонеж, Варшава, Казань, Кіеў, Кутаісі, Лейпцыг, Мітава, Нарва, Ніжні Ноўгарад, Паўлаўск-на-Доне, Рыга, Сумы, Томск, Тыфліс, Харкаў, а таксама — унікальная рэч — Вільня (9 назваў); Гродна (3), Беласток (1). Як

відаць з каталога, у бібліятэцы былі кнігі ў асноўным таксама на рускай мове, аднак можна заўважыць і выданні на французскай, нямецкай мовах, асабліва сярод перыёдыкі, якая мела ваенную тэматыку.

У 1902—1906 гг. у горадзе пачынаюць выдавецкую дзейнасць арганізаваныя палітычныя партыі: БУНД, Брэсцкая арганізацыя польскай сацыялістычнай партыі ў Літве, Брэсцкая арганізацыя РСДРП, якія практыкавалі захоп прыватных друкарняў і выдавалі такім чынам лістоўкі, адозвы, пракламацыі[48]. Па нашых падліках не менш 12 назваў такіх выданняў былі аддрукаваны на друкарскіх станках І. Кобрынца і І.Л. Ракава.



*Кніга з друкарні М.Л. Глікмана.*

З 1905 і да пачатку Першай сусветнай вайны 1914—1915 гг. у Брэсце дзейнічала 6 друкарняў — І.Л. Ракава, І. Кобрынца, М.Л. Глікмана, братоў Глікман, А. Гендлера (1909—1912), О(?). Глікмана (1912—1913), якія выпусцілі 49 назваў выданняў, тэматыка якіх паводле колькасных паказчыкаў наступная: грамадска-палітычная (14 назваў); бібліяграфічна-бібліятэчная (7); ваенная, сацыяльна-эканамічная (па 5); мастацкая літаратура і фальклор (5); гісторыя, адукацыя, медыцына, мовазнаўства, сельская гаспадарка (па 2); рэлігія, арыфметыка, літаратуразнаўства і інш. (па 1). Па чытацкім прызначэнні вылучаюцца масава-палітычныя (14 назваў), афіцыйныя (8), даведачныя (7), вучэбныя (4); навукова-папулярныя, літаратурна-мастацкія, папулярныя (па 3); рэлігійныя і навуковыя (па 1). Што да мовы, то, адпаведна паводле выяўленых брэсцкіх выданняў 1905—1915 гг., — гэта руская мова. Аднак

48 Біч М.В. Брэсцкія выступленні працоўных 1905 г. // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. Мн., 1994. Т. 2. С. 108—109.

у гэты час у Брэсце выходзіла літаратура і на ідыш, сведчаннем чаму з'яўляецца каталог кніг яўрэйскай бібліятэкі І. Рыбацкага на ідыш і на рускай мовах [Дадат. № 39].

Нягледзячы на нешматлікую колькасць брэсцкіх выданняў, трэба адзначыць іх агульную культуру выдання (афармленне і змест), якую, у прыватнасці, прэзентуюць такія даведачна-бібліяграфічныя выданні, як каталогі і паказальнікі бібліятэк. Хаця і не ўсе дадзеныя выданні ўдалося прагледзець (у асноўным з прычыны адсутнасці ў бібліятэках Беларусі), тым не менш, менавіта гэтыя выданні, а таксама, зразумела, і іншыя брэсцкія рарытэты XIX—пач. XX стст., з'яўляюцца важкай крыніцай інфармацыі і сведчаннем месца і ролі кнігі ў тагачасным грамадстве.

Аўтар артыкула выказвае вялікую падзяку Міколу Нікалаеву, супрацоўнікам Навуковай бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта за ўдакладненне звестак аб брэсцкіх выданнях, за атрыманне копій некаторых з іх, што захоўваюцца адпаведна ў РНБ у С.-Пецярбургу і Вільні. Асаблівая ўдзячнасць і спадарыні Ліліі Коўкель за адшуканую ёю і перададзеную інфармацыю з Гродзенскага гістарычнага архіва.

# ДАДАТАК

## Спіс брэсцкіх выданняў XIX—пач. XX стст.

(у храналогіі дзейнасці друкарняў і выхаду выданняў)

### Друкарня Л. Шарашэўскага

1. Węgiełski, W. Kronika zbioru ewangelickiego. — Brześć Litewski, **1811**. — В. Ч. 2. С. 359. № 1961.
2. P. F. S. Krótki zbior ksiąg ... starego i nowego testamentu ... dla użytku młodzieży. — Brześć Litewski, **1858**. — 224 s. — В. Ч. 2. С. 359. № 1960.
3. Elementarz polski, czyli nauka czytania polskiego z małemi powiastkami I bajeczkami, ułożony przez przyjaciela dzieci. — Brześć Litewski, **1860**. — 39 s. — В. Ч. 2. С. 32. № 141.
4. Ołtarzyk mały, albo ćwiczenia się w nabożeństwie. — Brześć Litewski, **1860**. — 284 s. — В. Ч. 2. С. 359. № 1959.
5. Весна жизни. Новый русский букварь, изданный приятелем детей. — Брест-Литовск, **1862**. — 32 с. : ил. — КБ. С. 329. № 322. — РНБ.

### Друкалітаграфія нашчадкаў Л. Шарашэўскага

6. Ганд, Вильгельм. Quadrille francuise et quadrille a ta cour (Les Lanaers). — Брест-Литовск, **1880**. — 9 с. — КБ. С. 333. № 413.
7. Шишко, Яков Устинович. Советы унтер-офицерам и готовящимся к этому званию в учебных командах. — 4-е изд., испр. и изм. — Брест-Литовск, **1888**. — 229, III с. : ил. — КБ. С. 565. № 3861—3862. — РНБ, РДБ.
8. Шишко, Яков Устинович. Советы учителям молодых солдат. — Брест-Литовск : [Я. У. Шишко], **1888**. — 34 с. : ил. — КБ. С. 565. № 3863. — РНБ.

### Друкалітаграфія А. Разенталя

9. Будущая война по Сарматикусу и Антисарматикусу. С карт. Европы между меридианами Москвы и Парижа в масштабе 50 в. в дюйме / сост. Казак. — Брест-Литовск, **1892**. — 130 с., 1 л. карт. — КБ. С. 324. № 243. — РНБ, РДБ.
10. Шуровский, Н. Практические книги сельскохозяйственной отчетности по двойному счету. — Брест-Литовск, **1892**. — 15 с., 3 вкл. л. табл. — Авт. указан в конце текста. — КБ. С. 373. № 3887. — РНБ, РДБ, НББ (Ба 110881бр).
11. Штейнберг, Ксаверий Германович. Пожар 4-го мая 1895 года в Брест-Литовске. — Брест-Литовск, **1895**. — [2], 22 с. — КБ. С. 566. № 3881. — РНБ.
12. Братское слово бывшим униатам Подляшья, по случаю коронования их императорских величеств государя императора Николая II и императрицы государыни Александры Федоровны, 14 мая 1896 г. / свящ. Н. И. Л. — Брест-Литовск, **1896**. — 48 с. — КБ. С. 408. № 1476. — НББ (Ба 48100).

## Друкарня І. Кобрынца

13. Меркулов, Н.А. Суждение о бытии. — Брест-Литовск, **1898**. — 34 с. — КБ. С. 402. № 1400. — РНБ.
14. Глыбовский, Федор Григорьевич. Пережитое и перечувствованное в Пинском духовном училище Минской губернии (1865—1868 гг.). — Брест-Литовск, **1899**. — 40 с. — КБ. С. 336. № 450. — РНБ, РДБ.
15. Бутурлин, Сергей Александрович. Охотничье пульное оружие / изд. Н. Анофриева. — Брест-Литовск, **1902**. — 197 с. : ил., табл. — КБ. С. 324. № 248. — РНБ, РДБ, НББ (Ба112496).
16. Анофриев, Николай Юрьевич. Русская охотничья библиотека. Полный список книг и брошюр с кратким о каждой из них отзывами. — Брест-Литовск, **1905**. — 160 с. — КБ. С. 315. № 69. — РНБ, РДБ.
17. Зоненберг, X. История города Брест-Литовска. 1016—1907. По достоверным источникам и правдоподобным умозаключениям / сост. X. Зоненберг. — [Брест-Литовск], **1907**. — 104 с. — На обл.: 1908. — КБ. С. 372. № 875. — РНБ, РДБ, НББ (м/ф).
18. Фридман, Яков. Характеристика «героя» нашего времени Санина. (По роману Арцыбашева «Санин». — Брест-Литовск, **1908**. — 32 с. — КБ. С. 559. № 3755. — РНБ.
19. Ральбе, Самсон Давидович. Сборник арифметических задач, расположенных по типам. Вып. 1. Задачи и примеры на целые и именованные числа / Самсон Давидович Ральбе, Яков Львович Шескин ; изд. И. Кобринца. — Брест-Литовск, **1909**. — [4], 105, III с. — КБ. С. 500. № 2603. — РНБ, РДБ.
20. Журнал годичного общего собрания Брестского сельскохозяйственного общества 29 мая 1910 г. — Брест-Литовск, [**1910**]. — 43 с. — КБ. С. 358. № 747. — РНБ, РДБ, НББ (Ба3080).
21. Грулев, Михаил Владимирович. Злобы дня в жизни армии. — [Брест-Литовск], **1911**. — [8], 331 с. — КБ. С. 340. № 523. — РНБ, РДБ, НББ (В16932).
22. Журнал годичного общего собрания Брестского сельскохозяйственного общества 21 мая 1911 г. — Брест-Литовск, [**1911**]. — 78 с., 1 вкл. л. табл. — КБ. С. 358. № 747. — РНБ, РДБ, НББ (Ба3081).
23. Хмелевский, Я.М. Перед урной, или Размышления избирателя. — Брест-Литовск, **1911**. — 18 с. — КБ. С. 560. № 3778. — РНБ.
24. Авербух, З. Н. Преступное равнодушие. — [Брест-Литовск], **1912**. — 16 с. — КБ. С. 310. № 11. — РНБ, РДБ.
25. Хмелевский, Я.М. Календарь-справочник гор. Брест-Литовска на 1912 год. — Изд. 1 год. — Брест-Литовск, [**1912**]. — 106 с., 1 л. план. — КБ. С. 381. № 1012. — РНБ, РДБ, НБВУ, НББ (м/ф).
26. Хмелевский, Я.М. Календарь-справочник гор. Брест-Литовска на 1913 год. — Изд. 2 год. — Брест-Литовск, [**1913**]. — 136 с., 2 л. план. — КБ. С. 381. № 1012. — НБВУ.

27. Хмелевский, Я.М. Календарь-справочник гор. Брест-Литовска на 1914 год. — Изд. 3 год. — Брест-Литовск, [**1914**]. — 140 с., 1 л. план. — КБ. С. 381. № 1012. — НБВУ, НББ.

## Друкалітаграфія І. Л. Ракава

28. ОтчетодеятельностиПравленияОбществавспомоществованиянуждающимся ученикам Брестской прогимназии за 1901 г. — Брест-Литовск, **1902**. — 11 с. — КБ. С. 433. № 1812. — НББ (Ба39897).
29. Памятка Таманцу «XXV» по случаю 25-летия сражения при Деве-Бойну 23-го октября 1877 года. — 23 октября 1902 года / сост. кап. Богуцкий. — Брест-Литовск, **1902**. — 38, [2] с. — Описано по обл. — КБ. С. 476. № 2249. — РДБ.
30. Штейнберг, Ксаверий Германович. Современное санитарное состояние города Брест-Литовска. — Брест-Литовск, **1902**. — 30 с. — КБ. С. 566. № 3882. — РНБ, РДБ.
31. Якубович, Иван Николаевич. 1. Причина всемирного тяготения. 2. Гипотеза о приближении Земли к Солнцу. — 2-е изд., испр. И доп. — Брест-Литовск, **1902**. — 16 с., 4 л. ил. — В первом изд. загл.: Причина тяготения. — КБ. С. 568. № 3924. — РДБ, РНБ.
32. Росселевич, Л. Русский в Германии и Австрии : подробный дорожный словарь / сост. Л. Росселевич. — Изд. Е. Н. Кобозев. — Брест-Литовск, **1904**. — 41 с. — КБ. С. 503. № 2659. — РНБ.
33. Гадалка. Описание святочных и др. гаданий. — Брест-Литовск, **1908**. — 8 с. — КБ. С. 333. № 404. — РНБ.
34. Каталог музея П. П. Эзерц. — Брест-Литовск, **1908**. — 32 с. : ил. — КБ. С. 386. № 1105. — НБВУ (R4-2/96).
35. Предсказатель. — Брест-Литовск, **1908**. — 18 с. — КБ. С. 490. № 2456.
36. Парабалов. Письма из Аркадии. — Брест-Литовск, **1909**. — 16 с. — КБ. С. 480. № 2262. — РНБ, РДБ.
37. Антонов. Стрелковые записи для баталионных, ротных, эскадронных, сотенных командиров, начальников учебных пулеметных команд гг. офицеров и юнкеров. С 300 решенными стрелковыми задачами на все табл., прил. к «Наставлению для обучения стрельбе из винтовок издания 1909 г.» / сост. руководителем штабс-капитанских стрелковых курсов подполк. Антоновым. — 1-е изд. — Брест-Литовск, **1911**. — [6], 77, [3], 21 с. ; 2 л. табл. — КБ. С. 315. № 71. — РНБ.
38. [Каталог]. — Брест-Литовск, **1911**. — [12] с. — (Брест. Евр. б-ка). На обл. загл.: Б-ка И. Рыбацкого в Брест-Литовске. — КБ. С. 383. № 1036. — РНБ, РДБ, ЦНБ НАНБ (Фр 98 — м/ф).
39. Систематический каталог офицерской библиотеки 149-го пехотного Черноморского полка. — Брест-Литовск, **1911**. — 336 с. — КБ. С. 514. № 2859. — РНБ, РДБ, НБВУ (В15).
40. Положение о школе офицерских детей 150-го пехотного Таманского полка. — Брест-Литовск, **1912**. — 14 с. — КБ. С. 484. № 2344.

41. Каталог книг библиотеки собрания Брестского Пожарного Общества. — Брест-Литовск, **1913**. — [279] с. — КБ. С. 385. № 1071. — РНБ, РДБ.
42. Зюзин, Н. И. Каталог цен на все русские монеты с древнейших времен до настоящих, с подробными историческими сведениями появления, развития, способов чеканки, различия и определения ценности и годности / сост. Н. И. Зюзин. — Брест-Литовск, [**1914**]. — 35 с. — КБ. С. 373. № 879. — РНБ.

## [Друкарня] Б. С. Лібермана

43. Ватштейн, Я.М. Практическая русская грамматика, применяемая к потребностям инородческих школ, с приложением орфографических упражнений. — Брест-Литовск, **1901**. — [4], 110 с. — КБ. С. 326. № 290. — РДБ, РНБ.

## Друкарня М. Л. Глікмана

44. Систематический «Указатель» библиотеки 6-го Пехотного Либавского полка. Сост. по 1901 г. включительно / [сост. кап. Киселев]. — Брест-Литовск, **1902**. — [574] с. ; разд. паг. — КБ. С. 514. № 2861. — РНБ, РДБ, ЦНБ НАНБ (Фр 36 — м/ф).
45. Харкевич, Филипп Казимирович. О памятниках на брестском Суворовском поле сражения. — Брест-Литовск, **1902**. — [2], 41 с. — КБ. С. 560. № 3771; BP. 1998. T. 4. S. 29. — РНБ, РДБ, БВУ.
46. Иосем, Ф.Ш. Значение зубов и гигиена их / сост. Ф.Ш. Иосем, дантист при Брест-Литовской гимназии. — Брест-Литовск, **1903**. — 18 с. — КБ. С. 377—378. № 977. — РНБ, РДБ.
47. Симонов, Лев Васильевич. Один из потомков Нашебургского полка [3-й кавказский линейный батальон] / ген.-майор Л. Симонов. — Брест-Литовск, **1904**. — 79 с. — КБ. С. 513. № 2851. — РНБ, РДБ.
48. Хмелевский, Я.М. Партийность и депутатство. — Брест-Литовск, 1912. — 21 с. — КБ. С. 560. № 3777. — РНБ.

## Друкарня братоў Глікман

49. Мышляев. Описание боевой жизни 152-го пехотного Владикавказского полка в минувшую войну 1877—1878 годов. — Брест-Литовск, [**1904**]. — 152 с. — КБ. С. 408. № 1471. — РНБ.
50. Ватштейн, Я.М. Упражнения в изложении мыслей, в связи с элементарными сведениями из синтаксиса. Внешнее построение речи. Т. 1. — Брест-Литовск, **1908**. — 95 с. — КБ. С. 326. № 291.
51. Правила и Программы приемных испытаний в низшие (пригот. [овительные] — V) классы Брестской мужской гимназии. — Брест-Литовск, **1908**. — 57с. — КБ. С. 488. № 2407. — РНБ, НББ (Ба115853).

52. Дрейцер, Александр Абрамович. Учебник физики в объеме курса средних учебных заведений. Вып. 1. — Брест-Литовск, **1910**. — 40 с. — КБ. С. 355. № 687. — РНБ, РДБ.
53. Тебиев, Иосиф Георгиевич. Подготовка молодых солдат к стрельбе. — Брест-Литовск, **1912**. — 36 с. — КБ. С. 531. № 3107. — РНБ, РДБ.

## Друкарня О(?). Глікмана

54. Бакрадзе, В.И. Несчастная женщина : драма в 4-х д. и 8-ми карт. В.И. Бакарадзе. — Брест-Литовск : Изд. автора, **1912**. — 70 с. — КБ. С. 318. № 136. — РНБ, РДБ.
55. Ватштейн, Я.М. Упражнения в изложении мыслей. Внешнее построение речи : уч. пособие для нач. училищ. — 2-е изд. — Брест-Литовск, **1913**. — 95, 1 с. — КБ. С. 326. № 292.
56. Пачиковский, Константин Игнатьевич. Подробный алфавитный указатель болезней и телесных недостатков, освобождающих от военной службы и не препятствующих приему на нестроевые должности / сост. и. д. делопроизводителя Брест-Лит. уезда по воин. повинности присутствия К. И. Пачиковский. — Изд. неофиц. — [Брест-Литовск], **1913**. — 74 с. — КБ. С. 481. № 2265. — РНБ.

## Друкарня А. Гендлера

57. С. Б. Как открыть в деревне бесплатную библиотеку-читальню / сост. С. Б. и Н. Р. [С. Е. Босяков, Н. Л. Романовский]. — Брест-Литовск, **1909**. — 15 с. — Перед загл. авт.: С. Б. — БД. С. 133. № 503 ; КБ. С. 323. № 216. — РНБ, РДБ, НББ (м/ф).
58. Копылов, Александр Гаврилович. 6-й пехотный Либавский принца Фридриха Леопольдовича прусский полк в Отечественную войну 1812 г. / сост. штабс-кап. Копылов. — Брест-Литовск, 1912. — 40 с. : 4 л. портр. — КБ. С. 390. № 1174. — РДБ.

## Іншыя выданні

59. Богданов, Иоанн. Объяснение литургии. По программе, одобренной Священнейшим синодом и утв. Его имп. Высочеством 1848-го г. 10 сент. — Брест-Литовск, [**1848**]. — [2], 45 с. — Написано от руки. литогр. — КБ. С. 321. № 192.
60. Отчет о деятельности правления Общества вспомоществования нуждающимся ученикам Брестской прогимназии за 1900 г. — Брест-Литовск, типо-литография Х. Розенталь, **1901**. — 12 с. — КБ. С. 433. № 1812. — РНБ, РДБ.
61. Инструкция для действующих членов Брест-Литовского городского пожарного общества. — Брест-Литовск, **1898**. — 18 с. — КБ. С. 376. № 942. — РНБ.

62. Отчет собрания Брестского городского пожарного общества с 21-го ноября 1900 г. по 21-го ноября 1901 г. — Брест-Литовск, **1901**. — 10 с. — КБ. С. 434. № 1832. — РНБ.
63. Устав Общества вспомоществования нуждающимся ученикам Брестской прогимназии [Утв. 18 сент. 1881 г.]. — Брест-Литовск, **1901**. — 15 с. — КБ. С. 551. № 3526. — РНБ.
64. Отчет о деятельности правления Общества вспомоществования нуждающимся ученикам Брестской прогимназии за 1907 г. — Брест-Литовск, **1908**. — 11 с. — КБ. С. 433. № 1812. — РДБ.
65. Устав Пружанского общества взаимного кредита. — Брест-Литовск, **1908**. — 26 с. — КБ. С. 554. № 3634. — РНБ.
66. Треепольский, Антоний М. Поломническое путешествие православных учеников Брестской мужской наследника цесаревича Алексея Николаевича гимназии в Яблочинской Свято-Онуфриевский монастырь Холмской епархии 29—30 августа 1910 г. / сост. свящ. Треепольский. — Брест-Литовск, **1910**. — 17 с. — КБ. С. 533. № 3153. — РДБ.
67. Устав 2-го ссудо-сберегательного товарищества Брест-Литовска. — Брест-Литовск, **1910**. — 41 с. — КБ. С. 543. № 3306. — НБВУ (B59-6/231).
68. Каталог книгам библиотеки 5-го пехотного Калужского императора Вильгельма I-го полка. 1911 г. — Брест-Литовск, **1911**. — 184 с. — БД. С. 167. № 736.
69. Караффа-Корбут, Казимир Викентьевич. Краткое руководство практической дезинфекции в условиях военного времени. — Брест-Литовск ; Слоним ; Минск, [**1915**]. — 62 с. с черт. — КБ. С. 382. № 1020. — РНБ.

| **Скарачэнне назвы бібліятэкі** | **Поўная назва бібліятэкі** |
|---|---|
| БВУ | Бібліятэка Варшаўскага універсітэта |
| НББ | Нацыянальная бібліятэка Беларусі |
| НБВУ | Навуковая бібліятэка Віленскага універсітэта |
| РДБ | Расійская дзяржаўная бібліятэка ў Маскве |
| РНБ | Расійская нацыянальная бібліятэка ў С.-Пецярбургу |
| ЦНБ НАНБ | Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі |

*Карев Д. В.*

# Библиотечные и рукописные собрания Западной Беларуси в конце XVIII — первой половине XIX веков ( историографические и источниковедческие аспекты проблемы: собирание, изучение и введение в социокультурный контекст эпохи)



После вхождения в состав Российской империи западные земли Беларуси фактически до середины XIX в. не рассматривались ни царским правительством, ни дворянской российской историографией как отдельная исторически сложившаяся этническая единица. Их рассматривали как часть более широкого территориального комплекса, именовавшегося «губерниями от Польши возвращёнными», «Западным краем», «Западной Русью» и, наконец, «Литвой»[1].

Последняя четверть XVIII — нач. XIX вв. были для русского учёного мира периодом «первого знакомства» с Белоруссией. Поэтому, неслучайно, первые научные экспедиции русских исследователей в крае (И.И. Лепёхина в 1773 г., В.И. Севергина в 1802 г.) имели по преимуществу ознакомительный естественнонаучный характер. Между тем белорусские земли хранили в своих библиотеках, государственных и частных архивах и собраниях рукописей богатейшие исторические источники, позволявшие создать полнокровную синтетическую картину её бурной и драматической истории. Сознательным коллекционированием памят-

1 Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 7.

ников материальной культуры и исторической документации в Белоруссии ещё со времён средневековья занимались представители знатнейших магнатских фамилий — Радзивиллы в Несвиже, ставшем уже в XVIII в. важнейшим хранилищем документов Великого княжества Литовского, Сапеги в Деречине, Хрептовичи в Щорсах, Тышкевичи в Логойске и др. У многих из них (как у Радзивиллов) были свои частные историографы[2].

Последовавшие за разделами политические репрессии не уничтожили духа реформ, свободомыслия в общественном сознании элиты Белоруссии и Литвы. Одна её часть, наиболее активная, отправилась добывать свободу погибшей Польше в «польские легионы» Домбровского, другая — большая, оставшаяся на родине, сделала ставку в возрождении государства, на Просвещение, сохранение языковых, бытовых и исторических традиций. Громадное значение истории как средства сохранения «социальной памяти» народа отчётливо осознавалось многими шляхетскими идеологами к XVIII — нач. XIX вв.

Поэтому разделы Речи Посполитой отразились на истории, пожалуй, более чем на какой-либо другой науке вследствие теснейшей её связи с политической жизнью края, а также её роли в формировании и утверждении национального самосознания. В этом плане падение Речи Посполитой в определённом смысле стало поворотным моментом в истории не только собственно польской историографии, но и польскоязычной, по преимуществу, белорусской историографии дореформенного периода. Это не только отразилось на направлении и формах её развития, но и в значительной мере обусловило то место, которое она занимала в общественной жизни края. По представлениям полонизированной белорусской шляхетской интеллигенции история должна была служить в борьбе за сохранение ее культуры, традиций и своеобразия[3]. В силу этого элита Белоруссии и Литвы (в лице различных её социальных групп — магнатов, шляхты, части мещанства) оказалась очень восприимчивой к исторической проблематике и историческим исследованиям. Сохранение остатков прошлого, их поиски, сбор, описание, публикация источников, понимаемые то как долг перед Отчизной, то как своего рода



---

2 Каханоўскі,Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI — XIX стст. Мн.: Навука і тэхніка, 1984. С. 17—22.

3 Materialy do dziejow literatury i oswiaty na Litwie i Rusi z archiwium drukarni i ksiegarni Jozefa Zawadskiego w Wilne z lat 1805 — 1865. Zebral T. Turkowski. Tt. 1 — 3. — Wilno. : Nakl. T-wa Przyjaciol Nauk w Wilne. 1935 -1937. — 424 s. + 316 s. + 324 s.

«мода» на старину, то как средство прославления собственного рода, в конечном итоге привели в первой трети XIX века к ситуации если не источниковедческого, то уж во всяком случае «источникового» бума. Спрос рождал предложение, а практика широко распространённого частного коллекционирования настоятельно требовала осмысленного, рационального, критического подхода к изучению и оценкам письменных свидетельств седого прошлого.

Наиболее мощным генератором и пропагандистом рационалистических, общественно-политических, философских, исторических идей эпох Просвещения и Романтизма Белоруссии и Литвы первой трети XIX века был, несомненно, Виленский университет. В изучении истории своего края учёные и воспитанники Виленского университета нередко выступали в роли первопроходцев на мало освоенной ещё тропе находок, открытий и изучения документальных сокровищ минувших столетий.

В руках университета находилось ещё одно очень важное средство пропаганды исторических и общественно-политических взглядов и идей — цензура всех книг, выходивших на территории 9 подведомственных губерний Украины, Белоруссии и Литвы, входивших в состав Виленского учебного округа. Он являлся основным поставщиком образованных кадров учителей для школ округа. Отсюда понятно то существенное воздействие, которое оказывал Виленский университет на характер и «температуру» общественного сознания «образованного меньшинства» края[4]. Направление и качество этих идей во многом определялось содержанием курсов, читаемых либерально и демократически настроенным профессорско-преподавательским корпусом вуза. В числе главных архитекторов исторического мышления интеллектуальных элит Белоруссии и Литвы той эпохи, несомненно, следует назвать И. Лелевеля, И. Даниловича, И. Ярошевича, И. Онацевича, И. Лобойко — наиболее авторитетных знатоков истории края и памятников его исторического прошлого.

«Охота» за историческими источниками, желание превратить Виленский университет в центр собирания ценнейших письменных раритетов по истории захватили даже ректора вуза — математика и естествоиспытателя Я. Снядецкого. Снядецкий деятельно собирал и стягивал в

4 Карев Д.В. Виленский университет — центр археографических исследований Литвы и Белоруссии первой трети XIX в. // Исследования по источниковедению истории СССР доокт. периода. М., 1988. С. 151—161.

библиотеку университета рукописи из собраний (»тек») М. Догеля, Альбертранди, копии документов из библиотеки гр. Залусских.

И.Н. Лобойко (1786—1861), профессор российской словесности Виленского университета, помимо своей преподавательской деятельности, энергично занимался палеографией, археологией, поиском памятников славянской письменности. Он сообщал гр. Н.П. Румянцеву о личности и творчестве историков Белоруссии и Литвы: И. Даниловича, И. Онацевича, М. Бобровского, Т. Нарбута, содержании архивохранилищ и наиболее интересных частных коллекций рукописей. Под руководством И.Н. Лобойко студенты университета составили большое описание 80 местечек и городов Западной Белоруссии и Литвы, он был одним из ревностных поборников организации археографических экспедиций на территории края[5].

И.Н. Данилович (1787—1843) — сын белорусского униатского священника, студент, а затем и профессор права Виленского университета, получил солидную подготовку в области истории законодательства в Варшаве и Петербурге. Первый исследователь белорусско-литовского летописания, он был энергичным и удачливым археографом, одним из основателей источниковедения Белоруссии. Во время своих археографических разысканий в архивах Западной Белоруссии, Варшавы, Петербурга и Москвы он активно собирал материалы по истории «древней Литвы». Виленские студенты привозили своему профессору целые груды пергаментных рукописей, преимущественно из униатских церквей и монастырей. Ещё в студенческие годы Данилович, изучавший право, серьёзно интересовался вопросами изучения письменных памятников старины. В то же время в Вильно образовался кружок молодёжи (из сыновей униатских священников), хорошо знавшей церковнославянский и белорусский языки (М. Бобровский, А. Мартиновский, И. Онацевич, П. Сосновский и др.), в которых Данилович разбудил охоту к поискам древних старославянских книг и рукописей. А когда при университете была создана Главная Духовная семинария (1816 ), которая дала краю несколько хорошо подготовленных (и в научном отношении) молодых униатских священников, поиск славянских рукописей распространился на обширные территории Литвы и западной Белоруссии, начал приобретать характер систематических археографических экспедиций. По-видимому, здесь надо



5 Русский биографический словарь. О. СПб., 1905. С. 367.

валася набыццё ўсяго кнігазбору ці яго часткі. Яскравай ілюстрацыяй з'яўляецца факт набыцця Трэмбіцкім бібліятэкі ад свайго суседа Міхаіла Баброўскага[7]. Некаторыя кнігі папаўнялі паліцы бібліятэк у якасці падарункаў. Асобнікі з даронымі надпісамі захаваліся ў калекцыі Вандаліна Пуслоўскага[8]. Вядомы выпадкі, калі неабходныя, але рэдкія кнігі, з'яўляліся прадметам абмену.

Аднак большасць кніг траляла ў прыватныя кнігазборы з мясцовых і замежных кнігарняў[9], што часам пацвярджаюць запісы на захаваных асобніках (напрыклад, з калекцыі Пуслоўскага). Найбліжэйшым і самым развітым цэнтрам кніжнага гандлю была Вільня, і толькі ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў правінцыі пачалі з'яўляцца стацыянарныя кніжныя крамы. З гэтай прычыны ў XIX стагоддзі актыўна практыкаваўся пісьмовы заказ на кнігі. Рассылка кніг адбывалася на падставе каталогаў буйных кнігарняў са змешчанымі ў іх цэннікамі. Кнігі дасылаліся поштай, прычым сталыя кліенты карысталіся скідкай. Некаторыя кніжныя выданні і часопісы можна было набыць шляхам падпіскі, а імянны паказальнік заказчыкаў часам друкаваўся ў канцы кніг ці часопісаў. Вельмі рэдкай, але цікавай крыніцай з'яўляюцца захаваныя падпісныя лісты. У аддзеле рэдкіх кніг і старадрукаў Гродзенскага гістарычна-археалагічнага музея захаваўся падпісны ліст Вандаліна Пуслоўскага на працу Адама Йохера *Obraz bibliograficzno-historyczny literatury polskiej*[10].

Шматлікае ліставанне прадстаўнікоў вядомай віленскай кнігагандлёвай і выдавецкай дынастыі Завадзкіх з чытачамі з розных закуткоў беларуска-літоўскіх земляў, у тым ліку з Берасцейшчыны, зберагаецца ў віленскіх архівах і бібліятэках. Да найбольш актыўных мясцовых карэспандэнтаў Завадзкіх належаў Адам Юндзіл. Апошні рэгулярна

---

7 Бобровский П. Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерния. Т. 1. СПб., 1863. С. 727 ; Łuszczyńska N., Szwarc W. Władysław Trębicki. Zapomniany bibliofil i bibliograf XIX wieku // Bibliotekarz Lubelski. 1959. № 4. S. 15-17.

8 Гл. артыкул Алесі Саўчук з Гародні Кнігазбор Вандаліна Пуслоўскага: Косава — Свіслач — Гародня, а таксама ілюстрацыю 16 у кнізе Kowkiel L. Prywatne księgozbiory na Grodzieńszczyźnie...

9 Kowkiel L. O zakupach książek na prowincji litewsko-białoruskiej w I połowie XIX wieku // Kultura książki ziem wschodniego i południowego pogranicza Polski (XVI-XX wiek). Paralele i różnice. Red. J. Gwioździk, E. Różycki. Katowice. 2004. S. 463-477.

10 Гл. іл. 21 у кнізе Kowkiel L. Prywatne księgozbiory na Grodzieńszczyźnie...

высылаў лісты з Грудаполя і Івацэвічаў у 1840—1845[11] і 1849 гадах[12]. Заказваў шмат нотных выданняў для фартэпіяна і віяланчэлі, працы па літаратуры і гісторыі, некаторыя часопісы, а таксама гравюры. Большасць кніг была на польскай мове і паходзіла з розных выдавецкіх асяродкаў былой Рэчы Паспалітай. Некаторыя творы французскіх аўтараў Завадзкі заказваў з Францыі, ноты — з Лейпцыга. Як вынікае з лістоў, за атрыманыя з Вільні кнігі Адам Юндзіл рэгулярна разлічваўся, але таксама і нагадваў Завадзкаму аб дамоўленай скідцы, асабліва на нотныя выданні. Таксама як і Пуслоўскі, Юндзіл падпісаўся на вядомую бібліяграфічную працу Адама Йохера[13], узгадваў аб наяўнасці ў яго падпісных лістоў на іншыя творы. Заказ кніг і музычных нот адбываўся на падставе высланых з Вільні друкаваных каталогаў.

Дакладны аналіз карэспандэнцыі дае магчымасць выявіць толькі некалькі дзесяткаў кніг, якія трапілі ў хатнюю бібліятэку Юндзілаў у Грудаполі ў 40-я гады XIX ст. з віленскай кнігарні Завадзкіх. У сувязі з тым, што не ўдалося адшукаць аніводнага каталога кнігазбораў сям'і Юндзілаў з маёнткаў Слонімскага павета, адзінай іх характарыстыкай могуць паслужыць сціплыя і надзвычай павярхоўныя апісанні кшталту: «польска-французская бібліятэка» ці «бібліятэка, багатая на рэдкія польскія друкі», якія змяшчаюць працы Хвалевіка ці Радзішэўскага[14].

У Літоўскім гістарычным архіве ў Вільні захавалася таксама шмат лістоў Уладзіслава Трэмбіцкага з Лінова з 1839—1844 гадоў да Завадзкіх[15]. Карыстаючыся дасланымі каталогамі, вядомы бібліяфіл і бібліёграф рэгулярна замаўляў у Вільні патрэбныя кнігі, выпісваў часопісы. Часта ў лістах Трэмбіцкага сустракаюцца запыты адносна чарговых частак бібліяграфіі Йохера, якая толькі пачала выходзіць з друку ў 1840 годзе. Зразумела, што перад усім Трэмбіцкага цікавілі працы па гісторыі літаратуры, якія збіраў у Лінове. На іх падставе ён пісаў крытычныя

11 Lietuvos valstybės istorijos archive (Дзяржаўны Гістарычны Архіў Літвы) [далей LVIA], F. 1135 ap. 7 b. 417 l. 117—131, 153—161v., 195—196v., 198—210; f. 1135 ap. 7 b. 415 l. 209—216.

12 Тамсама. F. 1135 ap. 7 b. 418 l. 41—53

13 Тамсама. F. 1135 ap. 7 b. 417 l. 196.

14 Chwalewik E. Zbiory polskie. Archiwa, biblioteki, gabinety, galerie, muzea i inne zbiory pamiątek przeszłości w ojczyźnie i na obczyźnie w zestawieniu alfabetycznym według miejscowości ułożone. T. 1. Warszawa, 1926. S. 125. T. 2. Warszawa, 1927. S. 152 ; Radziszewski F. Wiadomość historyczno-statystyczna o znakomitszych bibliotekach i archiwach publicznych i prywatnych. Kraków, 1875. S. 21.

15 LVIA, f. 1135 ap. 7 b. 463 l. 80—114v.

артыкулы з дапаўненнямі працы Йохера ў часопіс «Biblioteka Warszawska». Свой уласны кнігазбор у адным з лістоў Уладзіслаў Трэмбіцкі характарызуе наступным чынам: «Я валодаю цудоўнаю і багатаю на старыя друкі бібліятэкаю»[16]. На жаль, пакуль што няма магчымасці правесці колькасны аналіз гэтай калекцыі з прычыны адсутнасці адпаведных крыніц.

Дакладны колькасна-тэматычны аналіз прыватных кнігазбораў Берасцейшчыны ў XIX стагоддзі можна правесці толькі на падставе аналізу захаваных фрагментаў калекцый або адшуканых інвентароў тагачасных бібліятэк. Супастаўленне зместу інвентароў з актуальным станам паасобных збораў схіляе да думкі аб тым, што дагэтуль аніводнай суцэльнай калекцыі кніг не зберaглося. У гэтым сэнсе яскравым прыкладам з'яўляецца кнігазбор Пуслоўскіх-Красінскіх, вывучаны на падставе ўладальніцкіх знакаў (захоўваецца ў Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі). Варта заўважыць, што і ён заслугоўвае далейшага, больш грунтоўнага аналізу.

Згаданая калекцыя складаецца з дзвюх частак. Першая гэта кнігі Вандаліна Пуслоўскага, якія першапачаткова збіраліся ў Косаўскім палацы (хаця на кнігах захаваліся запісы пра «бібліятэку ў Мерачоўшчыне»). Бацькоўскую калекцыю ў спадчыну атрымала дачка Марта Красінская, якая, як можна меркаваць, перавезла яе ў Свіслач, з часам папаўняючы новымі набыткамі. Пазней гэтыя каштоўныя зборы трапілі ў Гародню.

Аналагічная праблема стасуецца інвентароў кнігазбораў і падрабязных апісанняў бібліятэк. Выяўленыя на сённяшні дзень архіўныя інвентары пераважна былі складзены чыноўнікамі падчас канфіскацыі маёнткаў мясцовай шляхты пасля паўстанняў 1831 і 1863 гадоў, і з гэтай прычыны не вызначаюцца дасканаласцю. Акрамя таго, звесткі пра колькасны склад збораў, якія сустракаюцца ва ўспамінах ці падобных крыніцах, звычайна перабольшаныя і не заўсёды адпавядаюць рэчаіснасці. Таксама ліставанне ці дзённікі даволі рэдка змяшчаюць дакладныя апісанні бібліятэк, а тым больш колькасныя паказчыкі.

Найбольшыя прыватныя кнігазборы Берасцейшчыны ў XIX стагоддзі складаліся з некалькіх тысяч тамоў. Да такіх, бясспрэчна, належала калекцыя Вандаліна Пуслоўскага, якая налічвала па меншай меры 8 тысяч

16 Тамсама, f. 1135 ap. 7 b. 463 l. 85. *Ліст Уладзіслава Трэмбіцкага да Завадзкага, 14 ліпеня 1843 г. Лінова.*

тамоў[17]. Акрамя згаданага збору, архіўныя пошукі дазволілі высветліць колькасную характарыстыку наступных бібліятэк:

— калекцыя Францішка Сапегі ў Ружанах паводле каталога з 1797 года налічвала 2221 том[18];

— спіс канфіскаванай пасля 1863 г. бібліятэкі Валенты Швыкоўскага ў Пружанах складаўся з 1407 тамоў[19];

— захаваныя рэестры кнігазбору Караля Нямцэвіча, канфіскаванага ў маёнтку Скокі пасля паўстання 1831 года, паказваюць на тое, што ён валодаў бібліятэкай, у якой чыноўнікі налічылі 481 том[20].

Абапіраючыся на вынікі аналагічных даследаванняў, прысвечаных Гарадзеншчыне, можна дапусціць, што і на Берасцейшчыне стандартная ўзорная шляхецкая бібліятэка налічвала ў тыя часы некалькі сот тамоў, у якіх пераважала кніга на польскай і французскай мовах, а таксама карысталася попытам нямецкая і лацінская. Такімі калекцыямі валодалі асобы адукаваныя, якія мэтанакіравана фарміравалі хатнія бібліятэкі, пра што сведчаць звесткі, якія паходзяць з розных крыніц. Тым часам не выклікае сумнення той факт, што большасць шляхецкіх збораў характарызавалася малалікасцю і складалася з некалькіх асобнікаў ці ў лепшым выпадку некалькіх дзесяткаў кніг, якія не належалі да літаратуры высокага ўзроўню. Найлепшым сведчаннем гэтай думкі з'яўляюцца выказванні сучаснікаў. Так, напрыклад, Браніслаў Ортык у апісанні шляхты Лідскага павета ў 70-я гады XIX стагоддзя занатаваў: «У доме тыповага шляхціча на стале бывае калода зашмальцаваных карт да гульні ў кікса ці мар'яш, шэраг кніжачак для набажэнства: кантычкі, жыцці свя-



17 Гл. артыкул Алесі Саўчук.

18 Бібліятэка Віленскага Універсітэта, Аддзел Рукапісаў, F 3-221 — Catalogue des livres de la bibliothèque de Rozana 1797 [Franciszka Sapiehy] [2221 том].

19 Нацыянальны Гістарычны Архіў Беларусі ў Гродне [далей НГАБ у Гродне], Ф. 31. Воп. 1. Спр. 47: О передаче конфискованного им. Пружаны Пружанкого уезда помещика Швыковского участника восстания 1863 года в казенное ведомство, 1863—71. Арк. 105-106: Опись с оценкою книгам... 20.12.1863 [1407 тамоў], арк. 182—185: Аукционный лист на продажу движимого имущества... [книги].

20 LVIA, f. 567 ap. 2 b. 3932 l. 73, 74, 78v-79, 87-87v — Книги Карла Немцевича, им. Скоки, 1836. Российский Государственный Исторический Архив [далей РГИА], ф. 384 оп. 15 д. 460 л. 46—53v. — Реестр разным книгам..., найденным в домашней библиотеке при принятии имения Скоки в ведение Казенной палаты, 1833 [420 томов.] ; ф. 384 оп. 15 д. 1286 — О библиотеке мятежника Карла Немцевича 1838-1842, л. 21-28 — [реестр книг, 191 кн. в 481 т.].

тых, і рэдка калі якая свецкая кніжыца, хіба што старая хроніка, *Марфей тлумачальнік сноў* ці *Гісторыя аб Мелузіне*»[21].

Філамат Ануфры Петрашкевіч у лісце да Іаахіма Лялевеля ў 1830 годзе пісаў: «...рэдка які дом што Фенікс, дзе прыемнай забавы шукаюць у чытанні, бо карты з поўначы прыбыўшы апанавалі шляхецкія дамы і ўвесь знак жыцця, што картамі кідаюцца» [22].

А ўпамянуты вышэй Уладзіслаў Трэмбіцкі пра чытацкія густы сваіх суседзяў з Пружанскага павета выказаўся наступным чынам: «Я пісаў у ваколіцы, якая не абдзелена разумнымі людзьмі [...], бо на некалькі міль навакол у самых бібліятэках прыватных дамоў можна без цяжкасці налічыць больш за дзесятак тысяч тамоў, якія аднак амаль поўнасцю складаюцца з новых ці замежных прац. [...] Сёння хатнія кнігазборы папаўняюцца пераважна ілюстраванымі выданнямі або раманамі новай школы ці каментарамі на адну з дзесяці запаведзяў — усё ж такі шчыра скажу, што такія працы, як *Вобраз* Йохера ці *Гісторыю літаратуры* сустрэць цяжка»[23].

Аналіз зместу кнігазбораў выяўляе залежнасць паміж атрыманай адукацыяй і асабістымі зацікаўленнямі ўладальніка-гаспадара. На змест збораў аказваў таксама ўплыў склад сям'і. Жанчыны-шляхцянкі ахвотна бавілі вольны час чытаннем, сачылі за моднымі літаратурнымі напрамкамі, таму пераважна яны заказвалі найноўшыя французскія раманы[24]. Можна меркаваць, што наяўнасць значнай колькасці падручнікаў сведчыць пра адукацыйныя патрэбы сям'і. Тагачаснай бібліятэкі не можна сабе ўявіць без гаспадарскіх календароў, слоўнікаў, апісанняў падарожжаў, гравюр і карт. Адпаведна з пануючай модай найбольш актыўна назапашваліся «помнікі даўніны», г.зн. калекцыі даволі шырокага профілю, якія былі прысвечаны мінуламу Вялікага княства Літоўскага.



21 Ortyk B. Szlachta okoliczna lidzka // Tygodnik Ilustrowany. 1876. Nr 7. S. 109 [пераклад Л.К.].

22 Archiwum Filomatów. Listy z zesłania. Oprac. Z. Sudolski. T. 1. Warszawa, 1997. S. 110. Ліст А. Петрашкевіча да І. Лялевеля, 24.07.1830 Заполе [пераклад Л.К.].

23 Trębicki W. Uwagi nad pierwszym poszytem tomu drugiego dzieła p. Jochera pod tytułem «Obraz bibliograficzny» // Biblioteka Warszawska. 1841. t. 3. S. 576 [пераклад Л.К.].

24 Kowkiel L. Czytelnictwo kobiet na prowincji litewsko-białoruskiej w zaborze rosyjskim. // Wspólnota pamięci. Studia z dziejów kultury ziem wschodnich dawnej Rzeczypospolitej. Red. J. Gwioździk, J. Malicki. Katowice, Biblioteka Śląska. 2006. S. 133—144.

У прыватных кнігазборах сярод старых друкаў можна было сустрэць працы, прысвечаныя заканадаўству літоўска-беларускіх зямель. Даволі часта сустракаўся *Статут Вялікага княства Літоўскага*. У хатніх калекцыях Берасцейшчыны захоўваліся розныя выданні *Статута*, напрыклад, у Вандаліна Пуслоўскага друк з 1619 года[25], у Нямцэвіча ў Скоках выданне 1744 года[26].

Падчас паўстанняў узрастала зацікаўленасць гістарычнай і патрыятычнай літаратурай і паэзіяй. Падчас рэвізіі ў вядомага мастака і кампазітара Напалеона Орды ў Варацэвічах пасля падзей 1863 года былі канфіскаваны рукапісы наступных вершаў на польскай мове: *Na zgon Adama, Mowa rabina Jastora w Warszawie, Stary mąż, Na nutę Kiedy ranne wstają zorze, Zdrowaś Mario!, Mowa polska (improwizacja), Litania za Ojczyznę, Módlmy się, Pobyt w Paryżu od 1833* і рукапісная версія газеты «Czas» з 23 мая 1861 № 69[27].

Сустракаліся на Берасцейскай зямлі спецыялізаваныя бібліятэчныя калекцыі. Вышэй згадваліся гістарычна-нумізматычна-краязнаўчая калекцыя Вандаліна Пуслоўскага ці змястоўны кнігазбор Уладзіслава Трэмбіцкага, які складаўся са старых друкаў на польскай мове. Да вузкаспецыялізаваных можна аднесці таксама фрагмент бібліятэкі Сапегаў, перапісаны ў Дзярэчыне падчас канфіскацыі маёнтка. Сказанае стасуецца і адметнай групы друкаў, каля 60 тытулаў, звязаных тэматычна з ваенным мастацтвам[28]. Хутчэй за ўсё іх пазбіраў Францішак Сапега, генерал літоўскай артылерыі. У азначаную групу ўваходзілі кнігі, выдадзеныя ў другой палове XVIII стагоддзя на французскай, нямецкай і польскай мовах, прысвечаныя артылерыі і фартыфікацыі, а таксама падручнікі для афіцэраў і ваенныя статуты.

Амаль у кожнай бібліятэцы можна было знайсці граматыкі, падручнікі і дапаможнікі для вывучэння замежных моў. Прыкладам можа быць наяўнасць у Нямцэвічаў трох граматык грэчаскай мовы і адной французскай[29]. Не з'яўлялася рэдкай мастацкая літаратура на замежных мовах. У

25 Гродзенскі Дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей, Аддзел рэдкіх кніг і старадрукаў, № 22453 «Inwentarz biblioteki Muzeum w Grodnie, wpisy z lat 1929—1930, nr 12001-1710» [галоўным чынам дары Марты з Пуслоўскіх Красінскай], запіс пад № 12462.

26 РГИА, ф. 384 оп. 15 д. 1286 л. 26.

27 НГАБ у Гродне: Ф. 1. Воп. 31. Спр. 119. Арк. 98—157адв.

28 Wojakowski J. Księgozbiory Eustachego Kajetana Sapiehy (1797-1860) i Wacława Rzewuskiego (1785—1831). Warszawa. 1996. S. 39—41. Nr 713—773.

29 РГИА, ф. 384 оп. 15 д. 1286 л. 24, 28.

Швыкоўскіх у Пружанах захоўваліся шматлікія працы Віктора Гюго (38 тамоў), Аляксандра Дзюма (6 тамоў), Альфонса дэ Ламарціна (7 тамоў), Поля дэ Кока (7 тамоў)[30]. Рэкорды папулярнасці білі ў тыя часы творы Мадам дэ Жэнлі, у французскім арыгінале і ў перакладзе на польскую мову. Яны прысутнічалі ў розных бібліятэках — ад шматтысячных калекцый арыстакратыі да невялічкіх хатніх бібліятэчак мясцовай шляхты. Прыватныя бібліятэкі Берасцейшчыны натуюць наступныя творы дэ Жэнлі: у інвентары Сапегаў *Nouveaux contes moraux* (2 тамы, Парыж 1802)[31], у Караля Нямцэвіча *La religion considérée comme l'unique base du bonheur* (Арлеан 1787)[32]. Даволі рэдка ў шляхецкіх кнігазборах XIX стагоддзя сустракаюцца мастацкія творы на ангельскай і нямецкай мовах. Аднак і такія трапляліся сярод берасцейскіх калекцый: напрыклад, лорда Байрана *English Bards and Scotch Reviewer* (Жэнева 1820) і творы Вальтэра Скота ў томіку *Pocket Lybrary of English Classies* пералічаны сярод кніг, канфіскаваных у Сапегі[33], *Творы* Фрыдрыха Шылера ў 12 тамах аздаблялі бібліятэку Швыкоўскіх[34].

Да найбольш папулярных друкаў адносіліся календары. Вельмі цікава акрэсліў ролю календара ў шляхецкай бібліятэцы Уладзіслаў Трэмбіцкі: «Каляндар [...] лічыўся лекарам, дарадчыкам, астролагам, барометрам і гадзіннікам на ўвесь год для гаспадара, абавязковым прадметам хатняга ўжытку ў яго доме, усёй яго бібліятэкай і энцыклапедыяй, адлюстраваннем густу і асветніцтва народу»[35]. Друкаваныя календары прысутнічалі не толькі ў сціплай хаце незаможнага шляхціча, але таксама ўладальнікі багатых бібліятэк не грэбавалі такой літаратурай. У кнігазборы Швыкоўскіх у Пружанах налічвалася 49 гаспадарскіх календароў на польскай мове[36]. Шматлікі збор календароў меў Вандалін Пуслоўскі. Толькі з XVIII стагоддзя з яго калекцыі захавалася 11 календароў, сярод якіх львоўскі на 1741 год, гродзенскія з 1778 і 1785 гадоў, 6 віленскіх: з 1775, 1776, 1783, 1789 і 1785 (2 адзінкі) гадоў, два варшаўскія календары на



30 НГАБ у Гродне: Ф. 31. Воп. 1. Спр. 47. Арк. 105—105адв.
31 Wojakowski J. Księgozbiory... S. 49.
32 РГИА, ф. 384 оп. 15 д. 1286 л. 21v.
33 Wojakowski J. Księgozbiory... S. 38, 50.
34 НГАБ у Гродне: Ф. 31. Воп. 1. Спр. 47. Арк. 105.
35 Trębicki W. Uwagi nad pierwszym poszytem... S. 556 [пераклад Л.К.].
36 НГАБ у Гродне: Ф. 31. Воп. 1. Спр. 47. Арк. 106.

1761 і 1767 гады[37]. Пуслоўскі збіраў таксама і календары XIX стагоддзя, асабліва выдадзеныя на літоўска-беларускіх землях, у тым ліку назапасіў шмат календароў, выдадзеных у Полацку[38].

Аналіз зместу прыватных шляхецкіх кнігазбораў сведчыць пра наяўнасць разнароднай і шматлікай літаратуры пра садова-паркавае мастацтва, садаводства і агародніцтва. Асабліва выразна выяўляецца такая зацікаўленасць сярод уладальнікаў палацава-паркавых ансамбляў. Таму не здзіўляе факт, што самымі вялікімі калекцыямі кніг па гэтай тэматыцы валодалі Швыкоўскія ў Пружанах (сярод іншых 51 том французскамоўнага перыядычнага выдання, прысвечанага садаводству[39]), а таксама Сапегі ў Дзярэчыне (шматтомныя публікацыі з розных часоў і на розных мовах)[40].

Яшчэ адна цікавая рыса шляхецкіх бібліятэк, якая характарызавала асяроддзе арыстакратыі і заможнай шляхты, — наяўнасць у калекцыях гравюр і карт. У каталозе бібліятэкі Сапегаў у Ружане з 1797 года атласы і геаграфічныя карты, а таксама гравюры былі спісаны асобна, было іх адпаведна 5 і 10 асобнікаў[41]. Дадатковы каталог, складзены ў 1800 годзе, рэгіструе 8 «cartons» (тут хутчэй за ўсё папак) і 39 «livres d'estampes reliès» (таксама, можна меркаваць, што гэта папкі ці альбомы з гравюрамі)[42]. У Валенты Швыкоўскага гравюры на «готланскай» паперы захоўваліся ў кардонных папках, знаходзіліся ў кабінеце[43]. Атласы і карты ў інвентары бібліятэкі Швыкоўскага былі ўнесены ў моўныя аддзелы, таму, напрыклад, карта Германіі знаходзілася сярод кніг на нямецкай мове[44], а 2 атласы і 3 неапісаныя карты патрапілі ў французскі аддзел[45].

Рэканструкцыя лёсаў прыватных кнігазбораў на Берасцейшчыне падаецца магчымай, дзякуючы захаваным і адшуканым крыніцам. У першую чаргу гэта сведчанні пра страты і знішчэнні каштоўных

37 Шоцік В.І. Калекцыя календароў-старадрукаў у кнігазборы АРКіС Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея // Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 1995. Вып. 3. С. 16—30.

38 Напрыклад Kalendarz polityczny Połocki na rok pański 1802 (Гродзенскі Дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей, Аддзел рэдкіх кніг і старадрукаў, 096/01412).

39 НГАБ у Гродне: Ф. 31. Воп. 1. Спр. 47. Арк. 105адв.

40 Wojakowski J. Księgozbiory... напрыклад s. 33 nr 458, s. 34 nr 473, s. 36 nr 563, s. 43 nr 857.

41 Бібліятэка Віленскага Універсітэта, Аддзел Рукапісаў, F 3 — 221, l. 70—71.

42 Тамсама, l. 1—3 (на дадатковых аркушах).

43 НГАБ у Гродне: Ф. 31. Воп. 1. Спр. 47. Арк. 101.

44 Тамсама. Арк. 105.

45 Тамсама. Арк. 105адв.

калекцый. Найбольшыя з іх былі выкліканы канфіскацыяй маёнткаў пасля паўстанняў XIX стагоддзя (Сапегаў, Нямцэвічаў, Швыкоўскіх) ці з'яўляліся наступствамі сусветных войнаў. Даволі часта кнігі станавіліся ахвяраю пажараў (бібліятэка Самуэля Хэфта). Ратункам для некаторых прыватных калекцый заставалася перадача іх у публічныя фонды бібліятэк, архіваў і музеяў. І толькі нязначную частку калекцый удалося захаваць пасля Другой сусветнай вайны. Застаецца спадзявацца, што далейшыя пошукі крыніц паспрыяюць пашырэнню ведаў пра кніжныя багацці продкаў.

*Ильин А. Л.*

# Имение Гремяче — культурный очаг Полесья конца XIX — начала XX века



Полесская шляхта в XIX в. была довольно образованной: многие шляхтичи учились в Виленском университете, Свислочской гимназии и в других учебных заведениях. Большинство дворян интересовались историей, литературой и искусством. Они подписывались на польские и русские периодические издания, покупали книги. Некоторые из них были настоящими библиофилами. Великолепные библиотеки собрали граф Вандалин Пусловский (1814—1884) в коссовском дворце, помещик Владислав Трембицкий (?—1861) в имении Линово Пружанского уезда, племянник знаменитого писателя Юзефа Крашевского и известный коллекционер Богуслав Крашевский (1857—1916) в имении Долгое того же уезда... Очаги польской культуры создавались и в других полесских имениях.

Имение Гремяче, которым владели знаменитые магнатские роды (Илиничи, Гонсевские, Сапеги, Флеминги, Чарторыйские, Понятовские и Пусловские), находилось в Брестском уезде недалеко от местечка Волчин. Около 1870 года[1] оно стало собственностью представителя не менее известного рода: князя Юзефа Адольфа Пузыны (1848—1914).

1 Федорук А.Т. Старинные усадьбы Берестейщины. Мн., 2004.

Пузыны — княжеский род, происходивший от князей Глазын, осевших в XV веке на Смоленщине. Некоторые исследователи считают их Рюриковичами — потомками козельских князей. Часто именовались «князьями с Козельска Пузынами». Князья Пузыны никогда не забывали своих православных корней и всегда были патриотами Великого княжества Литовского (ВКЛ). Можно предположить, что Юзеф Адольф Пузына перевез в имение Гремяче богатый семейный архив и библиотеку, в которой, наверно, преобладали книги исторической тематики. Обитатели имения жили насыщенной духовной жизнью, пропитанной польским и литвинским патриотизмом, а также глубокой религиозностью. Только этим можно объяснить, что двое детей Юзефа Адольфа Пузыны стали известными польскими культурными и политическими деятелями.

Его старший сын — Юзеф Эдвард Пузына (1878—1949), родившийся в имении Гремяче, был историком, поэтом и журналистом. Он имел прекрасное образование: изучал историю и литературу в Фрибургском университете (Швейцария), в котором получил диплом доктора философии. После окончания университета прожил в Швейцарии 20 лет, где начал свои исторические исследования, в которых преобладала тематика происхождения и политической роли литовско-русских князей во времена экспансии ВКЛ на Русь. В этих работах проявился его литвинский и полесский патриотизм, да и собственное русинское происхождение. В своих трудах большое внимание уделял и Полесью, например, происхождению пинских князей. Этому вопросу посвятил статью «Потомство Наримунта Гедиминовича». Генеалогические исследования ученого принесли ему признание коллег: в 1930 году Юзеф Пузына вошел в состав редакции «Геральдического ежемесячника». Самый известный его исторический труд — книга «Великое Княжество Литовское до Миндовга» (1937). А поэтическое творчество началось еще во время учебы в варшавской гимназии. В 1905 году издал сборник стихов «Огни», в котором чувствуются младопольские мотивы. Критика встретила этот сборник благосклонно. Писал Юзеф Эдвард Пузына и прозу, занимался также переводами.

Не менее интересной личностью была его младшая сестра Ирена Пузына (1881—1933), которая получила известность как общественный и католический деятель, руководитель Национальной организации женщин и депутат польского сейма. Ее, по праву, можно назвать одним из организаторов женского движения в межвоенной Польше. Она полу-

чила хорошее образование в престижной частной школе под Веной. После окончания школы жила в Варшаве и в имении Гремяче, в котором родилась. В Варшаве богатая и образованная княжна вращалась в аристократических и литературных кругах, где, наверно, познакомилась с известным поэтом и композитором Генриком Скирмунтом (1868—1939), владевшим имением Молодово на Пинщине. В июне 1900 года в газете «Край» было помещено сообщение о помолвке Генрика Скирмунта и Ирены Пузыны. Однако свадьба не состоялась. О том, что было причиной размолвки, можно только догадываться. Возможно, консервативному и очень религиозному Скирмунту не понравилась эмансипированность молодой девушки. В будущем оба так и не создали семей. Можно предположить, что у неё в имении Гремяче гостили многие известные писатели, художники и музыканты (и не только Генрик Скирмунт). На лесистых и очень живописных берегах речки Пульвы, где располагалась усадьба, возможно, тогда отдыхал и великий польский писатель Стефан Жеромский (1864—1925), захотевший после этого здесь поселиться. После смерти отца в 1914 году Ирена Пузына взяла в свои руки управление имением, которое перешло по наследству к ней, брату Юзефу Эдварду, сестре Янине и их матери. Но летом 1915 года русские военные власти заставили княжну Ирену вместе с матерью княгиней Марией Пузыной эвакуироваться вглубь России.

Только в начале 1919 года Ирена Пузына смогла вернуться в родное имение, которое было опустошено и разграблено. Ценный семейный архив и библиотека были уничтожены. Видя всю эту разруху, она поняла, что не в силах сама возродить разрушенное хозяйство.

В Государственном архиве Брестской области нами найден интересный документ (ф. 2031, оп. 2, ед. хр. 5, л.7—9): договор о пятилетней аренде имения Гремяче между его владельцем Марией Пузыной и будущими арендаторами Стефаном Жеромским и Франтишком Рожинским, подписанный 26 июля 1919 года. Договор довольно обширный, содержит 23 пункта. Из его текста следует, что еще 1 января 1919 года был подписан договор об аренде между княгиней и Стефаном Жеромским. Литературовед Артур Гутникевич в своей книге «Жеромский» пишет, что писатель после войны не имел собственного угла[2], а в нем глубоко сидел потомственный шляхтич, владеющий кусочком собственной земли.

2 Hutnikiewicz A. Zeromski. Warszawa, 2000.

Писательская слава и материальное положение позволяли ему пустить где-то корни. Вначале он хотел приобрести дом на Поморье. Из найденного документа следует, что, наверно, вначале Стефан Жеромский хотел все-таки обосноваться на Полесье, но, приняв в управление разрушенное войной имение, испугался трудностей и решил взять в помощь компаньона Франтишка Рожинского. Что их связывало кроме аренды, за которую они обязались выплачивать княгине ежегодно 20% прибыли, нам установить не удалось. Усадебный дом был тогда непригоден для жилья, и компаньоны должны были жить в сохранившемся флигеле. Уже 13 декабря 1919 года Мария Пузына стала судиться с Рожинским, обвинив его в невыполнении условий договора аренды. В судебном иске отмечалось, что Стефан Жеромский после подписания договора 26 июля не принимал участия в управлении имением. Вскоре жена второго компаньона Изабелла Рожинская прислала телеграмму, что ее муж скончался 28 января 1920 года. Вот так закончилась попытка великого писателя поселиться на Полесье. Думается, что на его решение отказаться от аренды имения Гремяче повлияли не только экономические причины, но и сложность поездок из Варшавы в это имение, располагавшееся в 14 километрах от захолустной железнодорожной станции Лыщицы, (от которой, чтобы добраться до столицы, надо было еще доехать до Бреста).



После неудачной аренды семейство Пузын в конце 1921 года продало имение Гремяче Станиславу Форышевскому и Владиславу Барщу, кроме фольварка Соколье (оставлен для Янины Пузыны) и дворца (завещан под школу), хотя исследователи Сергей Басов и Анатолий Федорук считают, что князь Юзеф Эдвард Пузына продал земли имения польским осадникам в 1933 году[3]. Более вероятно, что в этом году им продали земли все-таки Форышевский и Барщ. Однако как очаг шляхетской культуры имение Гремяче прекратило свое существование еще в 1915 году. Удивительно, но импозантный усадебный дом сохранился до наших дней, хотя и в плачевном состоянии, будто напоминая нам, что не все тайны гремяческого имения еще раскрыты.

3 Basow S. Album hrabiego Kossakowskiego // Echa Polesia. 2008. № 3. S. 13 ; Федорук А.Т. Старинные усадьбы Берестейщины. Мн., 2004. С. 405.

*Папко В. М.*

# Паэт Альбін Дзяконскі (1892—1940) і кніжны збор роду Быхаўцаў



Вялікімі кніжнымі зборамі традыцыйна валодалі манастыры. Аднак у XIX ст. расійскія ўлады актыўна закрывалі каталіцкія і ўніяцкія манастыры, а іх кнігазборы перавозілі ў іншыя месцы, часцей за ўсё ў вялікія гарады, нават у Расію. Такі лёс напаткаў Лыскаўскі базыльянскі манастыр, які быў зачынены ў XIX ст. Бібліятэка манастыра часова была перададзена ў Лыскаўскае народнае вучылішча. 25 ліпеня 1869 г. гродзенскі дырэктар народных вучылішчаў звярнуўся да гродзенскага губернатара з просьбай вырашыць лёс бібліятэкі. Прапанову аб выкарыстанні гэтага кнігазбору выказаў папячыцель Віленскай навучальнай акругі, які прасіў дазволу перадаць калекцыю кніг і рукапісаў у фонды Віленскай публічнай бібліятэкі. На той момант зборы манастыра захоўваліся ў будынку вучылішча, у выкладчыка Закона Божага, мясцовага святара айца Агіевіча[1]. Далейшы лёс іх высветліць не атрымалася (з матэрыялаў справы не вынікае, чым яна скончылася).

1 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна (Далей НГАБ). Ф. 1. Воп. 6. Спр. 1933. Переписка с гродненским директором народных училищ за 13-28 июля 1869 г. о передаче книг и рукописей закрытого в местечке Лысково Волковысского уезда Базилианского монастыря в Виленскую публичную библиотеку.

Нават у другой палове XIX ст. публічныя бібліятэкі былі рэдкасцю ў правінцыі. У 1882 г. па афіцыйных звестках у Ваўкавыскім павеце было толькі дзве публічныя бібліятэкі. Адна з іх размяшчалася ў Ваўкавыску і належала Гродзенскай дырэкцыі народных вучылішчаў. Другая была прыватнай, яе гаспадыняй значылася дваранка Тэрэза Антонаўна Булгарына. Бібліятэка знаходзілася ў яе маёнтку Каласар (?) і працавала з 1879 г. У абодвух гэтых бібліятэках кнігамі не гандлявалі. У той самы год у суседнім павятовым горадзе Пружаны па звестках мясцовага ісправніка не было ні друкарні, ні літаграфіі, ні кніжных лавак, ні бібліятэк. З усіх даброт цывілізацыі існавала толькі «фатаграфічнае завядзенне», якое было адкрыта ў верасні 1882 г. і належала Іосіфу Салавейчыку[2].

Шляхецкія сядзібы, нават не самыя багатыя, утрымлівалі кніжныя калекцыі, якія часам збіраліся на працягу некалькіх стагоддзяў. Кнігазборы пераходзілі ад аднаго гаспадара да другога як частка спадчыны, самога маёнтка. Адной з самых знакамітых бібліятэк на землях сучаснай Брэсцкай вобласці валодалі ў XIX ст. Быхаўцы. З XVI ст. шляхецкаму роду Быхаўцаў належалі маёнткі Магілёўцы і Лыскава ў Ваўкавыскім павеце (зараз на тэрыторыі Пружанскага раёна).

У 1863 г. памёр Аляксандр Быхавец, пакінуўшы сваю немалую спадчыну двум сынам. У 1878 г. маёнтак Магілёўцы яшчэ знаходзіўся ў агульным валоданні бяздзетных братоў С.А. і К.А. Быхаўцаў, абодва былі генерал-маёрамі расійскага войска. У канцы 1870-х — пач. 1880-х гг. пасля іх смерці маёнтак разам з бібліятэкай атрымаў у спадчыну сын іх адзінай сястры Соф'і (Юліі) Дзяконскай з Быхаўцаў. Пляменніка звалі Казімір Яўстафіевіч Дзяконскі (?—1913). З гэтага часу да 1939 г. маёнтак, сядзіба і бібліятэка належала роду памешчыкаў Дзяконскіх. Казімір быў вельмі адукаваным чалавекам, скончыў Дорпацкі універсітэт з дыпломам урача. Яго жонкай стала Стэфанія, дачка гаспадара маёнтка Вердамічы Ваўкавыскага павету Эдуарда Талочкі і Марыі з роду Маршалковічаў[3].

Усё жыццё гэтай сям'і было звязана з Магілёўцамі. Вялікі сядзібны будынак захаваўся да нашых дзён, зараз у ім месціцца псіхіятрычная бальніца. На думку Р. Афтаназы, аднапавярховы дом быў пабудаваны ў сярэдзіне XVIII ст. Быхаўцамі, а прыблізна праз 100 гадоў значна

2 НГАБ у г. Гродна. Ф. 1. Воп. 8. Спр. 793. Переписка с Главным управлениями по делам печати о правилах цензуры и печати. Арк. 123.

3 НГАБ у г. Гродна. Ф. 1664. Воп. 1. Спр. 405. Метрическая запись о смерти помещицы Дзеконской Стефании. Арк. 1.

павялічаны за кошт дабудовы бакавых крылаў. Парадны ўваход з порцікам падтрымлівалі чатыры іанічныя калоны. З кожнага боку ад порціка было па 9 акон, сцены атынкаваныя белага колеру. Унутраны інтэр'ер дома фарміраваўся на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, у ім адлюстраваліся розныя эпохі і стылі[4].

Стыль жыцця сям'і Дзяконскіх быў тыповым для заможнай шляхты на гэтых землях. Няпярэдадні Першай сусветнай вайны Магілёўцы былі цэнтрам мясцовага свецкага жыцця. Музычныя захапленні гэтай сям'і прыцягвалі на вечары шмат родзічаў і знаёмых. Гаспадар дома іграў на скрыпцы, фартэп'яна і аргане. Яго жонка акампаніравала яму. Аднавіць тагачасны выгляд дома дапамагаюць успаміны Ц. Цішэўскай, роднай пляменніцы Стэфаніі. Любімым пакоем гаспадароў была вялізная бібліятэка, уздоўж сцен якой ішлі шафы з карэльскай бярозы. Бібліятэка Дзяконскіх была адной з самых багатых і знакамітых у ваколіцах, славілася калекцыяй старажытных рукапісаў. Некалі тут захоўвалася знакамітая хроніка Быхаўца, якая была выяўлена ў гэтай бібліятэцы ў 1820-я гг. У другой палове XIX ст. рукапіс быў згублены, аднак надрукаваны і добра даследаваны.

Пасярэдзіне бібліятэкі стаяў вялікі стол з газетамі і часопісамі, які абкружала круглая канапа, разлічаная на 20 асобаў. Каля гэтага стала часта сядзеў гаспадар маёнтка Казімір Дзяконскі. Любімае крэсла і столік гаспадыні стаялі ў нішы каля аднаго з трох акон, дзе яна часта сядзела з працай. Пакой асвятлялі тры жырандолі з каляровага венскага шкла, якія віселі ў аконных нішах[5]. Хутчэй за ўсё, Казімір Дзяконскі папаўняў бібліятэку новымі кнігамі, сярод якіх павінны былі быць творы па медыцыне.

Восень 1913 г. прынесла шмат сумных падзей у сем'і Талочкаў і Дзяконскіх. Сведка гэтых падзей, Цішэўская, падрабязна апісвае апошнія дні жыцця Казіміра Дзяконскага: «Мы (з кузенам Эдзем Тарасовічам) засталі цёцю вельмі прыгнечанай болем. Моцна ўзрадавалася нашаму прыезду. Дзядзя ляжаў вельмі зменены, але таксама намі вельмі ўсцешыўся. Штодзень было горш, але гэта працягвалася пару тыдняў. Крэсовая салідарнасць: дом быў поўны сваякоў і сяброў, Цёця і Дзядзя

4 Aftanazy R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. Województwa brzesko-litewskie, nowogródzkie. Tom 2. Wrocław-Warszawa-Kraków. 1992. S. 266—269.

5 Ciszewska z Tołłczków C. Gawęda o tym, co było. Рукапіс. 1961. Biblioteka Narodowa w Warszawie, zbiory specjalne. S. 24—25.

аточаны апекай сяброў, Цёці дапамагалі ва ўсім, слугі на пальцах хадзілі, у вочы глядзелі, а ў саміх слёзы ў вачах, таму што Дзядзю вельмі любілі... 30 кастрычніка 1913 г. у тры гадзіны ночы Дзядзя закрыў вочы на вякі...

Цёця з сухімі, палымнеючымі вачыма сядзела ў бібліятэцы ў сваім крэсле... Абняўшы мяне за шыю, яна заснула на некалькі гадзін. Я сядзела на каленях, не смеючы абудзіць цёцю, бо два тыдні не была ў ложку. Кожны з прыезджых узяў на сябе якія-небудзь справы, так што цёця ні пра што не павінна была думаць. Прыехала Цёця Алібінава з сынам Альбінам (Бінусем), брат Дзядзі, Юліян, а на самое пахаванне натоўп суседзяў, сваякоў, сяброў...»[6].

Сітуацыя са спадчынай Казіміра была вельмі не простай. З матэрыялаў судовай справы пра выкананне тэстаменту вынікае, што Казімір Дзяконскі пакінуў сваю спадчыну жонцы Стэфаніі, «за выключэннем родавых нерухомых маёмасцей». Тэстамент быў складзены Дзяконскім у красавіку 1909 г. і быў пасведчаны ў віленскага натарыуса. Стэфаніі пакідалася права пажыццёва валодаць маёнткам, яе доля складала 1/7 частку[7]. Верагодна, Казімір не хацеў, каб маёнткам валодаў яго брат, немалады ўжо чалавек, у якога таксама не было дзяцей. Для гэтага за некалькі гадоў да смерці Казімір зрабіў некаторыя захады, каб пазбегнуць страты маёнтка. У 1909 г. Стэфанія пазычыла мужу 126 тыс. руб. пад заклад маёнтка Магілёўцы. Нам падаецца, што гэта было мерай забеспячэння яе больш трывалага матэрыяльнага становішча ў выпадку смерці мужа. Да таго ж Казімір меў нейкія грашовыя прэтэнзіі да брата Юліяна на суму звыш 100 тыс. руб.[8].

Аднак галоўным планам, які прыйшоў у галаву бяздзетным сужанкам, было ўсынаўленне сына далёкіх родзічаў — Альбіна і Ядвігі Дзяконскіх, Альбіна-Міхала (1892—1940). Альбін-Міхал нарадзіўся 28 красавіка (па старым стылі) 1892 г. у маёнтку Пятровічы Кобрынскага павета. Яго бацькамі былі Альбін Дзяконскі (1838—1918) і Ядвіга Ажэжка ў першым шлюбе Бяртольдзі (1859—1931)[9]. Дзяцінства будучага паэта праходзіла

6 Ciszewska z Tołłczków C. Gawęda o tym, co było. Рукапіс. 1961. Biblioteka Narodowa w Warszawie, zbiory specjalne. S. 254.

7 НГАБ у г. Гродна. Ф. 1664. Воп. 1. Спр. 410. Дело об утверждении завещания помещика Дзеконского Казимира жене Дзеконской Стефании. Арк. 1—2.

8 НГАБ у г. Гродна. Ф. 1664. Воп. 1. Спр. 624. Соглашение помещицы Дзеконской Стефании с помещиком Дзеконским Альбином о продаже ему им. Могилёвцы. Арк. 1—2.

9 НГАБ у г. Мінску. Ф. 1781. Воп. 46. Спр. 38. Книга Кобринского костёла о рождении за 1887—1894 гг. Арк. 131адв.—132.

ў радавым маёнтку бацькі ў вялікай сям'і сярод братоў і сясцёр. Пасля нараджэння дзяцей у шляхецкіх сем'ях распачыналася працэдура атрымання імі спецыяльных пасведчанняў. У 1895 г. яго бацька звярнуўся ў Гродзенскі Шляхетны Дэпутацкі Сход з просьбай аб далучэнні сына Альбіна Міхала і дачкі Ганны-Крысціны да шляхетнага саслоўя. Дэпартаментам Герольдыі былі выкананы спецыяльныя «пасведчанні на дваранства», якія былі накіраваны ў Гродзенскі Сход[10].

Верагодна, пачатковую адукацыю Альбін атрымаў ад хатніх настаўнікаў. Дзяцей у сям'і было шмат, розніца паміж імі была невялікай. Таму без гувернантак у гэтай сям'і не маглі абысціся. Звестак пра адукацыю Альбіна захавалася мала. У самай поўнай яго друкаванай біяграфіі, якая папярэднічае зборніку вершаў, сцвярджалася, што сярэднюю школу Альбін пачаў наведваць у Варшаве, а гімназію з атрыманнем атэстата скончыў у Рызе[11]. Аднак гэтыя звесткі былі не зусім дакладнымі. У НГАБ у г. Гродна захавалася пасведчанне аб заканчэнні шостага класа Рыжскай Аляксандраўскай гімназіі, выдадзенае 17 мая 1910 г. па старым стылі. З гэтага дакумента вынікае, што Альбін толькі здаў экзамены за шосты клас (можна сказаць, экстэрнам), а адукацыю атрымліваў дома, таму што экзамены праводзіліся ў адпаведнасці з правіламі, якія былі складзены для асобаў з хатняй адукацыяй у 1897 г. Гэты дакумент адлюстраваў не вельмі бліскучыя веды Альбіна ў большасці прадметаў. На «выдатна» ім былі здадзены толькі Закон Божы і французская мова. Усе астатнія прадметы — руская, нямецкая і лацінская мовы, матэматыка, фізіка, гісторыя і геаграфія, на думку выкладчыкаў гімназіі, заслугоўвалі толькі пасрэдных адзнак[12]. Аднак прычына такіх адказаў магла быць у дрэнным веданні Дзяконскім рускай мовы, што ў тыя часы было нормай для колаў, у якія ўваходзіў Альбін. У сваіх мемуарах Ц. Цішэўская ўспамінала, што размаўляць з рускімі па-руску не было прынята сярод яе знаёмых — або па-французску, або ніяк.

Да пасведчання далучаны тагачасны здымак Альбіна (дарэчы, ён ніколі не друкаваўся), на якім стаіць адбітак пячаткі Аляксандраўскай

10 НГАБ у г. Гродна. Ф. 332. Воп. 4. Спр. 4. Указы Сената о причислении к дворянскому сословию жителей Гродненской губернии. Арк. 23—23адв.

11 Dziekonski A. Wybór poezji. Opracował i wstępem poprzedził Jerzy Poradecki. Warszawa, 1985. S. 9.

12 НГАБ у г. Гродна. Ф. 1664. Воп. 1. Спр. 401. Свидетельство об окончании помещиком Дзеконским Альбином-Михаилом 6 класса Рижской гимназии. Арк. 1—2.

гімназіі ў Рызе. Гэта самы ранні здымак паэта, з тых, што захаваліся. На ім мы бачым маладога, добра апранутага мужчыну. Гэты здымак паказвае Альбіна-Міхала ў тыя часы, калі ён даў згоду на сваё ўсынаўленне Стэфаніяй і Казімірам Дзяконскімі.

Адразу пасля смерці Казіміра Дзяконскага яго жонка Стэфанія пачала ўладкоўваць спадчынныя справы такім чынам, каб захаваць свае інтарэсы і забяспечыць права на маёмасць Альбіну. Менавіта таму, што большая частка маёнтка Магілёўцы адносілася да катэгорыі радавых, то атрымаць іх мог бліжэйшы родзіч мужчынскага полу. З той прычыны, што Альбін не быў усынаўлены, 6/7 частак маёнтка пераходзіла ва ўладанне брата пакойнага гаспадара, Юліяна. Верагодна, проста завяшчаць іх Казімір Альбіну не мог. Менавіта таму ўзнікла ідэя афіцыйнага прызнання Альбіна ў якасці прыёмнага сына.

У снежні 1913 г. было складзена пагадненне паміж Стэфаніяй, Альбінам і бацькамі Альбіна. На жаль, удалося знайсці толькі непадпісаны варыянт, таму невядома, ці меў ён законную сілу. Між іншым, гэты дакумент можна ўмоўна назваць «дамовай аб намерах». Пагадненне абвяшчала згоду ўсіх бакоў на імкненне перадаць Альбіну маёнтак Магілёўцы, а Стэфаніі пры гэтым быў забяспечаны грашовы штогадовы даход і пражыванне ў доме. Размова ішла нават пра тое, што Альбін купіць у яе 1/7 частку маёнтка[13]. Аднак, першапачатковай задачай было ўстанаўленне дамоўленасці з галоўным нашчадкам, Юліянам.

Юліян Дзяконскі займаўся нейкай камерцыйнай дзейнасцю. Па ўсім відаць, што справы яго ішлі добра. Пасля смерці Казіміра Стэфанія павінна была выплаціць яму яго частку спадчыны. Юліян згадзіўся прадаць яе за 45 тыс. руб. Хутка пасля смерці брата ў снежні 1913 г. Юліян склаў свой асабісты тэстамент. Сваіх дзяцей у яго не было, жонка Разалія памерла. Усю сваю рухомую маёмасць Юліян Дзяконскі завяшчаў Сігізмунду Антонавічу Буйноўскаму, жыхару г. Сувалкі. Спадчынай пасля Юліяна было ўсё тое, што знаходзілася ў яго доме па вул. Садовай, д. 8, значныя грашовыя капіталы ў працэнтных паперах, 45 тыс. руб., якія павінен быў выплаціць яму за Магілёўцы Альбін Дзяконскі і сумы, якія былі пазычаны ў яго іншымі асобамі. Усе гэтыя грошы былі завешчаны Буйноўскаму, якога Юліян успрымаў як свайго прыёмнага сына.

13 НГАБ у г. Гродна. Ф. 1664. Воп. 1. Спр. 624. Соглашение помещицы Дзеконской Стефании с помещиком Дзеконским Альбином о продаже ему им. Могилёвцы. Арк. 1—2.

Буйноўскі быў сынам бліжэйшых суседзяў Дзяконскага, вырас на яго вачах. Юліян дапамог яму адкрыць сваю лаўку і вёў агульныя справы.

12 мая 1914 г. у Вільні быў складзены раздзельны акт на спадчыну Казіміра Дзяконскага. Яшчэ раней Альбін згадзіўся выплаціць 45 тыс. руб. за яго долю ў маёнтку. Аднак вельмі хутка, праз месяц — 16 (29) чэрвеня 1914 г. Юліян Дзяконскі памёр. Буйноўскі патрабаваў выплаціць яму грошы, абяцаныя Юліяну за Магілёўцы. Стэфанія Дзяконская была вымушана закласці маёнтак, каб разлічыцца, што і было зроблена да канца 1914 г.[14]. Так частка спадчыны К. Дзяконскага вельмі хутка трапіла ў рукі чужога яму чалавека, Буйноўскага.

Пытанне ўсынаўлення Альбіна-Міхала даволі заблытанае. Біёграфы паэта адназначна сцвярджаюць, што яно адбылося ў 1910 г., а завяшчанне было складзена на карысць прыёмнага сына. Аднак дакументы не пацвярджаюць гэтую версію. У гэтым ёсць некалькі спрэчных момантаў. Для Ц. Цішэўскай перадача Альбіну ў спадчыну Магілёўцаў у 1913 г. была нечаканай. Верагодна, гэты намер утойваўся імі нават ад самых родных людзей. Тым болей, што ў 1910 г., калі, паводле меркавання аўтараў, адбылося ўсынаўленне, Альбіну было ўжо 18 гадоў.

Усынаўленне афіцыйна адбылося толькі ў 1916 г. паводле рашэння Арлоўскага Акружнога суда ад 16 лютага. Суд санкцыянаваў усынаўленне, зыходзячы з пададзеных дакументаў: пісьмовага дазволу бацькоў Альбіна-Міхала і даведкі, выдадзенай міравым суддзёй Кобрынскага павета Канстанцінам Скірмунтам аб тым, што Стэфанія Дзяконская бяздзетная[15]. Аднак сэнс у гэтым акце быў хутчэй псіхалагічны, чым юрыдычны. Альбіну-Міхалу было на той момант 24 гады.

Верагодна, што яго адукацыя пасля 1910 г. ажыццяўлялася на грошы Казіміра і Стэфаніі. Родзічы вырашылі накіраваць Альбіна на вучобу ў Бельгію, дзе, хутчэй за ўсё не па сваёй волі, ён штудзіраваў сельскую гаспадарку. Рашэнне накіраваць Альбіна для навучання на факультэт сельскай гаспадаркі было лагічным, як-ніяк яго рыхтавалі ў спадкаемцы вялікага маёнтка. Каб кіраваць ім і мець даход, трэба было разбірацца ў гэтай справе, знайсці падыходы да мадэрнізацыі вытворчасці. Толькі год працягвалася навучанне Альбіна. Цяжкая хвароба прымусіла Дзя-

14 НГАБ у г. Гродна. Ф. 1664. Воп. 1. Спр. 411. Дело о передаче помещику Буйновскому Сигизмунду части наследства помещика Дзеконского Юлиана. Арк. 1—18.

15 НГАБ у г. Гродна. Ф. 1664. Воп. 1. Спр. 400. Дело об усыновлении помещицей Дзеконской Стефанией дворянина Дзеконского Альбина. Арк. 1—2.

конскага пераехаць у Давос, але пасля паляпшэння стану здароўя ён працягвае навучанне ў Лазане, на гэты раз абраўшы раманістыку.

Адначасова з Альбінам у Лазане вучылася дачка віленскага адваката Максіміляна Мамертавіча Малінскага, Соф'я. В. Церахава, верагодна, спасылаючыся на лісты Соф'і Дзяконскай, сцвярджае, што тая была хрышчонай дачкой Казіміра. Прозвішча адваката Малінскага часта сустракаецца ў дакументах Дзяконскіх. Ён быў сведкам пры складанні тэстаменту Казіміра ў 1909 г. Пачатак Першай сусветнай вайны прымушае Альбіна і Соф'ю вярнуцца на радзіму. На пачатку вайны Альбін не быў мабілізаваны, бо меў слабае здароўе. Ён застаўся ў Магілёўцах і займаўся справамі гаспадаркі. Дакладна невядома, якія хваробы не дазволілі Альбіну-Міхалу пайсці ў рэгулярную армію. Афіцыйна ён лічыўся «ратнікам апалчэння II-га разрада, прызыву 1913 г.» У верасні 1915 г. Аршанская павятовая прысутнасць па воінскай павіннасці прызнала яго непрыгодным да службы ў войску. Аднак ён апынуўся ў падначаленні Асобаўпаўнаважанага па снабжэнні прыпасамі бежанцаў і насельніцтва тылу арміі Паўночна-Заходняга фронту[16].

Аднак потым Альбін трапіў у расійскую армію, служыў пры штабе нейкай вайсковай часці ў Арле, куды да яго прыехалі Соф'я і Стэфанія Дзяконская. Прыёмная маці падштурхоўвае маладых людзей да шлюбу[17]. Вянчанне адбылося 28 красавіка (па старым стылі) 1917 г. — у дзень нараджэння Альбіна, у Арлоўскім рымска-каталіцкім прыхадскім касцёле. Малады на той момант меў 25 гадоў, яго нявеста — на год маладзейшая[18].

Першая сусветная вайна значна пашкодзіла дому і гаспадарцы ў Магілёўцах. Падчас яе пачасціліся факты грабяжу ў маёнтках, сяляне вялі сябе нахабней, разумеючы, што ўладам не да таго. Пазіцыі памешчыкаў аслабелі: многія мужчыны пайшлі на вайну, а гаспадаркай займаліся жанчыны. Сялянскія хваляванні апісвала ў сваіх успамінах Цэцылія Цішэўская. Перасоўванні войска прыносілі сельскай гаспадарцы значныя страты, гэта былі патравы злакавых і рэквізіцыі. У верасні 1915 г. у маёнтку Магілёўцы рэквізіцыю жыта, аўса, пшаніцы,

16 НГАБ у г. Гродна. Ф. 1664. Воп. 1. Спр. 402. Удостоверение о негодности помещика Дзеконского Альбина-Михаила к военной службе. Арк. 1.

17 Dziekonski A. Wybór poezji. Opracował i wstępem poprzedził Jerzy Poradecki. Warszawa, 1985. S. 9.

18 НГАБ у г. Гродна. Ф. 1664. Воп. 1. Спр. 403. Метрическая запись о бракосочетании помещика Дзеконского Альбина с Малинской Софьей. Арк. 1.

канюшыны, вікі, саломы і бульбы праводзіў маршалак шляхты Гродзенскага павета, аб чым выдаў квітанцыю на 120 тыс. 610 руб. прадстаўніку Дзяконскай, яе брату Юліяну Эдуардавічу Талочку[19].

У гэты час Альбін знаходзіўся ў апалчэнні расійскай арміі, а Стэфанія пераехала ў глыб Расійскай імперыі. У лютым 1916 г. у арлоўскага натарыуса Стэфанія афармляе на Альбіна даверанасць на права прадстаўляць яе інтарэсы ў справе кампенсацыі страт, панесеных у маёнтку Магілёўцы ў сувязі з ваеннымі дзеяннямі[20]. У 1920 г. былі зроблены падлікі страт ад рускіх і нямецкіх войскаў. Верагодна, кампенсаваць маглі толькі тое, што было занатавана на паперы. Рэквізіцыя харчу на суму 120 тыс. 610 руб. на патрэбы рускага войска склала 8 % ад перадваеннага кошту маёнтка (1,5 млн. руб.). У лютым рускія ўлады кампенсавалі Стэфаніі 104 тыс. 410 руб. Страты ад дзеянняў немцаў склалі 9 % ад кошту маёнтка, або 161 тыс. 49 руб. Ніхто не плаціў за гэта. З дакументаў відаць, як значна ад немцаў у 1915—1918 гг. пацярпеў дом Дзяконскіх і прыватныя рэчы гаспадароў. У спісе забраных немцамі прадметаў значацца вопратка, абутак, коўдры, залатыя ўпрыгожанні, калье з манет. Рэквізавалі таксама мэблю з кабінета і сталовай — шафу, камоду, столікі. Упраўляючаму былі менавіта немцамі выдадзены даведкі аб рэквізіцыі[21]. У шматлікіх публікацыях сцвярджаецца, што немцы разрабавалі бібліятэку Быхаўцаў.

Напрыканцы вайны 5 студзеня 1918 г. у Варшаве памёр Альбін Дзяконскі-стары. Прыблізна ў той самы час туды прыехаў яго сын Альбін з жонкай, маладыя пасяліліся ў вялікім прыватным доме па вуліцы Хожай, 22, які застаўся пасля бацькі. Магчыма, менавіта з мэтай разабрацца са спадчынай бацькі, Альбін з жонкай пераязджае ў 1920 г. у Магілёўцы, каб надоўга ўжо іх не пакідаць. Ад бацькі ў спадчыну Альбін атрымаў фальварак Каралін у Кобрынскім павеце[22]. Пасля вайны жыццё паступова наладжвалася. Вельмі хутка, у 1923 г., Альбін Дзяконскі прадаў



19 НГАБ у г. Гродна. Ф. 1664, воп. 1, спр. 626. Дело о реквизиции посевов в им. Могилёвцы Волковысского уезда (1915 г.). Арк. 1—2.

20 НГАБ у г. Гродна. Ф. 1664, воп. 1, спр. 416. Доверенность помещицы Дзеконской Стефании помещику Дзеконскому Альбину по делу выдачи вознаграждения за реквизицию посевов (1916 г.). Арк. 1—1адв.

21 НГАБ у г. Гродна. Ф. 1664. Воп. 1. Спр. 417. Декларация о нанесении войсками ущерба имуществу помещицы Дзеконской Стефании (1920 г.). Арк. 1—8.

22 Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці [далей ДАБВ]. Ф. 79. Воп. 1. Спр. 1709. Дело об утверждении Деконьского Вацлава в правах собственности на недвижимое имущество. Арк. 18—22адв.

фальварак Каралін доктару Казіміру Зачку[23]. Магчыма, адной з прычын продажу стаў цяжкі стан маёнтка Магілёўцы.

Пасля вайны Альбін разам з жонкай і Стэфаніяй вярнуўся ў Магілёўцы, дзе застаў разгромлены маёнтак. Відаць, адносіны паміж Цішэўскай і сям'ёй Альбіна Дзяконскага пагоршыліся пасля Першай сусветнай вайны, што вынікае з некаторых намёкаў у мемуарах. Пасля смерці Стэфаніі Цішэўская болей не ўзгадвае нікога з гэтага роду. Гэта можа даць карысны матэрыял для даследавання. Апошнія ўспаміны Цішэўскай пра Магілёўцы: «У Магілёўцах былі мы некалькі дзён, але гэта ўжо былі не тыя самыя Магілёўцы. Цёця Стэфця ёсць, новай гаспадыняй дома з'яўляецца Зося Бінусева, з дому Малінскіх. Зося цудоўная і мілая, зразумела, што стыль дома іншы, чым перад вайной, настолькі, што ў процілегласць Вердамічам дом стаіць, але знішчаны, абрабаваны[24]. Няма ўжо таго былога настрою дома, які пакаленнямі не змяняўся. Няма следу саскай парцэляны, карэльская бяроза знішчана, парк занядбаны, вайна далася ў знакі ў кожнай дробязі»[25].

Стэфанія Дзяконская склала свой тэстамент у кастрычніку 1921 г. у варшаўскага натарыуса на карысць Альбіна-Міхала[26]. Стэфанія Дзяконская памерла 13 верасня 1924 г. у Магілёўцах ва ўзросце 58 гадоў і была праз тыдзень пахавана побач з мужам на могілках каля касцёла Сэрца Хрыстова ў Лыскаве[27]. На жаль, знайсці гэтыя магілы не атрымалася.



З 1924 г. Альбін стаў паўнапраўным гаспадаром маёнтка. Па сведчанні Соф'і Дзяконскай і Ежы Бяртольдзі, Альбін не вельмі быў зацікаўлены ў сельскай гаспадарцы. Яго маёнтак прыносіў добры даход толькі дзякуючы аканому Сядлецкаму. У 1922 г. Альбін Дзяконскі як гаспадар маёнтка Магілёўцы па колькасці займаў 427-е месца ў рэйтынгу 500 найбольш заможных памешчыкаў Польшы[28]. Гэта быў самы вялікі маёнтак

---

23 ДАБВ. Ф. 79. Воп. 1. Спр. 1644. Дело об утверждении Деконьского Альбина в правах собственности на недвижимое имущество. Арк. 18.

24 Палац Талочкаў у Вердамічах цалкам згарэў у 1915 г.

25 Ciszewska z Tołłoczków C. Gawęda o tym, co było. Рукапіс. 1961. Biblioteka Narodowa w Warszawie, zbiory specjalne. S. 244.

26 НГАБ у г. Гродна. Ф. 1664. Воп. 1. Спр. 410. Дело об утверждении завещания помещика Дзеконского Казимира жене Дзеконской Стефании. Арк. 10.

27 НГАБ у г. Гродна. Ф. 1664. Воп. 1. Спр. 405. Метрическая запись о смерти помещицы Дзеконской Стефании. Арк. 1.

28 Roszkowski W. Gospodarcza rola większej prywatnej własności ziemskiej w Polsce 1918—1939. Warszawa. 1986. S. 356—376.

з уладанняў, якія належалі прадстаўнікам роду Дзяконскіх. У 1930 г. маёнтак Магілёўцы налічваў 3300 дзес. зямлі[29]. Вёска Магілёўцы ў 1920-30-я гг. пры пану Альбіну налічвала 559 жыхароў і некалькі маленькіх прадпрыемстваў: цагельны завод, па дзве сталярных, кавальскія і цяслярскія майстэрні, тры кравецкія, водны млын. Даходы з маёнтка былі даволі значныя. У Магілёўцах Альбін меў машыну маркі «Адлер», што на гэтых землях у той час было вялікай рэдкасцю. У 1927 г. у павятовых Пружанах было ўсяго два аўтамабілі, якія належалі мясцовым адвакатам. А сам бурмістр карыстаўся службовым веласіпедам[30].

Сядзібу ў Магілёўцах, у якой Альбін пасяліўся ў 1913 г., у адным са сваіх вершаў ён назваў «домам, падобным на паром». Прыгожы парк у Магілёўцах вельмі падабаўся яго гаспадару, аднак і выклікаў трывожныя пачуцці. У вершы «Шкляны парк» Дзяконскі піша: «Баюся свайго парку, Неба ў парку — са шкла». Верш перадае панічны настрой напярэдадні Другой сусветнай вайны, яшчэ не ведаючы, што хутка яго ўтульны свет згіне, будзе знішчаны пад абломкамі польскай дзяржавы. Дом у Магілёўцах быў прытулкам, якое паэт любіў, хаця і адчуваў сябе яго вязнем. Менавіта тут нарадзілася большасць вершаў Дзяконьскага.



**Ланцуг пакояў**
(крокі — крокі)
туды і назад
50 перамен
ад святла да мроку
(чорны бляск вокнаў
у праёмах сцен)
50 крокаў туды
і назад
дарогі накладваю
жыццё адкладваю
напотым
напотым
напотым.[31]

Такі настрой аўтара сведчыць аб тым, што ён адчуваў сябе адарваным ад таго, да чаго імкнуўся. Што гэта было? Сталіца, багатае на падзеі

29 Spis ziemian Rzeczpospolitej Polskiej w roku 1930. Województwo Białostockie. Oprac. T. Epsztein, S. Górzyński. Warszawa, 1990. S. 7.

30 Папко В.М. Войска польске на ровэрах // Раённыя будні (Пружаны). 2007. 8 мая. С. 5.

31 Пераклад з польскай мовы Вольгі Папко.

і сустрэчы літаратурнае жыццё, прызнанне? Магчыма, проста верш быў напісаны ў момант цяжкага душэўнага стану. Не вельмі добра складваліся адносіны паэта з чытачамі і літаратурным светам. Яго кнігі амаль не былі заўважаны сучаснікамі. Чытачу ён прысвячае некалькі вершаваных радкоў, адкрыта гаворыць, што яго не любіць:

Таўчэцеся нячулыя
паміж мной і небам —
не даяце мне жывіцца
маім паветраным хлебам.

Між іншым, першая кніга «Байкі» Дзяконскага пабачыла свет яшчэ ў 1920 г. Гэта быў невялікі зборнік вершаваных баек, сярод якіх «Шпак», «Алень», «Ліс і барсук», «Ваявода», што часам складаліся ўсяго з некалькіх радкоў. У якасці прыкладу прывядзём тут верш «Цішыня» з гэтага першага зборніка.

Люблю самотную цішыню,
Калі сэнс падзеяў цягнучы, нібы гнуткую пражу,
Пляту тканіну рыфмай, час у марах імчыцца,
І пішу.
Смех тады з вуснаў маіх сцякае выпадкова,
Смутак пазней прыходзіць — калі здзяйсняецца казка[32].

У 1925 г. у Польшчы даволі шырока святкаваліся ўгодкі смерці знакамітага паэта XVIII ст., заснавальніка польскага рамантызму Францішка Карпінскага, які доўга жыў па суседстве з Магілёўцамі і быў пахаваны каля лыскаўскага касцёла. Дэлегацыя польскіх літаратараў, якая прыбыла ў гэтыя мясціны, гасцявала ў Альбіна Дзяконскага. У 1938 г. у сваім маёнтку Дзяконскі прымаў літаратараў з Варшавы, Кракава і Львова. Аднак падчас гэтых падзей госці, хутчэй за ўсё, успрымалі яго як багатага землеўладальніка, а не калегу па літаратурным цэху. Магчыма, менавіта гэтай падзеі прысвечаны верш «Думкі з раніцы» з апошняга зборніка, у якім аўтар піша: «Пра літаратараў мяркую незычліва...»

На працягу 1920—30-х гг. выходзяць наступныя тамы паэзіі Дзяконскага: «Байкі. Сатыры. Лірыка» (1926 г.), «Элегія» (1929 г.), «Эклогі» (1931 г.), «Матывы з горада» (1931 г.), «На захад» (1932 г.), «Два галасы» (1933 г.), «Драма Люцыфера» (1934 г.), «Падазроныя (падгледжаныя)

32 Пераклад з польскай мовы Вольгі Папко.

рэчы» (1936 г.), з якіх толькі першая была надрукавана ў Вільні, астатнія ўсе — у Варшаве. Апошняя кніга «Зялёныя Магілёўцы» пабачыла свет у 1939 г. напярэдадні Другой сусветнай вайны. Кнігі свае Дзяконскі выдаваў невялікім тыражом. Напрыклад, «Эклогі» былі надрукаваны ў 110 нумараваных экзэмплярах. Дакладна не вядома, як успрымаў і трактаваў сваю творчасць сам паэт. Яго даходы дазвалялі яму друкаваць творы, аднак ён асэнсавана не ішоў на шырокую папулярызацыю сваіх вершаў. Пра гэта гаворыць зусім невялікі наклад яго зборнікаў. Першыя 10 экзэмпляраў некаторых з іх (дакладней «Байкі, сатыры, лірыка» і «Элегія») багата аздабляліся, былі ўкладзены ў саф'янавы пераплёт. З. Станкевіч, які трымаў у руках адзін з такіх шыкоўных тамоў, назваў яго «творам пераплётнага мастацтва»[33].

Марыя Трэмбіцкая займалася друкаваннем 5-ці тамоў паэзіі брата ў 1929—1933 гг. у элітнай друкарні У. Лазарскага ў Варшаве. Яе прозвішча значыцца на тытульнай старонцы: «Наклад і ўласнасць Марыі Трэмбіцкай»[34]. Варшава прымала яго непрыхільна, папросту не заўважала. Абражаны гэтым, паэт не імкнецца сам завесці знаёмствы ў літаратурных колах. Аднак дакладна вядома, што ён перапісваўся з вядомай польскай паэткай і навелісткай Сусаннай Рабскай, якая ўдзельнічала ў 1921 г. у арганізацыі Таварыства Польскіх Бібліяфілаў у Варшаве[35]. У аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Польшчы захаваўся адзін з лістоў Дзяконскага, які стасаваўся бібліятэкі ў Магілёўцах і быў напісаны 21 чэрвеня 1932 г.:

«Шаноўная Пані,

Стары збор кніг сям'і Быхаўцаў, пра які я ўзгадваў, не ўтрымлівае экслібрысаў. Кнігі пазначаны пячаткай з ініцыяламі A. L. B. (Аляксандр і Ліберта Быхаўцы). Кнігі гэтыя разам з Магілёўцамі перайшлі ў маё валоданне ў 1913 г.

Калекцыя, моцна пашкоджаная ў часы апошняй вайны, утрымлівала шмат цікавых кніг, між іншым «Слоўнік» Ліндэ, «Гербоўнік» Нясецкага..., і выданне «Валгалы» кс. Вайкі з 1599, друкі з кракаўскіх афіцын.



33 Stankiewicz Z. Poeta Kresów // Głos znad Niemna. 2003. 14 lutego. S. 10.
34 Dziekonski A. Wybór poezji. Opracował i wstępem poprzedził Jerzy Poradecki. Warszawa, 1985. S. 13.
35 Literatura polska XX wieku. Przewodnik encyklopedyczny. Warszawa, 2000. T. 2. S. 89.

Захавалася «Хроніка» Быхаўца» і Марціна Бельскага, Біблія лацінская друк з 1497 г., «Тэалогія» Ламбардзі з 1481 г.

Прыкладваю 4 томікі «Rerum Veneterum», злучаныя ў адзін. Выданне, якое выйшла з друкарняў Людвіка Эльзэвіра ў Амстэрдаме ў 1644 г. Гэта трэці з раду Людвік Эльзэвір майстар друкарскага мастацтва (1604—1670). Амстэрдамскія друкарні былі закладзены ў 1638 годзе.

Буду вельмі рады, калі Шаноўная Пані захоча гэты томік далучыць да сваіх збораў замест абяцанага мною экслібрыса.

Вокладка крыху пашкоджана, але не хацеў бы яе мяняць з прычыны яе старажытнасці. Не ведаю, з якога года паходзіць гэтая вокладка, у любым выпадку, кніга ў сучасным стане знаходзіцца 150 гадоў з гакам у Магілёўцах.

Пры зручным выпадку асмелюся запэўніць у самай глыбокай павазе і сапраўднай пашане.

Альбін Дзяконскі»[36].

Гэты ліст вельмі цікавы таму, што ў ім згадваецца знакамітая «Хроніка Быхаўца» і іншыя кнігі са збораў магілявецкай бібліятэкі. З яго вынікае, якімі знакамі пазначаліся кнігі з бібліятэкі Быхаўцаў.



Спакойнае жыццё ў правінцыйных Магілёўцах, поўнае клопатаў аб гаспадарцы і паэтычнай творчасці, было раптоўна перарвана ў верасні 1939 года. Пасля таго, як Чырвоная армія заняла тэрыторыю Заходняй Беларусі, А. Дзяконскі быў арыштаваны разам з войтам лыскаўскай гміны Станіславам Вічфінскім[37], які быў яго сябрам і таксама жыў у маёнтку. Пасля арышту яго ўтрымлівалі ў Мінску. Вядома, што ў сакавіку 1940 г. ён яшчэ быў жывы, далейшы лёс яго невядомы. В. Церахава ў сваіх артыкулах прыводзіць успаміны старых людзей і чуткі пра лёс Дзяконскага пасля арышту. А.Л. Канькоўская ўспаміналa, што адначасова з Дзяконскім арыштавалі яе прафесара латыні Адамоніса, якому яна дасылала пасылкі з правізіяй. Потым гэты прафесар згадваў пра Дзяконскага. Ена Брухальскі, які пасля вайны пераехаў у Ізраіль, сведчыў,

36 Dziekonski A. List do Z. Rabskiej. Biblioteka Narodowa w Warszawie, zbiory spec. 2723. Korespondencja Z. Rabskiej z lat 1895—1946, k. 231. Арк. 218—219.

37 А. Дзяконскі пазнаёміўся з Вічфінскім падчас службы ў расійскім войску і забраў з сабой у Магілёўцы. Той выконваў функцыі кансультанта. Па чутках, Дзяконскі пазычыў сябру вялікую суму грошай, але гэта не перашкаджала іх адносінам. Вічфінскаму прысвечаны верш «Жаўрукі» са зборніка «Зялёныя Магілёўцы». Гл.: Церахава В. Пясняр зялёных Магілёўцаў // Раённыя будні (Пружаны). 2002. 27 красавіка. С. 4.

што Дзяконскі служыў у арміі Андэрса і жыў у Ізраілі. Сын лакея Дзяконскага згадваў, што пан марыў пераехаць у Бразілію і хацеў узяць з сабой некаторых адданых людзей. Трагічны лёс паэт сам прадракаў сабе ў вершы «Ідылія«, надрукаваным у яго апошнім зборніку[38].

Жонка Дзяконскага Соф'я пераехала ў Варшаву. Невядома, як перажыла яна нягоды сусветнай вайны і якім быў яе далейшы лёс.

У архівах і прыватных зборах Польшчы і Беларусі захавалася толькі тры здымкі Альбіна Дзяконскага. Самы ранні здымак ад 1910 г. быў знойдзены аўтарам у фондах НГАБ у г. Гродна ў 2008 г. Праз чатыры гады — у 1914 г. быў зроблены наступны здымак. Без малога сто гадоў ён захоўваўся ў сям'і Бяртольдзі. Толькі знаёмства з Ілонай Бяртольдзі дазволіла атрымаць гэты каштоўны здымак Альбіна, які да гэтага часу ніколі не быў надрукаваны. У артыкулах Веры Церахавай змешчаны здымак 1937 г., на якім, па сведчанні аўтаркі, Альбін Дзяконскі сфатаграфаваны разам са сваёй траюраднай сястрой Марыяй Трэмбіцкай, якая дапамагала яму друкаваць зборнікі вершаў. Мужчына на здымку падаецца значна старэйшым за тыя 48 гадоў, якія пражыў на свеце Альбін Дзяконскі. І галоўнае, ён вельмі не падобны на здымак маладога Альбіна, які захоўваўся ў сям'і Бяртольдзі і паходзіць з 1914 г. Магчыма, дрэнны выгляд Дзяконскага на здымку 1937 г. абумоўлены яго хваробай на цукровы дыябет, ад якога ён пакутаваў апошнія гады свайго жыцця, што тлумачыць і містычны настрой яго апошніх вершаў, і адчуванне страху, якімі яны прасякнуты[39].

Да ліку захапленняў Дзяконскага можна далучыць маляванне, разьбу і музыку (асабліва Клод Дэбюсі)[40]. Зразумела, што ён быў добра адукаваным, рознабаковым і вельмі таленавітым чалавекам. Жонка паэта Соф'я ўспамінала пра мужа: «Мой муж быў цалкам пазбаўлены бяздзейнасці, ніколі не шукаў славы і папулярнасці, але я чула, што яго вершы не пазбаўлены каштоўнасці і што ў іх утрымліваецца паэтычнае зярнятка. Лічу некаторыя яго вершы дзіўнымі, часам нават незразумелымі. Іншыя ж занадта прымітыўныя, сентыментальныя...».

38 Stankiewicz Z. Poeta Kresów // Głos znad Niemna. 2003. 14 lutego. S. 10.
39 Dziekonski A. Wybór poezji. Opracował i wstępem poprzedził Jerzy Poradecki. Warszawa, 1985. S. 9.
40 Церахава В. Пясняр зялёных Магілёўцаў // Раённыя будні (Пружаны). 2002. 27 красавіка. С. 4.

Пасля вайны некаторыя польскія даследчыкі прызнавалі вартасць творчасці А. Дзяконскага, некалькі разоў яго вершы траплялі ў зборнікі паэзіі міжваенных дзесяцігоддзяў. Першым з даследчыкаў літаратуры, хто звярнуў увагу на творы быў прафесар Ю. Кшыжаноўскі, які выпадкова напаткаў дзве кніжкі Дзяконскага сярод збораў пакойнага літаратурнага крытыка Л. Паміроўскага і набыў іх. Кшыжаноўскі ў размовах з калегамі часта хваліў вершы А. Дзяконскага. Гэтае меркаванне падштурхнула да даследавання гэтых твораў Казіміра Выку, які выступаў у якасці рэцэнзента кнігі Р. Матушэўскага і С. Полака «Польская паэзія 1914—1939 гг.» і садзейнічаў таму, што ў гэтую кнігу трапілі 5 вершаў паэта. Гэтая і іншыя публікацыі прыцягнулі ўвагу да творчасці Дзяконскага, аднак малая колькасць яго кніг перашкаджала яе папулярызацыі.

Вялікага рэзанансу яго творчасць не атрымала. Апошні зборнік вершаў быў надрукаваны ў 1985 г. стараннямі Ежы Парадэцкага, які ва ўступе адзначыў: «Цяжка ацэньваць спадчыну Альбіна Дзяконскага. Не належыць ён да паэтаў, якія, па-аматарску пішучы вершы, стварылі некалькі ці больш за дзесятак значных твораў. Ён не адыграў ніякай ролі ў міжваенны перыяд, таму нельга пісаць пра яго заслугі ў творах гісторыі літаратуры. Безумоўна, быў па прызванні і па прафесіі паэтам, які стварыў уласную філасофію жыцця і літаратуры. Хаця не цяжка выбраць з яго спадчыны больш за дзесятак выбітных вершаў, уяўленне пра Дзяконскага будзе няпоўным. Гэты арыгінальны паэт прапануе чытачу новыя эстэтычныя якасці, новыя настолькі, што іх цяжка разглядзець пры першым кантакце з гэтай паэзіяй»[41].

Лёс Альбіна Дзяконскага быў цесна пераплецены з гісторыяй Пружаншчыны. На гэтых землях паэт і памешчык пражыў 29 гадоў, уся яго творчасць была звязана з Магілёўцамі. Так здарылася, што апошнім гаспадаром знакамітай бібліятэкі Быхаўцаў быў самабытны паэт А. Дзяконскі.

41 Dziekonski A. Wybór poezji. Opracował i wstępem poprzedził Jerzy Poradecki. Warszawa, 1985. S. 29-30.

*Сацута І. У.*

# З гісторыі народных бібліятэк Берасцейшчыны



Астрамечаўская бібліятэка Брэсцкага раёна з'яўляецца адной з першых бясплатных сельскіх бібліятэк-чытальняў Беларусі. Заснаваная ў 1905 годзе, яна была равесніцай першай рускай рэвалюцыі і цесна звязана з гэтай гістарычнай падзеяй.

Ініцыятыва стварэння народных бібліятэк у Расійскай імперыі належыць земствам. На тэрыторыі ж Беларусі ў гэты перыяд земстваў не было. Грамадскай сілаю, якая ўзялася тут за арганізацыю бібліятэк для сялян, стала мясцовая інтэлігенцыя, у першую чаргу студэнты пецярбургскіх вышэйшых навучальных установ і вясковыя дэмакратычна настроеныя настаўнікі. У першым дзесяцігоддзі XX ст. пры Пецярбургскім універсітэце ўзнік беларускі навукова-літаратурны гурток, куды ўваходзілі студэнты-беларусы. Адной з задач гуртка з'яўлялася арганізацыя на Бацькаўшчыне культурна-асветніцкіх установ, у тым ліку бібліятэк для народа.

У гэты час у Пецярбургу сваю дзейнасць па арганізацыі народных бібліятэк развівае Паўленкаўскі фонд. Па завяшчанні вядомага рускага кнігавыдаўца Фларэнція Фёдаравіча Паўленкава на адпісаныя ім грошы яго душапрыказчыкі на чале з В. Якаўленкам адкрылі ў Расіі на пачатку

XX ст. звыш 2000 бясплатных народных бібліятэк-чытальняў, якія атрымалі назву паўленкаўскіх, з іх 11 — на тэрыторыі Беларусі.

Аб адкрыцці народных бібліятэк на Беларусі ў 1908 годзе паведамлялася ў часопісе «Русская школа»: «В 1905 году возникли по частному почину библиотеки-читальни в Брестском уезде в с. Остромечево и Слонимском уезде в м. Жировицах. В 1906—1907 годах были открыты новые библиотеки-читальни в Бельском уезде и в Кобринском — в одном селении»[1].

Аднак, як канстатавала ў 1910 годзе газета «Наша ніва», «у Беларусі народных бібліятэк і чытальняў вельмі мала. Гэта за тым, што нямнога ёсць людзей, каторыя ведаюць, як адкрываць бібліятэкі, а шмат хто думае, што на гэта трэба многа грошай. Тым часам, адкрыць бібліятэку можна з капеек і год за годам з капеечнай яна вырасце ў вялікую святыню асветы для народа»[2].

Ініцыятарамі стварэння бібліятэкі ў Астрамечаве сталі студэнты Пецярбургскага універсітэта браты Сяргей і Мікалай Раманскія — сыны астрамечаўскага святара і два іх сябры з Брэста — Сяргей Басякоў і Яўген Жуковіч. Скарыстацца сродкамі з Паўленкаўскага фонду можна было, калі меўся дазвол губернатара на адкрыццё бібліятэкі і сведчанне з воласці або ад настаўніка, што на месцы сабралі грашыма або кнігамі не менш за 30 — 50 рублёў; «тады з фонду імя Паўленкава высылаюць кніжак на 150 рублёў і далей памагаюць. Так, у адкрытыя з 1905 па 1910 год бібліятэкі імя Паўленкава ў Гродзенскай губерніі выслалі адразу кніг на 150 рублёў, а цяпер зноў выслалі на столькі ж і яшчэ будуць высылаць»[3].

Афіцыйна загадчыкам Астрамечаўскай бібліятэкі губернатар назначыў мясцовага святара Л. Раманскага, а наглядальнікам — настаўніка народнага вучылішча Антона Зянкевіча. Па сутнасці ж святар не меў дачынення да работы бібліятэкі. Усё ўзяў на сябе Антон Паўлавіч Зянкевіч. Ён і ўвайшоў у гісторыю як першы бібліятэкар гэтай кніжнай установы.

Па звестках самога А. Зянкевіча, першапачаткова фонд бібліятэкі ацэньваўся сумай у 100 рублёў. Кнігі збіраліся арганізатарамі са сваіх хатніх бібліятэк і часткова на ахвяраванні мясцовай інтэлігенцыі.

1 Мезьер А. Из хроники библиотечного дела // Русская школа.. 1908.
2 Наша ніва. 1910. № 52.
3 Наша ніва. 1910. № 52.

Бібліятэка-чытальня размяшчалася ў будынку школы, у асобным пакоі. Кнігі мясціліся ў дзвюх вялікіх шафах. Цудам захавалася адна з першых кніг, выдадзеная ў 1903 годзе. Яе аўтар А.Н. Сцяпанаў, называецца кніга «Сельская гаспадарка і сельскае жыццё». На тытульным лісце захавалася авальная пячатка з тэкстам: «*Народная бібліятэка імя Ф.Ф. Паўленкава ў вёсцы Астрамечава*». Кніга ў добрым стане, і яе праз сто гадоў можна без цяжкасцяў чытаць.

У 1907 годзе, гэта значыць праз два гады пасля яе заснавання, Астрамечаўская бібліятэка мела ўжо больш за тысячу кніг. У наступным годзе яе фонд значна папоўніўся ў сувязі з наступнымі абставінамі. Гродзенская дырэкцыя народных вучылішч, жадаючы, відаць, зменшыць прагрэсіўны ўплыў паўленкаўскай бібліятэкі на мясцовае насельніцтва, вырашыла адкрыць у Астрамечаве пры народным вучылішчы другую бібліятэку. Для гэтай мэты было адпушчана, па словах А. Зянкевіча, 400 рублёў. На іх настаўнік склаў спіс літаратуры для новай бібліятэкі так, што адабраныя ім кнігі не ішлі ўразрэз з ідэйным накірункам паўленкаўскай бібліятэкі. Юрыдычна новая бібліятэка лічылася самастойнай. На яе кнігі быў складзены асобны інвентарны вопіс, аднак гэта не мяняла сутнасці справы. Фактычна другой бібліятэкі не існавала. Была і заставалася адна бібліятэка — паўленкаўская.

У перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гадоў былі адменены правілы 1884 года аб міністэрскіх каталогах і часовыя правілы ад 15 мая 1880 года аб народных бібліятэках і парадку нагляду за імі, якія абмяжоўвалі камплектаванне фондаў публічных бібліятэк. У сувязі з гэтым бібліятэкі атрымалі магчымасць набываць літаратуру, якая мелася на кніжным рынку. Па сведчанні А. Зянкевіча, здараліся выпадкі, калі нелегальныя кнігі і забароненыя выданні былі пераплецены разам з легальнымі, так што іх цяжка было выявіць.

У перыядычным друку таго часу ёсць паведамленне, што Астрамечаўская бібліятэка атрымала дапамогу грашыма і кнігамі ад «аднаго таварыства з Францыі, ад расейскага пісара Максіма Горкага»[4]. Дасылала сюды свае выданні беларуская выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца», бібліятэка атрымлівала таксама газеты «Наша доля» і «Наша ніва», іншыя перыядычныя выданні.

4 Наша ніва. 1908. № 46

Цяжкімі і складанымі пуцявінамі ішло развіццё беларускага афіцыйнага перыядычнага друку. Спатрэбілася больш за чатыры дзесяцігоддзі, каб пасля «Мужыцкай праўды» К. Каліноўскага — першай ластаўкі беларускай перыёдыкі — з'явілася нарэшце, у 1906 годзе, беларуская легальная газета. І то лёс яе быў няпростым, як няпростым было нацыянальнае адраджэнне беларусаў. Спробы для стварэння легальнай перыядычнай газеты ў Беларусі рабіліся і раней. 15 ліпеня 1870 года ў Парыжы выйшаў першы і адзіны нумар польска-літоўска-беларускай газеты «Змова». Беларускія народавольцы — студэнты Пецярбургскага універсітэта — наладжваюць выданне гектаграфаванага часопіса «Гоман» на рускай мове. Другі яго нумар, выдадзены 15 лістапада 1884 года, быў цалкам прысвечаны абмеркаванню нацыянальнага пытання ва ўмовах Беларусі і будучыні роднага краю.

Сапраўднае абуджэнне нацыянальна-вызваленчага руху прынесла рэвалюцыя 1905 года. Магутны штуршок для развіцця атрымала беларуская літаратура, пачалася барацьба за нацыянальную школу, тэатр, кнігадрукаванне і перыёдыку на роднай мове.



12 жніўня 1906 года віленскі жыхар Іван Адамавіч Тукеркес атрымаў у канцылярыі віленскага губернатара пасведчанне № 11532 на права выдання і рэдагавання штотыднёвай газеты «Наша доля» — першай беларускай газеты для вясковага і местачковага рабочага народу. Яна пабачыла свет 1 верасня 1906 года на васьмі старонках невялікага фармату. Выхад газеты адзначылі ўсе віленскія рускія, польскія, літоўскія перыядычныя выданні, а таксама некаторыя мінскія.

Нядоўга жыла першая легальная грамадска-палітычная і літаратурная газета «Наша доля» (1 верасня — 14 снежня 1906 года). З шасці нумароў на пяць была аб'яўлена канфіскацыя, рэдактар асуджаны на год турэмнага зняволення, а само выданне забаронена.

Горкі вопыт «Нашай долі» спатрэбіўся «Нашай ніве», якая пачала выходзіць з 10 лістапада 1906 года, пасля чацвёртага нумара сваёй папярэдніцы. Газета была разлічана пераважна на сялянскага чытача і вясковую інтэлігенцыю. У ёй друкаваліся матэрыялы пра побыт беларускай вёскі, адстойваліся патрабаванні грамадзянскага і палітычнага раўнапраўя беларусаў, свабода карыстацца роднай мовай, развіваць на ёй літаратуру, асвету. «Наша ніва» адыграла значную ролю ў выяўленні і збіранні беларускіх літаратурных сіл, у выданні і прапагандзе беларускіх кніг. «Мы бачым, — пісала газета на чацвёртым годзе свайго жыцця, —

што з самых глухіх куткоў Беларусі, дзе ніхто дагэтуль не толькі пісаць у газету, але і чытаць друкаванае слова не меў ахвоты, плывуць у «Нашу ніву» сотні карэспандэнцый, напісаных мазолістай рукой селяніна, бо ён ужо пазнаў, што гэта яго газета і для яго. Шырэй, байчэй, чым тыя гады, ідуць у народ і беларускія кніжкі, і з гэтага відаць, як узрастае патрэба іх».

Рэдакцыя газеты выдавала таксама беларускія календары, прапагандавала тэатр У. Буйніцкага, беларускія спевы, танцы. «У Вільні, Гародні, Полацку, Дзісне, Пецярбургу выступаюць дружыны артыстаў-аматараў, і з тэатральнай сцэны плыве жывое беларускае слова, будзячы прыспаныя сэрцы беларусаў і паказваючы ўсім, што «жыве Беларусь!»

Пры тэатрах пазакладаліся хоры, каторыя пяюць нашы народныя песні, хапаючы людзей хараством беларускай музыкі. Таксама арганізаваны былі гурткі танцораў: яны на сцэне паказвалі, як танцуе прыродны беларус, каторага не папсавалі «модныя» кадрылі, вальсы, даводзячы яшчэ раз, што і гуляць у сваёй нацыянальнай вопратцы шмат пекней, чым у пазычанай у чужых».

У 1911 годзе тыраж «Нашай нівы» складаў ужо каля 3000 экзэмпляраў. Яна бясплатна высылалася ў народныя бібліятэкі, у тым ліку і ў Астрамечаўскую, за што А. Зянкевіч і М. Паўлючык, добры памочнік бібліятэкі і адзін з першых яе чытачоў, падзякавалі рэдакцыі і пажадалі ёй «далейшай карыснай працы ў імя беларускага народа». Гісторыя захавала яшчэ некалькі прозвішчаў актыўных чытачоў таго часу: А. Мацвяюк, А. Данілюк, М. Місюк, П. Шыш, С. Краўчук і іншыя.

На старонках «Нашай нівы» неаднаразова паведамлялася пра дзейнасць Астрамечаўскай бібліятэкі. «За 1908 год бібліятэка выдала 2 тысячы 500 кніг. Найбольш кніг чытаюць позняй восенню. Чацвёртая частка чытачоў — кабеты і дзяўчаты. Карысць ад кніг вялікая . У іх напісана ўся мудрасць, да каторай дайшоў свет. Адзін чалавек, як пачаў чытаць кніжкі, дык кінуў піць гарэлку,» — чытаем у адным з нумароў згаданага перыядычнага выдання. Там жа надрукавана: «Астрамечаўская бібліятэка прасіла ў валасці 25 рублёў з штрафаў, каб паправіць кніжкі, што бадзяюцца па руках, падзёрліся. Валасць павінна адпусціць, бо чытаюць усе вёскі гэтай валасці»[5].

5 Наша ніва. 1909. № 17.

Наведвальнікі бібліятэкі не ў апошнюю чаргу цікавіліся новымі творамі беларускіх аўтараў. «Бо ж дагэтуль, бадай, не было друкаванага беларускага слова, бадай, зусім не было пісьменнікаў. А калі і жыў адзін-другі з іх, дык моўчкі пісаў дзесь у цішы, рэдка калі выдаваў што-небудзь (дый то невялікай вартасці) і не быў нічым звязаны са сваім чытачом. Можа, праз гэта ніводзін з іх і не вырас у праўдзівага пісьменніка свайго часу, бо толькі адна глеба можа ўзгадаваць такога. Гэта глеба — чытач. У непарыўнай еднасці, у жывых стасунках увесь час павінен знаходзіцца пісьменнік са сваім народам. А такой супольнасці не мела папярэдняя беларуская літаратура. Праз гэта і згінула яна для свайго часу, застаўшыся нам не як жывое слова, а толькі як гістарычны ўспамін»[6].

Валодаючы багатым фондам класічнай рускай і замежнай літаратуры, бібліятэка далучала насельніцтва навакольных вёсак да скарбаў сусветнай культуры.

Дзякуючы асветніцкай дзейнасці бібліятэкі, у Астрамечаве пачынаюць ствараццa іншыя культурна-бытавыя арганізацыі. «Кожная бібліятэка шмат памагае асвячаць народ. Апрача гэтага яна робіцца як бы цэнтрам культурнай работы. Калі дзе адкрыецца бібліятэка, лягчэй ужо завесці і крэдытнае таварыства, і якую рамесную майстэрню, і ўсё тое, чым самі сабе могуць памагчы сяляне. Але аб адным ніколі не маюць права забываць тыя, хто працуе над прасветай між беларусаў: у кожнай бібліятэцы, у кожнай чытальні наш селянін павінен знайсці і кніжкі на сваёй роднай мове»[7].

У Астрамечаве бібліятэка пачала аказваць медыцынскую дапамогу хворым: «У нашым сяле доктара няма, дык хворым даводзіцца ездзіць да яго за 20 вёрст. Цяжка гэта — вядома, дык цёмны мужык ідзе за радай да ўсялякіх знахароў, аддае ім свае капейкі, а хваробы косяць ды косяць народ. Часам невялікая нават помач, дадзеная ў час, можа шмат памагчы. Карыстаючыся з пазвалення артыкула 226 устава ўрача, бібліятэка адкрыла ў сябе маленькую аптэчку, з каторай выдае за сваю цану лякарствы, даючы раду дарма. Лекі выпісваюцца з найлепшых складоў Пецярбурга ад «Рускага таварыства гандлю аптэкарскімі таварамі». Кожную нядзелю прыходзяць па лекі 10 — 15 хворых ды нават з чужых вёсак»[8].

6 Наша ніва. 1910. № 70.
7 Наша ніва. 1910. № 52.
8 Наша ніва. 1909. № 34.

Восенню 1912 года А. Зянкевіч паехаў з Астрамечава ў Пецярбург вучыцца, але бібліятэка працягвала сваю плённую дзейнасць і пасля ад'езду загадчыка. Яна праіснавала да моманту акупацыі ў 1915 годзе тэрыторыі Заходняй Беларусі войскамі кайзераўскай Германіі. Што здарылася з бібліятэкай у час нямецкай акупацыі, дакладна ўстанавіць не ўдалося. Напрыканцы 20-х гадоў, у перыяд панскай Польшчы, бібліятэка зноў адкрылася, аднак ненадоўга. Кааператыўная спажывецкая арганізацыя, якая апекавала ўстанову культуры да 1933 года, спыніла сваю дзейнасць у сувязі з фашызацыяй Польшчы. Разам з ёю ў 1934 годзе польскімі буржуазнымі ўладамі была ліквідавана і бібліятэка. Яе фонд амаль не ўдалося ўратаваць. Толькі невялікая частка кніг засталася на руках у чытачоў, астатнія былі канфіскаваны або раскрадзены. У 1939 годзе, пасля ўз'яднання беларускіх зямель, бібліятэка ў Астрамечаве адраджаецца, але з пачаткам Вялікай Айчыннай вайны яна зноў прыпыняе сваю дзейнасць, каб аднавіць яе ў 1946 годзе.

Нягледзячы на ўзрастаючую канкурэнцыю з боку электронных сродкаў інфармацыі, і сёння ў Астрамечаве працягваюць чытаць. Кніжны фонд і фонд перыядычных выданняў бібліятэкі складае больш за 14 тысяч экзэмпляраў. З сакавіка 1995 года яна месціцца ў новым будынку Дома культуры. У зоне абслугоўвання пражывае больш за дзве з паловай тысячы чалавек, з якіх амаль кожны другі — чытач бібліятэкі. У розныя гады пры бібліятэцы працавалі лялечны тэатр, дзіцячыя клубы па інтарэсах, аматарскія аб'яднанні па вывучэнні гісторыі роднага краю, вяліся рукапісныя альбомы, ладзіліся шматлікія літаратурныя вечарыны і выставы, іншыя цікавыя мерапрыемствы. Яна стала сапраўдным культурна-асветніцкім цэнтрам, куды людзі прыходзяць не толькі па кнігі, але і каб змястоўна правесці свой вольны час.

Тры разы гінула ў пякельных вогнішчах гісторыі бібліятэка ў Астрамечаве. Аднак, як толькі наступалі мірныя часы, астрамечаўцы адраджалі яе. Насенне, кінутае аднойчы на жыватворную народную глебу, не засохла, не задыхнулася, а дало добрыя ўсходы на нялёгкай, але ўдзячнай ніве Адраджэння.

*Саітава В. І.*

# Бібліяграфічнае адлюстраванне гісторыі Брэсцкага краю ў часопісе «Ateneum wileńskie»



Засваенне новых дакументальных крыніц стымулюе паспяховае развіццё краязнаўчых ведаў. Гістарычны раздзел краязнаўства ўзбагачаецца ўвядзеннем у навуковы ўжытак невядомых дакументаў, публікацый, якія па тых ці іншых прычынах недастаткова выкарыстоўваліся. Абласныя, публічныя масавыя і навуковыя бібліятэкі кожнай вобласці, як буйнейшыя суб'екты інфармацыйнай інфраструктуры краязнаўства, са свайго боку імкнуцца бесперапынна пашыраць кола крыніц папаўнення краязнаўчых інфармацыйных рэсурсаў. У гістарычнай рэтраспектыве багатыя інфармацыйныя пласты пра кожны край захоўваюцца ў перыядычных і бягучых выданнях. Важнасць бібліяграфічнага раскрыцця іх зместу падкрэсліваецца пастаянна. Больш таго вядучыя даследчыкі краязнаўчай бібліяграфіі лічаць, што такую ж значнасць мае і ўважлівае вывучэнне бібліяграфічных матэрыялаў, змешчаных у гэтых выданнях. Цалкам справядліва А.В. Мамантаў і М.М. Шчэрба аднеслі латэнтную бібліяграфічную інфармацыю да асноўных крыніц выяўлення дакументаў пры падрыхтоўцы краязнаўчых бібліяграфічных дапаможнікаў[1].

1 Мамонтов А.В. Краеведческая библиография: учебник. М., 1989. С. 136.

Часопіс «Ateneum wileńskie», які выдаваўся ў 1923—1939 гг. ІІІ аддзяленнем Таварыства сяброў навук універсітэта імя Стэфана Баторыя ў Вільні, заслугоўвае разгляду як крыніца гісторыка-краязнаўчых навуковых ведаў і бібліяграфічнай інфармацыі. Выданне было прысвечана публікацыі матэрыялаў вывучэння мінулага былых зямель ВКЛ, у т.л. беларускіх. Кола аўтараў — пераважна віленскія даследчыкі, але друкаваліся вучоныя і з іншых гарадоў Польшчы і нават замежжа. Сярод іх такія вядомыя гісторыкі і бібліёграфы, як М. Брэнштэйн, С. Заянчкоўскі, А. Прахаска, Я. Якубоўскі, Я. Івашкевіч, Ф. Канечны, М. Амброс, С. Віславух, Г. Лаўмянскі і інш.

Асноўнымі раздзеламі выдання былі: навуковыя трактаты, сумесь і матэрыялы, крытычны і бібліяграфічны, раздзел хронікі і справаздач. У першым раздзеле «Навуковыя трактаты» змяшчаліся вялікія даследаванні, аб'ёмам і структурай падобныя да манаграфій і дысертацый. У другім раздзеле «Сумесь і матэрыялы» друкаваліся навуковыя артыкулы і ў вялікай колькасці гістарычныя крыніцы. Тэксты гістарычных дакументаў падаваліся на мове арыгіналу (таму ёсць і на рускай мове) і паралельна ў перакладзе на польскую мову. У крытычным раздзеле змяшчаліся рэцэнзіі на новыя навуковыя выданні, зборнікі актавых дакументаў па профілі часопіса, якія выходзілі ў Польшчы, БССР, Германіі і іншых краінах. Кожнае рэцэнзаванае выданне атрымлівала поўнае бібліяграфічнае апісанне. У бібліяграфічным раздзеле змяшчаліся паказальнікі мясцовых выданняў, краязнаўчыя паказальнікі і паказальнікі да самога выдання.

Тэматыка навуковых даследаванняў, апублікаваных у «Ateneum wileńskie», ахоплівала мноства праблем і пытанняў мінулага беларускіх зямель пераважна за перыяд XIV—XIX стст. Гэта: вялікія князі і ўнутраная палітыка ВКЛ, адносіны з Польшчай і Масковіяй, крыжакамі, крымскімі татарамі; права ВКЛ; эканоміка гарадоў, мястэчак, маёнткаў; гісторыя княжацкіх родаў, біяграфіі знакамітых дзеячаў; войны і войска; комплексныя апісанні населеных пунктаў; моўныя спрэчкі; рэлігійнае жыццё; вызваленчыя паўстанні і іншыя падзеі. У тэрытарыяльным аспекце ў часопісе можна выявіць матэрыялы пра населеныя пунктых, адміністрацыйна-тэрытарыльныя і геаграфічныя аб'екты, якія адносіліся да Беларусі. Сярод іх дзесяткі аб'ектаў на землях Брэсцкага краю. Гэта старажытныя княствы, адміністрацыйныя і эканамічныя адзінкі (Брэсцкае ваяводства, Драгічынскі, Кобрынскі, Пінскі паветы,

Кобрынская эканомія і іншыя); гарады і мястэчкі, маёнткі, палацы, сельскія населеныя пункты, дарогі; прыродныя рэгіёны і аб'екты: Белавежа, Палессе, рэкі Буг, Мухавец, водныя шляхі, лясныя масівы і інш.[2] Такія даследаванні, артыкулы і гістарычныя дакументы самі заслугоўваюць адлюстравання ў краязнаўчых бібліяграфічных рэсурсах бібліятэк Брэсцкага рэгіёна, але яны нясуць і паток уключанай, латэнтнай бібліяграфічнай інфармацыі. Н.А. Сляднева адзначыла, што латэнтная бібліяграфічная інфармацыя зліваецца з вытворчасцю новых ведаў: аўтар навуковага тэксту ў ходзе яго стварэння ўключае спасылкі, цытаты, упамінанні, пераказы і ацэнкі тэкстаў (ідэй) іншых аўтараў[3].

У «Ateneum wileńskie» прымяняліся разнастайныя формы латэнтнай бібліяграфічнай інфармацыі: прыартыкульныя спісы літаратуры, бібліяграфічныя звесткі ўнутры артыкулаў, даследаванняў і гістарычных дакументаў, агляды навуковых твораў, уключаныя ў тэксты артыкулаў, бібліяграфічныя звесткі ў падрадковых заўвагах. У большасці публікацый аўтары выкарыстоўвалі некалькі формаў. Пераважалі спасылкі ў падрадковых заўвагах і ўнутры тэкстаў, а таксама аглядныя матэрыялы.

Так, да працы З. Абертыньскага «Літоўскі план польскіх капуцынаў» — 179 падрадковых спасылак, В. Шульца «Спрэчкі Акадэміі віленскай з піярамі аб выключным праве на школы. 1723—1753» — 202 спасылкі, С. Віславуха «Развіццё межаў і тэрыторыі Кобрынскага павету да паловы XVI стагоддзя» — 110 спасылак і інш. Вялікія матэрыялы, якія раздзеламі змяшчалі ў некалькіх выпусках, мелі самастойную нумарацыю падрадковых спасылак у кожным выпуску, напрыклад, раздзел даследавання Г. Лаўмянскага «Уваходы літоўскіх гарадоў»[4] змяшчае 159 падрадковых спасылак і інш. Упамінанне адміністрацыйных, эканамічных і прыродных адзінак, размешчаных на тэрыторыі сучаснай Брэстчыны, суправаджаецца спасылкамі на шматлікія дакументальныя крыніцы, што дазваляе разглядаць іх з пазіцый развіцця краязнаўчых інфармацыйных рэсурсаў бібліятэк вобласці.

Адметнасцю падрадковых спасылак з'яўляецца сумяшчэнне бібліяграфічных і фактаграфічных звестак. Фактаграфічныя спасылкі

---

2 На жаль, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі не поўны камплект выпускаў «Ateneum wileńskiego», таму некаторыя звесткі засталіся па-за ўвагай аўтара артыкула.

3 Сляднева Н.А. Библиография в системе Универсума человеческой деятельности: опыт системно-деятельностного анализа. М., 1993. С. 47.

4 Ateneum wileńskie. 1924. R. II. S. 1—30.

падмацоўвалі думкі аўтараў, пашыралі аргументацыю, адлюстроўвалі іншыяпрыклады.Бібліяграфічныяспасылкізабяспечваліідэнтыфікацыю дакументаў, уключаных у навуковы кантэкст.

Кола крыніц, якія пададзеных ў формах латэнтнай бібліяграфічнай інфармацыі, характарызуецца тэматычнай разнастайнасцю і шырынёй відавога складу. Гэта шматлікія выданні гістарычных першакрыніц, манаграфіі польскіх, рускіх, нямецкіх і іншых вучоных, артыкулы з навуковых часопісаў і зборнікаў, дакументы з прыватных, дзяржаўных і ведамасных архіваў розных краін і іншыя на розных мовах. Звесткі, якія прыводзяцца ў падрадковых заўвагах, паказваюць, што паводле відавога складу дамініруюць выданні гістарычных першакрыніц і навуковыя манаграфіі. Выданні актавых дакументаў, апублікаваныя ў Расійскай імперыі, БССР, Польшчы, Аўстрыйскай імперыі і ў некаторых іншых краінах, былі асноўнымі крыніцамі для польскіх гісторыкаў. З найбольшай частотнасцю прыводзяцца спасылкі[5] на выдадзеныя і рукапісныя кнігі Літоўскай метрыкі, «Акты, относящиеся к истории Западной России...» (A.Z.R.I.; СПб, 1846 — 1853), «Акты Виленской археографической комиссии», «Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России...» (СПб, 1863—1892), «Писцовую книгу бывшего Пинского староства...» (Вильна, 1874), «Ревизию Кобринской экономии...» (Вильна, 1876), «Писцовую книгу Пинского и Клецкого княжеств...» (Вильна, 1884), «Историко-юридические материалы, извлеченные из архивных книг губерний: Витебской и Могилевской...» (Витебск, 1871—1906), «Архив комиссии исторической» (A.Kom.H.; 1909), асобныя тамы «Полного собрания русских летописей» (P.S.R.L.), «Archiwum książąt Sanguszków» (Arch. Sang.; Lwów, 1889—1890), «Собрание государственных грамот и договоров» (Москва, 1813), «Kodex mazowiecki» (Kod. maz.), «Codex Epistolaris saeculi XV» (Cod. Ep.S XV; Kraków, 1876—1894) і многія інш. Сярод вучоных частыя спасылкі на працы М. Доўнар-Запольскага, А.С. Грушэўскага («Пинское Полесье»: «Очерк истории Турово-Пинского княжества», «Туров, Городок и Пинск в составе ВКЛ», «Пинское староство к. Боны XIV—XVI вв. — Пинские акты XV—XVI вв.», Я. Длугаша, Ф.І. Леантовіча, М.К. Любаўскага і інш.

5 Для арыентацыі ў дужках прыведзены і варыянт самага сціслага скарачэння назваў выданняў, якія прымяняліся ў латэнтнай бібліяграфічнай інфармацыі ў «Ateneum Wileńskim».

На гэтыя выданні спасылаецца Г. Лаўмянскі, калі характарызуе даходы гарадскіх пасяленняў Брэстчыны. Так, спасылкамі на «Ревизию Кобринской экономии» ён пацвярджае распаўсюджанасць у XVI ст. мясных лавак і мяснікоў у невялікіх гарадах, і ў прыватнасці ў Кобрыне і Пружанах, а на пяты том «Актов Виленской археографической комиссии» — дазвол «кобрынцам і пружанцам» лавіць рыбу ў Мухаўцы. Л. Каланкоўскі ў артыкуле «Валочная памера» спасылаецца на працы М. Доўнар-Запольскага і матэрыялы з першага тому «Źródła do historji sztuki», калі прыводзіць звесткі пра Станіслава Хвальчэўскага і Станіслава Свідэрскага, якім належала важная роля ў правядзенні рэформы на землях Брэстчыны[6]. Севярын Віславух, даследуючы фарміраванне тэрыторыі Кобрынскага павета да адміністрацыйна-тэрытарыяльнай і судовай рэформы 1565—1566гг., цытуе і спасылаецца на дзесяткі актавых крыніц і навуковых прац[7]. Такіх прыкладаў нямала, і выяўляць іх хутчэй магчыма па паказальніках да гадавых выпускаў «Ateneum Wileńskie» (Indeks autorów, osób i miescowości), якія ахопліваюць шэраг персанальных і геаграфічных рубрык, звязаных з Брэстчынай. Так, з паказальніка за 1924 г. відаць, што горад Брэст узгадваўся на старонках выдання 28 раз, Кобрын — 11, Пінск — 9, Пружаны — 6, Белавежа — 3 і шэраг спасылак да іншых аб'ектаў[8].

Некаторыя падрадковыя заўвагі аб'ядноўвалі бібліяграфічную інфармацыю, цытаты і фактаграфічныя дадзеныя. Так, спасылка № 5 у артыкуле Г. Лаўмянскага «Віленскія друкарні XVI стагоддзя» змяшчае цытаты з шэрагу крыніц і высновы самога аўтара, дакладныя звесткі з «Кнігі каморы Брэсцкай» пра дастаўку паперы ў Кобрын, Пінск, Магілёў, Мінск, Слуцк. Усе дадзеныя суправаджаюцца шэрагам бібліяграфічных апісанняў[9].

Аглядная ўнутрытэкставая інфармацыя сустракаецца часцей за ўсё ва ўступах да даследаванняў, артыкулаў і тэкстаў гістарычных крыніц. Адметнай іх рысай з'яўляецца ацэнка твораў у кантэксце распрацаванасці выбранай тэмы, што праяўляецца ў характарыстыцы крыніцазнаўчай базы прац папярэдніх даследчыкаў, меркаваннях пра іх навуковую і ідэйную вартасць. Так, у 12-м сшытку «Ateneum wileńskie» за 1927 г. Аляксандр Ёдзевіч змясціў сакрэтны «Список с докладной

6 Ateneum wileńskie. 1927. R. IV. Z. 13. S. 237—251.
7 Ateneum wileńskie. 1929 R. VI. Z. 1—2. S. 16—46.
8 Ateneum wileńskie. 1924. R. II.
9 Ateneum wileńskie. 1924. R. II. Z. 5—6. S. 409—422.

записки корпуса жандармов полковника Камаевского начальнику 4-го округа сего же корпуса генерал-майору графу Буксгевдену от 1 марта 1848 за № 12», у якім падрабязна апісваюцца падзеі экзекуцыі па справе Рэра і яго супольнікаў, удзельнікаў тайнага таварыства, у т. л. Аполіна Гофмейстара, маладога памешчыка з маёнтка Шастакова пад Брэстам[10]. У аўтарскім тэксце [А. Ёдзевіча], разгледжаны творы, прысвечаныя тэме артыкула. У падрадковых фактаграфічных спасылках пададзены звесткі пра далейшы лёс будучага «начальніка ваяводства Брэст-Літоўскага» у паўстанні 1863 г. (Месца смерці А. Гофмейстара ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» ўказана як Галіцыя, але Ёдзевіч і М. Дубецкі — аўтар артыкула пра Гофмейстара, апублікаваным у «Ateneum wileńskim» у 1923 г.[11], дакладна называюць Кракаў).

Бібліяграфічныя звесткі ўнутры тэкстаў пры цытаванні дакументаў ці ў агляднай форме прыводзіліся ў адвольным парадку, часам у дужках.

Большасць бібліяграфічных спасылак у падрадковых заўвагах, унутры тэкстаў, і ў аглядных матэрыялах дазваляе дакладна ідэнтыфікаваць дакументы, нягледзячы на непаўнату элементаў, на адвольна скарочаныя формы бібліяграфічных апісанняў, у т.л. загалоўкаў выданняў, і апісанне рускамоўных выданняў лацінскім шрыфтом, што непрымальна ў сучаснай бібліяграфічнай практыцы. Непаўната праяўлялася ва ўключэнні абмежаванай колькасці элементаў бібліяграфічнага апісання, звычайна аўтара, назвы, тома. Старонкі дакладна ўказваліся заўсёды. Аднак часам не адзначаліся год і месца выдання ці іншыя звесткі. Таму ідэнтыфікацыя некаторых дакументаў, дастаткова вядомых у навуковым асяроддзі на той час, выклікае цяжкасці. Скарачэнне «ibid.» з дакладнымі старонкамі замяняла бібліяграфічныя звесткі пры паўторных спасылках на дакумент.

З пачатку існавання «Ateneum wileńskiego» рэдакцыя імкнулася весці бібліяграфічную інфармацыю пра новыя выданні і артыкулы, адпаведныя яго зместавай накіраванасці. Калі Публічная бібліятэка Віленскага універсітэта распачала бібліяграфічную рэгістрацыю выданняў, якія выйшлі на тэрыторыі ваяводстваў, размешчаных на землях Заходняй Беларусі (так званага Віленскага бібліяграфічнага рэгіёну) і выпуск паказальнікаў «Віленская рэгіянальная бібліяграфія ў...годзе», а пазней і «Перыядычныя выданні Віленскага бібліяграфічнага рэгіёну», гэта

10 Ateneum wileńskie. 1927. R. IV. Z. 12. S. 200—207.
11 Не змяшчае бібліяграфічных звестак.

вельмі зацікавіла рэдакцыю і чытачоў «Ateneum wileńskiego». Выпускі гэтых паказальнікаў перадрукоўваліся ў часопісе, а таксама змяшчаліся аналітычныя артыкулы пра тэндэнцыі кнігадруку на іх падставе. Па гэтых паказальніках дастаткова зручна выяўляць мясцовыя друкаваныя матэрыялы, што сёння важна пры вядзенні каталогаў і базаў дадзеных мясцовых выданняў. Бібліяграфічная інфармацыя і дадзеныя пра выдавецкую дзейнасць — каштоўны матэрыял і для вывучэння гісторыі кнігадрукавання ў Брэсцкім рэгіёне. Друкарні Брэстчыны займалі значнае месца ў выдавецкім працэсе на заходнебеларускіх землях. Брэст вызначаецца як трэці асноўны цэнтр кнігавыдання пасля Вільні і Беластока. Нават у першай палове 1930 г. з 379 выданняў[12], зарэгістраваных у Віленскім бібліяграфічным рэгіёне, 18 выйшлі ў Брэсце, Пінску, Баранавічах і Кобрыне[13]. У паказальніку «Перыядычныя выданні Віленскага бібліяграфічнага рэгёна» адлюстроўваліся выданні за год. Газеты, часопісы і іншыя перыядычныя выданні групаваліся па раздзелах у алфавіце месцаў выхаду, унутры раздзелаў — перыядычныя выданні дадаткова дыферэнцаваліся па відах. Так, з паказальніка за 1929 г. можна даведацца, што ў Баранавічах і Кобрыне выходзілі па 2 перыядычныя выданні, у Брэсце —16, Пінску — 5 і інш.

У канцы 20-х гг. на тэрыторыі Польшчы была заснавана дзяржаўная бібліяграфічная рэгістрацыя выданняў і пачалі выходзіць бягучыя нацыянальныя бібліяграфічныя паказальнікі, таму ўлік новых выданняў у межах Віленскага бібліяграфічнага рэгёну быў прыпынены, а сам рэгён у 1930 г. скасаваны.

Але справа бібліяграфічнага інфармавання пра новую літаратуру, прысвечаную гістарычнаму вывучэнню зямель ВКЛ, была паспяхова прадоўжана ў Публічнай бібліятэцы імя Я. і Э. Урублеўскіх (Вільня), у якой на працягу 1929—1936 гг. складаўся бібліяграфічны паказальнік «Бібліяграфія гісторыі зямель б. ВКЛ за год...». Паказальнік выходзіў асобнымі выпускамі, а таксама публікаваўся ў часопісе «Ateneum wileńskie». Адлюстроўваліся творы друку, апублікаваныя пераважна ў Польшчы, а таксама ў БССР, СССР, Германіі, Англіі, Літве, Латвіі, ЗША і іншых краінах. Краязнаўчыя творы як навуковыя, так і папулярныя, інфармацыйна-рэкламныя ўлічваліся вельмі ўважліва. Так,

12 Гэта год рэзкага скарачэння кнігадрукавання з-за эканамічных прычын.
13 Ateneum wileńskie. 1930. R. VII. Z. 1-2. S. 351—354.

у паказальніку адлюстраваны нават выданні, прысвечаныя Палеска-Пінскаму краю, напісаныя сябрамі краязнаўчага гуртка дзяржаўнай гімназіі імя Ю. Пілсудскага ў Пінску. Збіраючы дакументальныя крыніцы і вусныя аповеды старажылаў пра мінулае Піншчыны, пра унікальную прыроду краю, вучні напісалі і апублікавалі ў сярэдзіне 30-х гг. шэраг твораў у дэцызыяльнай друкарні і друкарні братоў Вількoвіч: «Polesie pod znakiem »nastawki» i dykty«, »Z krainy wjunów«, »Czar Polesia czar«, »Polesie i turysta», два выданні «Słów kilka o Pińsku oraz święta, obrzędy i wierzenia ludu poleskiego».

У «Бібліяграфіі гісторыі зямель б.ВКЛ...» прымянялася сістэматычная групоўка бібліяграфічных запісаў, што дазваляла ў гістарычным аспекце паказаць розныя галіны гаспадаркі, культуры і мастацтва, вайсковай справы, рэлігійнага жыцця, літаратурна-мастацкія творы, звесткі па этнічнай гісторыі, аб насельніцтве і інш. Асобна выдзяляліся і раздзелы краязнаўства, бібліяграфічных прац, біяграфій, мемуарнай літаратуры, рэцэнзій і крытычных матэрыялаў. Усяго ў паказальніку было адлюстравана 2075 дакументаў. У кожным выпуску ёсць бібліяграфічныя апісанні дакументаў, прысвечаных Брэстчыне, а таксама звесткі пра кнігі і іншыя дакументы, якія выходзілі ў гарадах рэгіёна. Так, у паказальніку за 1930 г. адлюстраваны працы вядомага краязнаўцы Рамана Гарашкевіча, выдадзеныя ў Брэсце-над Бугам: «Powiat Stoliński: notatki historyczne», «Krótki rys powiatu Brzesko-nad-Bużańskiego», «Sprawa Szlachty Zaściankowej Polesia»; кніжачка З. Гасяроўскага «Szkola na Polesiu na tle stanu i potrzeb szkolnictwa Rzeczypospolitej». У 1936 г. зарэгістраваны выдадзеныя ў Брэсце «Przewodnik po Polesiu» М. Марчака, «Poleska szopka polityczna» Г.Е. Грушчынскага і інш. Звесткі пра ілюстратараў, рэдактараў, друкарні, тэматыку выданняў і іншыя дадаткова могуць выкарыстоўвацца пры даследаванні развіцця кнігавыдання ў Брэсцкім рэгіёне ў міжваенны перыяд.

Бібліяграфічныя апісанні ва ўнутрычасопісных паказальніках аформлены уніфікавана, а колькасць элементаў дазваляе дакладна ідэнтыфікаваць самастойныя выданні і артыкулы. Недахопам бібліяграфічных апісанняў з'яўляецца транслітарацыя лацінскім шрыфтам рускіх і яўрэйскіх выданняў.

Часопіс «Ateneum wileńskie» дазваляе выкарыстоўваць выданне як крыніцу для папаўнення краязнаўчых інфармацыйных рэсурсаў бібліятэк і для вывучэння гісторыі мясцовага кнігадрукавання.

*Ильин А. Л.*
*Игнатюк Е. А.*

# Судьба библиотеки и архива молодовско-поречских Скирмунтов



Известный дворянский род Скирмунтов очень много сделал для развития экономики и культуры Полесья. Причем пионером промышленного развития Пинщины был Александр Скирмунт (1798—1870), получивший прекрасное образование. Он в 1818 году окончил физико-математический факультет Виленского университета, затем изучал химию в немецких, французских и бельгийских высших учебных заведениях. К 50-м годам XIX века на Пинщине сложилось два крупных центра культуры: сам город Пинск и Лунин — имение князей Друцких-Любецких. К пинскому культурному кружку можно отнести историка и писателя Антония Мошинского, скульптора и художника Елену Скирмунт, художника и композитора Наполеона Орду, к лунинскому — этнографа и фольклориста Ромуальда Зенькевича, поэта и ботаника Павла Гениюша и композитора Геркуланума Кремпского. В своем родовом имении Молодово Пинского уезда Александр Скирмунт также стал создавать один из очагов культуры, в первую очередь собирать библиотеку, содержавшую природоведческую, техническую, историческую и художественную литературу. Для библиотеки во дворце была отведена специальная комната. Известно, что его сын Генрик Скирмунт (1834—1918) в 1858 году выписывал популярный тогда литературно-исторический журнал «Тека виленьска», который издавал

ещё известны два уцелевших издания теологического содержания, напечатанные в Бресте Киприаном Базиликом[22].

Сегодня известные нам издания радзивилловской типографии находятся в разных государствах Средней и Восточной Европы и в одном или нескольких экземплярах хранятся во многих книгохранилищах тех стран. Все они важны не только как памятники древней книжной культуры ВКЛ. Кроме того, они объединяют те государства и те страны с ВКЛ и с Брестом. Говорить об этом в Бресте и в этой аудитории нам кажется не только красиво осмысленным, но и значительным делом.

22 Киреева, Г.В. Брестские издания XVI века в фондах Национальной библиотеки Беларуси // Здабыткі: дакументальныя помнікі на Беларусі. Мн., 1995. С. 26.

*Верас Н. Я.*

# Бібліяметрычны аналіз брэсцкага кнігадрукавання ў XVI ст.



Дзейнасць брэсцкіх друкарняў XVI ст. — адна з яркіх старонак у гісторыі кнігавыдавецкай дзейнасці Беларусі. Іх выдавецкая прадукцыя, поруч з друкамі С. Буднага, Мамонічаў, Я. Карцана, з'яўляецца неад'емнай часткай кніжнай культуры Беларусі. Брэсцкае кнігадрукаванне XVI ст. унесла значны ўклад у распаўсюджванне рэфармацыйнага руху на Беларусі. Арганізаваная ў 1553 г. лідэрам пратэстантызму Мікалаем Радзівілам Чорным друкарня была першай пратэстанцкай друкарняй на ўсходзе Цэнтральнай Еўропы. У ёй паслядоўна працавалі Бернард Ваявудка (1553—1554 гг.), Станіслаў Мурмеліус (1558—1561? гг.), Кіпрыян Базылік (1561—1570? гг.).

За гады існавання Брэсцкімі друкарнямі, па розных падліках, было надрукавана каля 40 выданняў. Змест брэсцкіх друкаў у большасці звязаны з рэфармацыйным рухам і адлюстроўвае яго накірункі. Бясспрэчна можна рабіць вывад аб тым, што асобныя выданні прадстаўлялі тыя ці іншыя плыні пратэстантызму.

У пачатку 50-х гг. XVI ст. друкарская прадукцыя выдавецтва мела лютэранскі характар, што тлумачылася прыхільнасцю самога Мікалая Радзівіла Чорнага да лютэранства. У гэты час брэсцкай друкарняй, у прыватнасці Б. Ваявудкам, у 1553—1554 гг. былі выдадзены кнігі:

*Katechismus mniejszy, Katechismus większy*, а таксама пераклад з лацінскай на польскую мову твора Крыштофа Імлера *Summariusz dziesięciorga przykazania Bożego..*, 1553 (Сума дзесяці запаветаў Божых) — твора катэхізічнага тыпу. Лютэранскі характар меў і катэхізіс Урбана Рэгіуса *Sposoby a obyczaje nyektore, ostrożnie y krom zgorssenta..*, 1554 (Некаторыя спосабы і звычаі...размовы аб значных месцах хрысціянскай навукі). Лютэранства не атрымала шырокага распаўсюджвання ў Вялікім княстве Літоўскім, а пасля прыняцця Мікалаем Радзівілам у 1557 г. кальвінізму змяніўся і характар кніжнай прадукцыі. Кальвінісцкую літаратуру друкарні Вялікага княства Літоўскага выпускалі на працягу ўсяго XVI ст., пачынаючы з выданняў 1558 г. С. Мурмеліуса[1].

Першы на ўсходнеславянскіх землях арыгінальны кальвінісцкі катэхізіс быў створаны арганізатарам віленскага збору Сымонам Закам. Яго катэхізіс пад тытулам «Рэгулы» выдадзены Ст. Мурмеліусам у 1559 г. у складзе зборніка *Akta tho iest Sprawy zboru Krzeciańskiego Wileńskiego, ktore się poczeli Roku 1557..*» (Акты ці справы віленскага хрысціянскага збору, якія пачаліся ў 1557 г.)[2].

У 1558 г. на Літве і Падляшшы стаў распаўсюджвацца анабаптызм. Антытрынітарскія ідэі прапагандавалі кнігі, якія выходзілі з Нясвіжскай тыпаграфіі, дзякуючы часовай прыхільнасці Мікалая Радзівіла Чорнага да арыян і знаходжанні ў Нясвіжы антытрынітарыяў С. Буднага і Л. Крышкоўскага. З цягам часу антытрынітарскія ідэі прапагандаваліся і Брэсцкай друкарняй[3]. Прыклад таму твор С. Буднага *O przedniejszych artykulach wiary chrystiańskiej*, 1570 (Аб асноўных артыкулах веры).

У 1563 г. у Брэсце было здзейснена выданне першай пратэстанцкай Бібліі. Гэта выданне насіла кальвінісцкі характар. Аднак, у заўвагах да Бібліі былі не толькі кальвінісцкія ідэі, але і антытрынітарскія. Брэсцкая Біблія была выдадзена на сродкі Мікалая Радзівіла Чорнага, і таму яе часам называюць Радзівілаўскай. Над перакладам Бібліі з яўрэйскай, грэчаскай і лацінскай моў працавала нямала літаратурных

1 Евженко И. Е. Книга в реформационном движении Белоруссии и Литвы второй половины XVI века // Книга в Белоруссии. Мн., 1988. С. 69.

2 Саверчанка І. В. Хрысціянскі Катэхізіс у кніжна-пісьмовай культуры ўсходніх славян эпохі Адраджэння і барока: атрыбуцыя, паэтыка, семіётыка. Мн., 1998. С. 3.

3 Евженко И. Е. Книга в реформационном движении Белоруссии и Литвы второй половины XVI века // Книга в Белоруссии. Мн., 1988. С. 70.

славутасцяў, у іх ліку Ян Ласкі, Гжэгаш Оршак, Якуб Любэльчык, Андрэй Тшэцецкі і іншыя. Новы запавет з Брэсцкай Біблii пасля неаднаразова перадрукоўваўся ў Нясвіжы (1563, 1568 гг.), Брэсце (1566 г.), Вільні (1593 г.) і нават у Нюрнбергу (1599 г.). Брэсцкая Біблія была вельмі шырока распаўсюджана ў Pacii XVI—XVII стст. Пра вялікую папулярнасць Брэсцкай Біблii ва ўсходнеславянскіх колах сведчыць і факт яе выкарыстання пры падрыхтоўцы да друку Астрожскай Біблii. Велізарнае значэнне адыграў тэкст Брэсцкай Біблii ў станаўленні і развіцці польскай літаратурнай мовы[4].

Выдаваліся ў Брэсце і тлумачэнні да біблійных тэкстаў. Так у 1566 г. былі надрукаваны дзве кнігі Томаша Фальконіуса *Sprawy y słowa Jezusa Krystusa...* (Справы і словы Ісуса Хрыста) і *Wtore księgi Lukasza swiętego...* (Дзве кнігі св. Лукі). Гэтыя працы зрабілі велізарны ўплыў на ўсю экзэгетычную традыцыю Вялікага княства Літоўскага[5].

З мэтай папулярызацыі рэфармацыйных ідэй для свайго часу вялікімі тыражамі выходзілі псалтыры і малітоўнікі. Увогуле пратэстанты надавалі вялікую ўвагу музычнаму афармленню набажэнства. Так у 1564 г. выйшлі: *Księgi Psalmow, abo Pieśni Dawidowych...* (Кнігі Псалмоў, або песні Давідавы...). А ў 1558 г. Ст. Мурмеліусам быў выдадзены *Kancjonal Brzeski* (Брэсцкі канцыянал). Музычны склад Брэсцкага канцыянала быў даволі разнастайны: гэта — аднагалосыя песні рэлігійнага і свецкага зместу, шматгалосыя харавыя творы[6].

У Брэсцкай друкарні выдаваліся і пропаведзі. Так у 1559 г. выйшла пропаведзь Белінгера *O prawdziwym prziymowanu prawdziwego ciala y krwie... Jezysa Christusa..* (Аб сапраўдным прыняцці цела і крыві Ісуса Хрыста), а таксама ў 1564 г. было надрукавана некалькі твораў Гжэгажа Бжэзіна (Grzegorz Bzrezin albo Pauli Grzegorz): *O roznicach teraznieyszych...* (Аб сучасных розніцах...), *O wyznanu wiary księdza Sarnickiego...* (Аб веравызнанні веры ксяндза Сарніцкага), *Wykład słow Pawła Sw...* (Тлумачэнне слоў Св. Паўла...).

Пры Ст. Мурмеліусе было выдадзена некалькі гісторыка-прапагандысцкіх брашур антыкаталіцкага зместу. Гэта ў першую чаргу

4 Лабынцаў Ю. Пачатае Скарынам: беларуская друкаваная літаратура эпохі Рэнесансу. Мн., 1990. С. 171.

5 Саверчанка І. Aurea mediocritas: кніжна-пісьмовая культура Беларусі: Адраджэнне і ранняе барока. Мн., 1998. С. 53.

6 Дадзіёмава В.У. Нарысы гісторыі музычнай культуры Беларусі. Мн., 2001. С. 29—30.




*Біблія. Брэст, 1563. Старонка з гравюрай «Дванаццаць кален Ізраілевых».*

*Historya o Papieżu Janie tego imienia VIII, ktory był Gilleberta biała głowa..,* 1562 ( Гісторыя пра папу Яна VIII, які аказаўся жанчынай Жыльбертай), а таксама *Krótkie wypisanie o papieżu nowobranym, któremu imię Pius IV..,* 1561 (Кароткія запіскі пра новаабранага папу Пія IV).

Ужо ў другой полове XVI ст. друкаваліся свайго роду даследаванні па пытаннях тэалогіі і беларускай Рэфармацыі. Прыклад таму твор Лаўрэнція Дыскордзія *Nauka o prawdziwej i falszywej pokucie,* 1559 (Навука аб праўдзівым і фальшывым пакаянні), дзе падкрэсліваецца роля Мікалая Радзівіла Чорнага ў распаўсюджванні іншаверніцтва ў краі, або *Akta, to jest sprawy zboru krześciańskiego wileńskiego..,* 1559 (Акты, або дзейнасць хрысціянскага віленскага збору...), дзе асветлены асноўныя дактрыны кальвінізму. Апошні твор напісаны Сымонам Закам, вядомым рэлігійным пісьменнікам і паэтам.

У Брэсце былі надрукаваны і рэлігійныя павучанні. У перакладзе з лаціны на польскую К. Базылікам была надрукавана кніга прафесара тэалогіі М. Барлецію *Historya o żywoćie y zacnych sprawach Jerzego Kastryota, ktorego pospolićie Szkanderbegiem zowa* (Гісторыя пра жыццё і слаўныя справы Юрыя Кастрыёта, звычайна званага Скандэрбегам.)[7].



Тэматыка выданняў брэсцкіх друкарняў для свайго часу дастаткова разнастайная. У іх былі надрукаваны кнігі як рэлігійнага, так і свецкага характару. У ліку апошніх юрыдычныя, гістарычныя, паэтычныя творы, павучальныя трактаты і некаторыя іншыя. Значную частку свецкіх кніг складаюць юрыдычныя творы, надрукаваныя С. Мурмеліусам на працягу 1560—1561 гг. Сярод іх можна назваць творы Барталамея Гроіцкага *Artykuły prawa magdeburskiego* (Артыкулы магдэбургскага права), *Postępek w sądziech karania na gardle* (Судовая працэдура пры пакаранні смерцю), *Porządek sądów prawa magdeburskiego* (Парадак у судах права магдэбурскага), *Ustawa płacej u sądów w prawe magdeburskim* (Палажэнне аб аплаце ў судах у магдэбурскім праве), выдадзеныя ў 1560 г., а таксама твор Яна Палчоўскага *Ustawy Prawa Polskiego,* 1561 г.

У брэсцкіх друкарнях упершыню на тэрыторыі Беларусі былі выдадзены публіцыстычныя творы *Dwa Listy,* 1559 г. і *Rosmowa Polaka z Litwinem,* 1565 г. *Dwa Listy,* надрукаваныя С. Мурмелісам, якія з'яўляюцца выдатным помнікам рэлігійнай палемікі XVI ст. Першы ліст Алаіза

---

7 Евженко И. Е. Книга в реформационном движении Белоруссии и Литвы второй половины XVI века // Книга в Белоруссии. Мн., 1988. С. 74



618.

Hiſtorya Żáłoſna / á ku czytániu oſobliwa / o ſrogiem oblężeniu / od Máhumetá Ceſárzá Tureckiego / y potężliwym dobywániu miáſtá Szkodry / ná troie Kśięgi rozdźielona.

Spiſána przez Máryná Bárlecyuſá Szkodrzeńczyká / á teraz nowo ná Polſki iezyk przełożona / Przez Cypryaná Bázyliká.

Do łáskáwego Czytelniká Cypryan Bázylik.

Dokończenie ſámo kśiąg tych przeſzłych / łáſkáwy Czythelniku / iedna ze trzech przyczyna ieſt przyłaczenia / tych Kſiąg o dobywániu Szkodry / ku thym przeſzłym. Abowiem / gdym y ſam zámknienie hiſtoryiey Szkánderbegowey / czytał / á vyrzalem / iże ten Piſarz / ktory te Hiſtorya piſał / czyni wzmiánkę o nich / iáko o tych / ktore iuż był przed tym dobrze wydał / ia / łáſkáwy Czytelniku / niechcąc ábyć ná moiey pracy ábo pilnośći co miáło ſchodźić / ieſliżem wietſza y trudnieyſza praca dla ćiebie podiał / przekłádáiac Hiſtorya o Szkánderbegu / z chućia y tę podiałem / á thá ieſt pierwſza przyczyná przełożenia Kſiąg tych. Druga przyczyná ieſt / ſámá they Hiſtoryiey zacnosć / bo nie tylko w tych

kſiążkach

*Барлетыус М. Гісторыя аб жыцці і зацных справах Юрыя Кастрыёта… Брэст, 1567.*

Ліпамана біскупа Веронскага да Мікалая Радзівіла, а другі—пасланне папскаму нунцыю ў Польшчы Алаізу Ліпаману ад імя Радзівіла Чорнага. Гэтая перапіска на лацінскай і нямецкай мовах выйшла ў 1556 г. у Кёнігсбергу, а ў 1559 г. у перакладзе Мікалая Рэя на польскую мову ў Брэсце[8].

У Брэсце было здзейснена выданне аднаго з першых свецкіх друкаваных твораў *Rosmowa Polaka z Litwinem*, напісанага вядомым літоўскім пісьменнікам-гуманістам сакратаром вялікага князя Жыгімонта Аўгуста Аўгусцінам Ратундусам Мелескім у адказ на сачыненне польскага публіцыста С. Ажахоўскага. Брашура носіць чыста публіцыстычны характар, яна скіравана супраць палітычных тэорый Ажахоўскага. Ён прапаноўваў сваю мадэль канчатковай уніі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, якая не выклікала захаплення ў прадстаўнікоў ВКЛ[9].

Сярод брэсцкіх кніг XVI ст. нельга не адзначыць паэтычныя творы. З тых паэтычных твораў, што захаваліся да нашага часу, найбольш цікавыя вершаваныя тэксты з выдадзенага ў 1558 г. кальвінскага канцыянала Яна Зарэмбы — верш Андрэя Валяна *Да Палякаў і да Літвы*, з трактата Аўгуста Ратундуса *Rosmowa Polaka z Litwinem*, 1565 г., ананімная паэма *Proteus albo Odmieniec*, 1564 г. (Пратэй, або Пярэварацень), вершы і паэма *Krótkie wypisanie sprawy przy śmierci i pogrzebie...Helżbiety z Szydłowca Radziwiłłowej, wojewodziny wileńskiej*, 1562 (Кароткае апісанне акалічнасцей смерці і пахавання Альжбеты Радзівілавай з Шыдлаўца, жонкі віленскага ваяводы)[10]. Акрамя таго, у Бярэсці былі надрукаваныя і іншыя паэтычныя творы, у прыватнасці драматычны твор *Postępek Prawa Czartowskiego..*, 1570 г. (Працэс чарцей супраць чалавечага роду) у перапрацоўцы Кіпрыяна Базыліка.

Значнае месца сярод літаратурных твораў, выдадзеных у Брэсце, займаюць розныя хвалебныя прамовы — панегірыкі. Панегірыкі — невялікія (да 1 ліста) брашуры, выдадзеныя ў сувязі з важнейшымі сямейнымі абставінамі (нараджэнне дзіцяці, шлюб, смерць) членамі

8 Іванова Л. З гісторыі рэфармацыйнага кнігадрукавання ў Беларусі (другая палова XVI — першая палова XVII ст.) // 480 год Беларускага кнігадрукавання: матэрыялы трэціх Скарынаўскіх чытанняў. Мн., 1998. С. 188.

9 Лабынцаў Ю. Пачатае Скарынам: беларуская друкаваная літаратура эпохі Рэнесансу. Мн., 1990. С. 169—170.

10 Кавалёў С.В. Станаўленне польскамоўнай паэзіі ў полілінгвістычнай літаратуры Беларусі эпохі Рэнесансу. Мн., 2002. С. 15.

багатых магнацкіх родаў для раздачы сваякам і гасцям і надрукаваныя малымі тыражамі (да 100 экзэмпляраў)[11]. У 1562 г. К. Базылікам быў напісаны і выдадзены вышэйадзначаны панегірык у гонар Альжбеты Радзівілавай, жонкі Мікалая Радзівіла Чорнага, дзе яна намалявана рэўнаснай кальвіністкай *Krótkie wypisanie sprawy przy śmierci i pogrzebie... Alżbiety...* (Кароткае апісанне падзей пры смерці і пахаванні Альжбеты Радзівілавай). Значна пазней К. Базылік выдаў і іншыя творы гэтага характару, у прыватнасці, *Pamiątka wszystkiemu cnotami hojnie obdarzonemu Janowi Baptyście hrabi na Tęnczynie* (Напамінак ... шчодра адданаму Яну ... графу на Тэнчыне (1563 або 1570), твор, які належыць пяру класіка польскай сярэдневяковай паэзіі Яну Кахаnoўскаму, які крытыкаваў шляхту і каталіцкае духавенства; *Napis na grobie zacnego szlachcica Pawła Secygniowskiego,* 1570 г. (Надпіс на магіле знатнага шляхціца Паўла Сецыгнеўскага). Вершы на герб Радзівіла змешчаны і ў Брэсцкай Біблії.

Падводзячы вынікі, трэба адзначыць, што вельмі цяжка правесці мяжу паміж творамі рэлігійнага і свецкага характару. Вельмі часта ў творах рэлігійнага зместу змешчаны вершы, філасофскія трактаты і г.д. Таму дзяленне літаратуры на свецкую і рэлігійную — умоўнае.

Значную частку выданняў складаюць творы рэлігійнага зместу, астатнія — творы свецкага характару. Перавага твораў рэлігійнай тэматыкі над свецкай не выпадковая, таму што кнігадрукаванне ў Брэсце садзейнічала ўсё ж такі распаўсюджванню рэфармацыйных ідэй. Што моўнай прыкметы то, у асноўным гэта кнігі, брашуры на польскай мове. Некаторая частка выданняў — гэта пераклады з лацінскай на польскую мову.

З брэсцкіх выданняў XVI ст. у фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі захоўваюцца канвалют, які ўключае 2 кнігі: Sprawy y słowa Jezusa Krystusa Syna Bozego i Wtore księgi Lukasza swiętego, надрукаваны К. Базылікам у 1566 г. і ў асобным пераплёце другі экзэмпляр кнігі Святога Лукі[12]. Іншыя брэсцкія выданні прадстаўлены мікрафільмамі: Katechismus mniyszy; Katechismus wyętszy; Dwa Listy na Polski ięzyk wlasnie wylożone; Akta tho iest Sprawy zbory Krzeciańskiego Wileńskiego; Proteus albo Odmieniec; Historya o żywoćie y zacnych sprawach Jerzego Kastryota.

11 Николаев Н.В. Книжная культура Великого Княжества Литовского : автореферат диссертации на соискание ученой степени доктора филологических наук. СПб., 1997. 39 с.
12 Киреева Г.В. Брестские издания XVI века в фондах Национальной библиотеки Беларуси // Здабыткі: дакументальныя помнікі на Беларусі. Мн., 1995. С. 24—29.

*Гладышчук А. А.*

# Да вызначэння магчымага месца знаходжання першай беларускай друкарні на тэрыторыі сучаснага мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой»



455 гадоў таму назад з мэтай распаўсюджання рэфармацыйных ідэй слынны магнат ВКЛ, блізкі дарадца польскага караля Жыгімонта Аўгуста, канцлер ВКЛ, берасцейскі староста Мікалай Крыштаф Радзівіл (1515—1565), больш вядомы за сваю бараду па мянушцы «Чорны», заснаваў у Берасці першую на тэрыторыі сучаснай Беларусі друкарню[1]. Гэта адбылося ў 1553 годзе, калі Мікалай Радзівіл Чорны публічна абвясціў аб сваёй прыхільнасці да кальвінізму і запрасіў з Кракава матэматыка, друкара і перакладчыка Бярнарда Ваявудку для заснавання друкарні ў Берасці. Заўважым, што дасведчаны князь М. Радзівіл Чорны быў добра на той час пасвечаны ў ідэі рэфарматарства і яго сувязі з еўрапейскімі кнігавыдаўцамі ўсталяваліся задоўга да заснавання ім першай друкарні ў Беларусі[2]. Таму не дзіўна, што неўзабаве ў Берасці з'явілася на свет першая друкаваная кніга, якой мог быць «Малы катэхізіс», што прызначаўся

---

1 Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII w. Z.5: Wielke Księstwo Litewskie. Oprac. A. Kawecka-Gryczowa, K. Korotajowa, W. Korotaj. Wrocław, 1959. S. 65 ; *Іванова Л.С.* З гісторыі рэфармацыйнага кнігадрукавання ў Беларусі (другая палова XVI — першая палова XVII стст.) // Інтэрнэт-версія: htth://www.belreform.org/ivanova.php ; Энцыклапедыя ВКЛ. Мн., 2005. Т. 1. С. 323.

2 Галенчанка Г. Беларуская культурная традыцыя. Лекцыя 15 // Інтэрнэт-версія: http://www.baj.by/belkalehium/belkulttrad/15halenczanka.htm

для паспалітага люду. На жаль, няшчасны выпадак прыпыніў дзейнасць берасцейскай друкарні (улетку 1554 года Б. Ваявудка загінуў у адной з берасцейскіх рэк), а яе абсталяванне магло быць прададзена ў Кракаў, аб чым паведамляюць некаторыя крыніцы. Застаецца ўсё-такі пытанне: чаму ж гэта Мікалай Радзівіл, так зацікаўлены ў працы сваёй друкарні для прапаганды рэфармацыйных ідэй, не знайшоў сродкаў, каб абсталяванне яе засталося ў Берасці? А можа гэта быў нейкі тактычны ход князя, каб не прыцягваць увагі да месца з'яўлення яго рэфармацыйных друкаў?

Але друкарскі двор хутчэй за ўсё заставаўся ў Берасці і пасля нечаканай смерці Б. Ваявудкі. «Опісанне староства Берасцейскага» Дзмітрыя Сапегі за 1566 год сведчыць[3], што за друкарняй значылася сядзіба на рыначнай плошчы Берасця ў $2^2/_3$ прута, што адпавядала прыкладна памерам у 63 м$^2$. Праўда, здзіўляе тое, што толькі праз чатыры гады пасля смерці Б. Ваявудкі ў Берасці з'явіўся новы друкар — Станіслаў Мурмеліус, які таксама паходзіў з Польшчы. Першай кнігай, выдадзенай ім, быў зборнік рэлігійных песень С. Зарэмбы «Песні хвал Боскіх». Але з С. Мурмеліусам неўзабаве таксама здарылася бяда: знаходзячыся ў Кракаве, ён за даўгі трапіў там у вязніцу.

У 1566—1570 гг. працу берасцейскай друкарні працягваў Кіпрыян Базылік (Cyprian Bazylik, кал. 1535—пасля 1591) — беларускі і польскі дзеяч культуры, паэт, перакладчык, кампазітар, кнігавыдавец, які паходзіў з мяшчанскай сям'і. Пасля заўчаснай смерці Мікалая Радзівіла ў 1565 г. ён працягвае займацца выдавецкай дзейнасцю. Менавіта пры ім берасцейская друкарня дасягнула найбольшага росквіту. Вядома таксама імя берасцейца Якуба-друкара, які жыў на Жыдоўскай вуліцы і хутчэй за ўсё выконваў у друкарні рамесніцкую працу. У 1570 годзе берасцейская друкарня спыніла сваю дзейнасць, прынамсі, яе выданні пасля гэтага часу невядомыя. Бібліёграфы натуюць каля 40 назваў, якія пабачылі свет у Берасці, хаця на самай справе іх напэўна было больш. Самае выдатнае месца сярод іх займае Берасцейская, альбо Радзівілаўская, Біблія, выдадзеная ў 1563 годзе[4].

3 Описание староства Берестейскаго // Документы Московского архива Министерства Юстиции / под ред. М. Довнара-Запольского. М., 1897. Т. 1. С. 205.

4 Нікалаеў М.В. Шэдэўр Брэсцкай друкарні // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: новыя даследаванні / Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Мн., 1989. С. 144—149.

Узнікае лагічнае пытанне: у якім жа месцы сярэдневяковага Берасця магла знаходзіцца першая беларуская друкарня? Для гэтай мэты прывядзем урывак тэксту з ужо ўпамянутага і добра вядомага даследчыкам гістарычнага дакумента за 1566 год «***Описаніе староства Берестейскаго***»[5] з захаваннем яго правапісу: «***...Место в паркане. Рынок. Первая полать ринку. Садибы, пруты. Станислав Пекарский: $2^2/_3$; Яско Олфирович, где Миколай зять живет: $2^2/_3$; Друкарня: $2^2/_3$ волных; Серафен Новоселский: $2^3/_4$; Андрей золотарь: $2^1/_3$...***» Сустракаюцца, заўважым, у гэтым фрагменце словы, змест якіх сёння патрабуе тлумачэння: паркан — гэта тая частка горада, якая была абнесена земляным валам альбо плотам, сюды адносіўся замак і цэнтральная частка горада, сёння гэта Цэнтральны востраў, на якім размяшчаецца Цытадэль крэпасці. Адзінка меры прут у той час выконваў дзве ролі: як мера даўжыні ён раўняўся 4,87 м і дзяліўся на 10 прэнцікаў, як зямельная мера плошчы складаў сабой прамавугольнік з бакамі 1 шнур (10 прутоў) на 1 прэнцік, што адпавядае прыкладна 23,72 $м^2$. Самая складаная справа аказалася з тэрмінам «полать», які не мае адназначнага тлумачэння, але дзякуючы падказцы берасцейскага журналіста Юрася Рубашэўскага і практычнай дапамозе вопытнай супрацоўніцы абласной бібліятэкі Марыны Пуцілінай і гэтая праблема была вырашана. Крыніцы [5-6] дазволілі зрабіць меркаванне, што слова «полать» у дадзеным кантэксце выкарыстана як *старана, бок*[5]. Можна сказаць больш: гэта была першая спроба нумерацыі вуліц старадаўняга Берасця. Першая «полать» — правая (няцотная) старана вуліцы, другая «полать» — левая (цотная) старана, праўда, замест лічбаў былі выкарыстаны персанальныя імёны і прозвішчы ці мянушкі гаспадароў сядзіб, якія ў той час замянялі ім прозвішчы. Вядома, што нумерацыю вуліц, якая з'явілася шмат часу пазней, было часцей за ўсё прынята пачынаць ад рынмачнай плошчы горада альбо ад ракі.

Рыначная плошча Берасця — гэта адна з самых старадаўніх, калі не самая старадаўняя плошча нашага 1000-гадовага горада. Калі супыніцца на ёй і, заплюшчыўшы на момант вочы, задумацца, колькі тут падзей за стагоддзі адбылося, колькі людзей на ёй пабывала... галава кругам пойдзе.

5 Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Мн. : Беларуская навука, 2006. Т. 26. С. 112 ; Фасмер М. Этимологический словарь русского языка. М. : Прогресс, 1987. Т. 3. С. 316 ; Даль В.И. Толковый словарь живого великорусского языка. М. : Русский язык, 1998. Т. 3. С. 249.




*Фрагмент плана Брэста Г. Фюрстэнгофа. 1740 г.*

Плошча свае функцыі выконвала да будаўніцтва крэпасці, але і потым яе большая частка не была забудавана, а заставалася вайсковым плацам і скверам. Сёння незабудаваная частка плошчы — гэта газон. Вызначыць сімвалічны цэнтр Рыначнай плошчы, адной з самых старадаўніх плошчаў Берасця, не складае ніякай праблемы. А вось узведзенная невялікая класічная калона ў гэтым пункце плошчы з указальнікамі старадаўніх берасцейскіх гасцінцаў магла б адыграць вялікую станоўчую ролю ў шанаванні гістарычнай памяці нашага старажытнага горада. Давайце зробім!

Але вернемся да мэты. Рыначная плошча Берасця мела прыкладны выгляд няправільнага чатырохкутніка, арыентаванага доўгай стараной наўсцяж ракі Мухавец пры яе злучэнні з Бугам. На працягу стагоддзяў яна практычна не мяняла сваіх памераў, што пацвярджаюць зведзеныя да аднаго маштабу планы Берасця 1657, 1740 і 1823 гг. Калі стаць у цэнтры былой плошчы тварам да сёняшняга Свята-Мікалаеўскага сабора, а



*Фотоздымак з космаса Google Цэнтральнага вострава Брэсцкай крэпасці, дзе размяшчаўся да яе будаўніцтва старажытны Брэст, з адзнакай магчымага месца знаходжання першай беларускай друкарні.*

спінай да кругавой казармы і ракі Мухавец, то першая «полать» рынка будзе па правую руку бліжэй да Холмскіх варотаў (удакладненні, што «первая полать поправе» сустракаюцца пры апісанні іншых вуліц у «Апісанні староства Берасцейскага»), другая «полать»— злева, у бок Цярэспальскіх варот, прама — трэцяя «полать» рынку, а там, дзе сёння казарма, — чацвёртая. Такую арыентацыю Рыначнай плошчы пацвярджае таксама тое, што ратуша, верагодна, знаходзілася на другой «полати» рынка, а шпіхлер (склад) солі — на чацвёртай, што пераблытаць месцамі ніяк нельга[6]. Не пярэчыць гэтаму і даўжыня першай «полати», якая была самай кароткай з усіх чатырох старон рынку, таму што ў гэтым месцы на Рыначную плошчу выходзіў Валынскі гасцінец, які злучаўся далей праз Кавальскую і іншыя вуліцы з Віленскім гасцінцам.

6 Описание староства Берестейскаго // Документы Московского архива Министерства Юстиции / под ред. М. Довнара-Запольского. М., 1897. Т. 1. С. 205-206.

З гэтага можна зрабіць меркаванне, што прыкладна пасярэдзіне ўсходняй стараны былой Рыначнай плошчы старадаўняга Берасця і мясцілася першая беларуская друкарня. Вызначыць само месца з зададзенай дакладнасцю магчыма з дапамагой сучасных тэхналогій. Параўнанне і аналіз зведзеных да аднаго маштабу планаў Берасця 1657 г. Э. Дальберга, 1740 г. Г. Фюрстэнгофа (Брэсцкя абласная бібліятэка) і плана 1823 г. (hppt://www.ibrest.ru), на якіх Рыначная плошча добра чытаецца, з сучасным касмічным здымкам Google Цэнтральнага вострава крэпасці даюць вынік, што гэтым месцам можа быць купка дрэваў на газоне паміж Холмскімі варотамі крэпасці і руінамі езуіцкага калегіума. Заўважым, што наўсцяж езуіцкага калегіума, пабудаванага пасля 1566 г., ішла тая ж вуліца Кавальская, якая стала звацца пазней Валынскай, таму захаваныя руіны былога езуіцкага калегіума таксама даюць добрую прывязку на мясцовасці магчымага знаходжання першай «полати» былой Рыначнай плошчы.

Праведзеныя дадаткова разлікі і маштабнае макетаванне Рыначнай плошчы па апісанні 1566 г. могуць удакладніць месцазнаходжанне Берасцейскай друкарні, таму што хутчэй за ўсё ні георадар, ні археалагічнае шурфаванне тут асабліва нічым не дапамогуць. Прапанаванае даследаванне толькі абазначае магчымае месца знаходжання першай беларускай друкарні ў старажытным Берасці. Але якое здзіўленне маглі б атрымаць берасцейцы і госці горада, калі б праз нейкі час маглі прачытаць на ўсталяванай тут памятнай дошцы тут імёны ўсіх тых, хто меў прамое дачыненне да заснавання друкарскай справы ў Берасці і пералік тых першадрукаў, якія тут пабачылі свет. Трэба памятаць, што Мікалай Радзівіл Чорны быў вялікім патрыётам сваёй радзімы і самастойнасці дзяржавы, што вельмі актуальна і сёння.

*Іванова Л. С.*

# Роля Берасцейскай друкарні ў распаўсюджванні Рэфармацыі ў Вялікім княстве Літоўскім



Для распаўсюджвання рэфармацыйных ідэй у 1553 г. у Бярэсці пры падтрымцы віленскага ваяводы, буйнейшага магната ВКЛ Мікалая Радзівіла Чорнага пачала дзейнічаць першая на Беларусі (а таксама першая рэфармацыйная ў ВКЛ) друкарня. У Бярэсці працавалі запрошаныя Радзівілам з Польшчы друкары і выдаўцы: гуманіст, звязаны з эразміянскім колам у Кракаве, Бернард Ваявудка (1553—1554), Станіслаў Мурмеліус (1558—1561?) і таленавіты перакладчык, паэт, музыкант-кампазітар Кіпрыян (Цыпрыян) Базылік (1562? —1570)[1].

З дакументаў 1566 г. вядома, што друкарня размяшчалася на Рыначнай плошчы, а на Жыдоўскай вуліцы жыў «Якуб друкар»[2], які, мабыць, ажыццяўляў рамесніцкія функцыі. Дзейнасць берасцейскага друкарскага двара супала з часам канфесійнага і арганізацыйнага станаўлення рэфармацыі ў ВКЛ. Гэта быў час ажыўленай перапіскі і асабістых кантактаў з карыфеямі еўрапейскай рэфармацыі, палемікі на сеймах і сінодах, абмеркавання ідэі Народнага сабору. Вядома каля 40 тытулаў (назваў) кніг, якія былі надрукаваны ў Бярэсці, практычна усе — на

1 Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII w. Z.5: Wielkie Księstwo Litewskie. Oprac. A. Kawecka-Gryczowa, K. Korotajowa, W. Korotaj. Wrocław, 1959

2 Документы Московского архива Министерства юстиции. М., 1897. Т.1. С. 205, 208.

польскай мове[3]. Тлумачыцца гэта перш за ўсё тым, што Рэфармацыю ў ВКЛ падтрымала пераважна магнатэрыя, шляхта — тая частка грамадства, якой уласціва пэўная інтэграцыя ў польскую культуру, а таксама частковай арыентацыяй друкарскага двара на кніжны рынак Польшчы.

Захаваліся звесткі аб трох выданнях друкарні Ваявудкі, апісаных у пачатку стагоддзя польскім даследчыкам Ф. Пуласкім — Вялікім і Малым Катэхізісах і перакладах тэалагічных твораў Урбана Рэгіуса і Крыштафа Імлера. Можна меркаваць, што іх было больш. У падрыхтоўцы выданняў прымаў удзел Андрэй Тшыцескі-малодшы, якога Радзівіл запрасіў разам з Ваявудкам для перакладу і выдання рэфармацыйнай літаратуры. На жаль, летам 1554 г. Ваявудка ўтапіўся ў адной з берасцейскіх рэк. Усе тры выданні захоўваліся ў бібліятэцы Красінскіх і загінулі у час Другой сусветнай вайны. Цікава, што адзіны экзэмпляр «Катэхізіса» быў куплены бібліятэкай у 1907 г. у Івана Луцкевіча, а раней належаў вядомаму прыватнаму кнігазбору мінскага жыхара Генрыха Татура.

Пасля трагічнага здарэння з Ваявудкам, Радзівіл меў намер запрасіць вядомага кракаўскага і прускага друкара Яна Сандэцкага-Малецкага, але няма звестак пра яго дзейнасць у Бярэсці. Друкарня аднавіла сваю працу ў 1558 г. пры Станіславе Мурмеліусе. Тут друкаваліся не толькі рэлігійныя, але і свецкія творы: збор юрыдычна-прававых сачыненняў Б. Граіцкага (1560 г.), два выданні «Закону польскага права» разам са «Статутамі варшаўскага сейму 1557 г.» (1559/1560 і 1561) у апрацаванні Яна Пальчоўскага, прызначаныя «для кожнага простага чалавека»; вершаваны панегірык К. Базыліка на смерць жонкі Радзівіла Чорнага — Эльжбеты з Шыдлавецкіх (1562 г.); антыкаталіцкія творы «Гісторыя пра папу Іаана VIII, які быў жанчынай» (1560 г.) і «Пратэй, або Пярэварацень» (1564 г.); палітычны твор «Размова паляка з літвінам» віленскага войта А. Ротундуса (каля 1564 г.) і інш.

З друкарні выйшаў першы друкаваны нотны зборнік на Беларусі — «Берасцейскі канцыянал» (альбо «Песні хвал Боскіх», 1558 г.) Яна Зарэмбы. Музыку для яго напісалі Кіпрыян Базылік і Вацлаў з Шаматул. Аўтарамі тэкстаў былі Сымон Зацыус, Андрэй Тшыцескі, Станіслаў Семідаліус. У прадмове да «Канцыяналу» адзначалася, што песні прыз-

3 Topolska M.B. Czytelnik i książka w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Renesansu i Baroku. Wrocław, 1984. S. 90.
Katechizm Brzeski 1553/1554. Wyd. F. Pułaski. Warszawa, 1908.

начаюцца для тэнара і аматараў «фігурных» спеваў. Як адзначыў Ст. Кот, выданне Я. Зарэмбы было першым сапраўдным кальвіністкім канцыяналам належнага ўзроўню, годным рэфармацыйнага руху[4].

У Бярэсці ўбачылі свет палемічныя творы польскіх арыянаў Паўла з Бжэзін і Яна Казаноўскага. Дарэчы, твор апошняга «Водпаведзь на павучэнне Яна Кальвіна польскім братам» (1564 г.) змяшчаў даволі рэзкія выпады супраць Кальвіна. Творы суперінтэнданта віленскага збору Сымона Зацыуса (усе 1559 г.) змяшчаюць каштоўныя звесткі пра першапачатковы этап арганізацыі віленскага збору і школы, пра асноўныя дагматы веравызнання кальвіністаў ВКЛ, іх канчатковае адмежаванне ад арыянаў і лютэран[5].

У 1559 г. у Бярэсці быў надрукаваны публіцыстычны твор «Два лісты» — пасланне папскаму нунцыю Ліпаману ад імя Радзівіла Чорнага. Алаізій Ліпаман, веронскі біскуп, быў накіраваны ў Польшчу і ВКЛ для актывізацыі дзейнасці вярхоўнай улады па выкараненні рэфармацыйнай «ерасі». У час свайго побыту ў Вільні нунцый сустрэўся з Радзівілам Чорным. Ліпаман, які слаба арыентаваўся ў палітычнай і рэлігійнай сітуацыі ў ВКЛ, накіраваў Радзівілу ліст з папрокамі ў адступніцтве ад каталіцтва і пастарскімі павучэннямі. Ад імя Радзівіла Ліпаману была паслана водпаведзь, якая між іншым змяшчала вострую крытыку інстытута папства і каталіцтва ўвогуле. Наўрад ці Радзівіл быў фактычным аўтарам гэтага ліста, насычанага філасофска-тэалагічнымі сентэнцыямі. Несумненна адно — рэзкая водпаведзь папскаму нунцыю была адпраўлена з санкцыі Радзівіла. У адным з лістоў нунцый скардзіўся, што пасля паслання Радзівіла, у якім зневажаўся і Св. Айцец і ўвесь духоўны стан так, «што і сам д'ябал з пекла горшага б атрымаць не змог», ён страціў надзею зрабіць нешта добрае ў гэтым каралеўстве, бо віленскі ваявода для караля з'яўляецца ўсім: «і дарадчыкам, і канцлерам, і маршалкам, і даверанным прыяцелем, з якім кароль есць, танцуе і забаўляецца» і наогул, на думку Ліпамана, водпаведзь была напісана з дазволу караля [6].

4 Bazylik C. Pieśni. Opr. Z.M. Szweykowski / Wydawnictwo dawnej muzyki Polskiej. Kraków, 1958; *Kot St.* Kancjonał Brzeski Jana Zaręby z 1558 r. // Reformacja w Polsce. R. IX—X. № 33—40. 1937/39. S. 449.

5 Akta, tho iest sprawy krześciańskiego Wileńskiego, ktore się poczeli R.P. 1557 Miesięca Decembra Dnia 14. // Monumenta Reformationis Polonicae et Lithuanicae. Seria X. Zesz. 1. Wilno, 1913; Wyznanie wiary zboru wileńskiego...; O posciech i j ich własnościach i sposobach...

6 Relacye nuncyuszów apostolskich i innych osób o Polsce. Berlin ; Poznań, 1864. T. 1. S. 39.

Нунцый асуджаў Радзівіла за агульныя для еўрапейскай рэфармацыі ідэі: непрызнанне вяршэнства рымскага касцёла над усімі іншымі, папы рымскага за намесніка Хрыстова, чысцілішча для душ нябожчыкаў, цэлібату духавенства, а таксама за ўхваленне прычасця пад дзвюма постацямі і выкарыстанне народных моў замест латыні ў царкоўных службах. У адказах Радзівіла асвятляюцца адносіны пратэстантаў да важных пытанняў царкоўна-рэлігійнай дагматыкі, царкоўнай і багаслоўскай традыцыі, да дзяржаўнай і духоўнай улады.

Публіцыстычны запал перапіскі, яе грамадская актуальнасць прывялі пратэстантаў да думкі пра яе выданне. Яна была выдадзена ў 1556 г. у крулявецкай друкарні Даўбмана на лацінскай мове. У 1559 г. у Бярэсці, за кошт Радзівіла Чорнага, выйшаў скарочаны варыянт выдання «Двух лістоў» у перакладзе на польскую мову выдатнага паэта Мікалая Рэя. Берасцейскае выданне «Двух лістоў» вельмі рэдкае. Адзіны поўны экзэмпляр, які належаў бібліятэцы Віленскага евангеліцкага сіноду, выкарыстаў для публікацыі польскі даследчык Ігнацій Хжаноўскі (Храноўскі).[7]

Некаторыя берасцейскія выданні пачатку 60-х гадоў выйшлі без імя друкара ці назвы друкарні і ідэнтыфікаваны даследчыкамі пры дапамозе аналізу яе папярэдняй прадукцыі.

Выдатнае месца ў гісторыі кнігадрукавання ВКЛ і Польшчы належыць выданню Берасцейскай (ці Радзівілаўскай) Бібліі 1563 г., якая выйшла «ўласным коштам і накладам» Радзівіла Чорнага. У другой палове 50-х гадоў XVI ст., у перыяд арганізацыйнага і дактрынальнага афармлення кальвінісцкай царквы, наспела неабходнасць ажыццяўлення ўласнай рэдакцыі Бібліі. Асноўным цэнтрам падрыхтоўкі выдання стаў збор у Піньчове (Малая Польшча). Над перакладам, рэдакцыяй і складаннем каментарыяў да Бібліі працавала вялікая група польскіх, італьянскіх, французскіх тэолагаў, царкоўных дзеячаў, педагогаў, літаратараў. Асноўную частку працы выканалі рэктары пінчаўскай школы Гжэгаж Аршак і Пётр Статорыус, польскі паэт Якуб Любельчык і Ян Тэнаудус з Арлеану. У розны час над ёй працавалі таксама Ян Ласкі, Францыск Станкар, Францыск Лісманін, Бернард Ахіно, Георгій Бляндрата, Ян Павел Альцыатус, Сымон Зацыус, Андрэй Тшыцескі, Марцін

7 Chrzanowski I. Dwa listy łacińskie, Aloizego Lipomana i Mikołaja Radziwiłła, w przekładze polskim Mikołaja Reja // Z wieku Mikołaja Reja. Warszawa, 1905.

Кравіцкі, Гжэгаж Павел з Бжэзін, Ежы Шоман і інш[8]. Пры падрыхтоўцы Бібліі выкарыстоўваліся не толькі старажытныя яўрэйскія, грэчаскія і лацінскія кнігі, але і іншыя крыніцы. Сярод іх — папулярны ў Еўропе французскі пераклад Бібліі Лефеўра д»Этапля (Антвэрпэн, 1530 г.) і Новы Запавет Эразма Ратэрдамскага.

У 1560 г. Чорны ўзяў пад сваю апеку выданне Бібліі. У 1563 г. Біблія выйшла ў Бярэсці без імя друкара (магчыма, Мурмеліус ці Базылік). Выданне вызначалася манументальнасцю (фармат — in folio, 738 ст.), багаццем мастацкага афармлення (гравюры, застаўкі, ініцыялы, гатычны друк), яскравым рэнесансным абліччам. Магчыма, тытульны ліст з'яўляецца копіяй гравюры Альтдорфера[9]. Пераклад Бібліі вылучаецца сваімі літаратурнымі вартасцямі, яснасцю і вобразнасцю стылю.

У прысвячэнні Жыгімонту Аўгусту Радзівіл Чорны адзначаў, што выданнем гэтай кнігі спадзяецца заслужыць падзяку «народа языка славянскага». Берасцейская Біблія была вядома і ў Заходняй Еўропе — нямецкі выдавец Эліяс Гуттэр выкарыстаў польскі тэкст Новага Запавету з яе для свайго выдання-паліглота на 12 мовах (Нюрнберг, 1599 г.)[10].



Рымская царква ўключыла Берасцейскую Біблію ў індэкс забароненых кніг. Нягледзячы на гэта, Віленскі Сінод 1617 г. пастанавіў, каб яна была пры кожным зборы ВКЛ[11]. Берасцейская Біблія была распаўсюджана і шанавана сярод кальвіністаў ВКЛ, пра гэта сведчаць пратаколы евангелічных сінодаў, інвентары збораў[12]. Берасцейскі земскі суддзя кальвініст Пётр Кахлеўскі ў 1646 г. кожнай са сваіх трох дачок падараваў па экзэмпляры Берасцейскай Бібліі[13].

Найбольшага росквіту берасцейская друкарня дасягнула пры Кіпрыяну Базыліку. У сяр. 50-х гг. Базылік прыняў кальвінізм і надоўга асталяваўся ў ВКЛ. Верагодна, ён прымаў удзел у стварэнні Берасцейскай Бібліі 1563 г. Неўзабаве пасля смерці Радзівіла ў 1565 г., Базылік стаў кіраўнікам, а магчыма, і ўладальнікам друкарні. У 1567 г. ён завяршыў

8 Kossowska M. Biblia w języku polskim. Poznań. 1968. T. 1. S. 226.

9 Encykłopedia wiedzy o książce. Wrocław, etc., 1971. S. 141.

10 Круминг А.А. Элиас Гуттер и Острожская Библия // Федоровские чтения 1981. М., 1985. С. 156.

11 Akta synodów prowincjalnych Jednoty Litewskiej 1611—1625. Wilno. 1915. S. 41.

12 Tworek S. Z dziejów Biblii kalwinów litewskich w XVII wieku// Odrodzenie i Reformacja w Polsce. T. 18., 1973. S. 169—170.

13 Śliż N. Ksiżka w rodzinie szlacheckiej Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI wieku // Księga—nauka—wiara w średniowiecznej Europie. Poznań, 2004. S. 86.

пераклад і надрукаваў кампілятыўнае сачыненне «Гісторыя жорсткіх ганенняў царквы Божай...»[14], у якім з гуманістычных пазіцый асуджалася рэлігійная нецярпімасць у некаторых заходнееўрапейскіх краінах. У гэтай аб'ёмнай працы прыведзены мартыралог пратэстанцкіх пакутнікаў, пачынаючы ад Віклефа і Гуса. У прадмове Базылік называе аўтараў, творы якіх ён выкарыстаў пры падрыхтоўцы гэтай кнігі — гэта англічанін Джон Фокс, Генрык Панталеён і Ян Крэспін. Тытул кніжкі абрамляюць гравюры, на якіх паказаны пакутніцкая смерць пратэстантаў. На адной з іх — выява Яна Гуса ў час пакарання смерцю.

У 1569 г. у Бярэсці выйшаў твор Мартына Барлетыўса «Гісторыя пра жыццё і слаўныя справы Георгія Кастрыёта, звычайна званага Скандэбергам» у перакладзе Базыліка (часткова і Андрэя Волана). У прадмове Базылік змясціў звесткі пра героя вызваленчай барацьбы балканскіх народаў супраць туркаў, сына албанскага князя Георгія Кастрыёта (1404—1467), запазычаныя ім з твораў розных гісторыкаў XV—XVI стст., чым значна папоўніў яго біяграфію. У прысвячэнні свайму новаму патрону, серадзкаму ваяводу Альбрэхту Ласкаму, «коштам» якога выйшла кніга, Базылік называе свабоду «ад Бога дадзеным клейнотам» і адзначае, што пераклаў гэты твор для шляхты «рыцарскага стану», каб яна брала прыклад са Скандэберга. Там жа ён апявае шляхецкія вольнасці ў Рэчы Паспалітай, параўноўваючы іх з вартасцямі іншых еўрапейскіх народаў: «Хай пахваляюцца вучоныя італьянцы навукамі, якія даўно там квітнеюць, і багатымі зборамі тых пладоў, якія тут не растуць; хай пахваляецца ганарлівы немец і ўмелы фландр рознымі тонкімі рамёствамі, хай пахваляецца багаты француз багаццем і незлічонымі даходамі, хай пахваляецца доблесны венгр і імклівы мужны іспанец усім тым, што ўзвышае іх над іншымі народамі. Не могуць яны пахваліцца тымі вольнасцямі, якімі ганарыцца Польшча»[15]. Аўтар выказвае шчырае спачуванне славянскім народам Балкан (сербам, харватам, далматам), якія страцілі сваю свабоду пад турэцкай тыраніяй. Трагізм іх лёсу адлюстроўваецца нават у музыцы: «Прыслухайцеся да іх песняў, поўных жалоснай мелодыі, якая амаль разрывае сэрца, да музыкі, якая сумнай жалобе падобна».

---

14 Historya o srogiem prześladowaniu kościoła Bożego. Brześć, 1567.

15 Barletius M. Historia o żywocie i zacnych sprawach Jerzego Kastryota, którego pospolice Szkanderbegiem zową. Brześć, 1569. S. A3—A4.

520. Hiſtoryiey o Szkánderbegu

# Hiſtoryiey o Zywocie y zacnych ſpráwách Ierzego Káſtriotá/ ktorego poſpolicie Szkánderbegiem zową/ Kśiążecia Epireńskiego.

## Kśięgi Iedennaſte.



Gdy ſie Szkánderbeg w Appuliiey zábawiał/ pierwey niżli przyiechał/ á niżli przymierze miedzy nim/ á miedzy Ceſárzem Tureckim vczynione wyſzło/ Ceſárzowi Tureckiemu / przez ten czás ſzczeſliwie ſie wodziło/ ábowiem był nie máło ziemie ku ſwemu páńſtwu przyczyniło żył/ bo bárzo wiele był/ y Grekom y Máchometanom w Azyiey y w Europie pobrał. A ták podniozſzy ſie w pyche/ z tákowego ſzczeſliwego powodzenia/ vmyſlił/ (iákoż iednák to D záwżdy ná myſli miał) Szkánderbegá w niwecz obrocić/ przeciwko ktoremu/ poſłał ſprawce ſwego Synámá z dwudzieſtá tyſiecy ludzi/ áby ſie nań oborzył gdyby ſie on nieſpodziewał. Ale Szkánderbeg/ nátychmiaſt/ dowiedziawſzy ſie tego od niektorych przyiacioł/ z ośmią tyſiecy ludzi y iezdnych y pieſzych / záiechał mu droge / y vbieżał gore Mokrea wnocy/ przez ktorą Szynám/ y z woyſkiem ſwoiem ćiągnąć miał/ ná ktorego z nieobáczká vderzywſzy/ poráził go y rozgromił ze wſzytkiem woyſkiem iego/ ktorego wietſza część/ odiawſzy im chorągwie y inſze ſprzety/ poſieczono/ á ſam Synam/ ledwy z trochą ludzi vciekł. Wiele Turkow/ ktore było żywo poimano/ pieniądzmi wykupiono/ ktore Szkánderbeg weſpo

Máhumet przeciw Szkánderbego wi Synámá wypráwuie.

beg weſpo

Барлетыус М. Гісторыя аб жыцці і зацных справах Юрыя Кастрыёта... Брэст, 1567.

Да выдання быў далучаны дадатак — «Пра аблогу і ўзяцце горада Шкодры» таго ж аўтара — М. Барлетыўса. Базылік у прадмове адзначае, што адной з прычын, якая прымусіла яго перакласці гэтую кнігу, была яе выключная рэдкасць — толькі ў бібліятэцы аднаго вучонага італьянца ён змог яе знайсці і не хацеў, каб «такая шляхетная каштоўнасць згінула»[16].

Менавіта з перакладу Базыліка ў XVII ст. быў зроблены пераклад гэтага твора на рускую мову. Пры гэтым даследчыкі выказваюць меркаванне, што наяўнасць шматлікіх беларусізмаў і асобных паланізмаў сведчыць аб тым, што пераклад быў зроблены на суседніх з Польшчай землях, магчыма, на Беларусі[17].

Нам невядома дзейнасць друкарні пасля 1570 г. Адным з апошніх выданняў была панегірычная паэма Яна Каханоўскага, прысвечаная Яну Тэнчынскаму.

Мастацкае афармленне берасцейскіх старадрукаў адпавядала тагачасным еўрапейскім узорам, у некаторых з іх упершыню былі выкарыстаны паказальнікі.

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі захоўваюцца некалькі выданняў берасцейскай друкарні[18], у Цэнтральнай бібліятэцы НАН Беларусі — няпоўны экзэмпляр Берасцейскай Бібліі 1563 г.

16 Barletius M. Historia o żywocie i zacnych sprawach Jerzego Kastryota, którego pospolice Szkanderbegiem zową. Brześć, 1569. S. 19.

17 Розов Н.Н. Повесть о народном герое Албании в древнерусской письменности // Известия АН СССР. Отд. Литературы и языкознания. М., 1953. Т. XII. Вып. 6. С. 504.

18 Киреева Г.В. Брестские издания XVI века в фондах Национальной библиотеки Беларуси // Здабыткі: дакументальныя помнікі на Беларусі. Мн., 1995.

*Цітоў А. К.*

# Берасцейскія злотнікі



Паводле рэвізіі места Берасцейскага, якая адбылася ў 1566 г., у горадзе налічвалася 4 залатары[1], пры гэтым *Андрэй, залатар* жыў на плошчы Рынку, побач з друкарняй[2]. Не выключана, што ён альбо нехта з яго-ных калег па рамястве (*Пётр залатар*, які жыў на Кавальскай вуліцы за Віленскім гасцінцам, альбо *Марцін злотнік*) мелі ад друкарні заказы на шрыфты альбо неабходны металічны рыштунак тонкай работы.

Прывілей на заснаванне цэху быў нададзены берасцейскім злотнікам, першым сярод іншых местаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі, у *годзе 1599 красавіка 17 дня.* Статут быў зацверджаны мескімі ўладамі і, літаральна праз два тыдні, — 3 траўня ён быў канфірмаваны каралём Жыгімонтам III Вазай.

Адпаведна з каралеўскім Статутам курс вучэння праходзіў даволі працяглы час. Пасля 5 — 7 гадовага курсу навукаў, у званні вучня і атрымання статуса таварыша альбо падмайстры, ён трапляў у сваёй новай якасці ў

1 Забела Т. Места Бярэсцейскае ў XVI сталецці (Соцыяльна—эканомічны нарыс). — Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Кніга 8. Праца клясы гісторыіі. Том III. Менск, 1929. С. 95.

2 Описание староства Берестейскаго // Документы Московского архива Министерства Юстиции / Под ред. М. Довнара-Запольского. М., 1897. Т. 1. С. 205.

майстроўскі варштат. Праўда, самастойна, без дазволу майстра займацца рамяством такі падмайстра-таварыш не мог. Калі б ён асмеліўся працаваць самастойна, яго чакаў штраф — памерам у «сем коп грошай». Далей гэты дакумент патрабаваў, што «калі каторы таварыш хацеў у Берасці стаць ***Майстрам***, павінен папярэдне працаваць у цэху два гады, каб ягоныя жыццё і паводзіны маглі быць пазнаны; затым, жадаючы стаць майстрам, добра выхаваны і вывучаны, ён мусіў два гады ў далёкіх і чужых местах займацца сваім рамяством пахвальна і прыстойна яго вывучаць». Пасля праходжання стажыроўкі за мяжой, падмайстра атрымоўваў дазвол трымаць іспыты на званне майстра. Але спачатку таварыш прымаў «права мескае» і прыносіў прысягу на вернасць Берасцю. Пасля гэтай працэдуры ў прысутнасці цэхмістра прэтэндэнт на званне бярэсцейскага злотнічага майстра быў абавязаны «паказаць штукі рамяства свайго»: па-першае, мусіў зрабіць келіх, па-другое, пячатку, на якой патрэбна было «вырыць» прылбіцу з наміткай альбо галінкамі ці кветкамі ўпрыгожаную, і, па-трэцяе, мусіў умацаваць каштоўны камень у залатым пярсцёнку.

Цікавай асаблівасцю берасцейскага цэху было тое, што, акрамя злотнікаў, у яго стварэнні прынялі ўдзел і мастакі (Злотніцка-Малярскі цэх). Напрыканцы цэхавага Статута было падкрэслена, «каб цэх і ратуш таго места Берасцейскага ўзбраеннем быў забяспечаны». Гэта значыла, што тутэйшыя рамеснікі, у адпаведнасці са згаданым прывілеем, былі абавязаны «кожныя пяць гадоў, ад зачацця цэху, набываць штогод пулгак [мушкет сярэдняга памеру — *А.Ц.*] і шэфелін [піку — *А.Ц.*], каб праз дзесяць гадоў яны мелі цэлую збраёўню». Прывілеямі іншым злотнічым цэхам таксама падкрэсліваецца, што цэху неабходна мець — «харугву, бубен і ўсялякую армату срэбную для абароны і аздобы места тамтэйшага».

Статут брацтва быў канфірмаваны сынам Жыгімонта — каралём Уладзіславам IV у годзе 1633 лютага 2 дня. Дадаткова да папярэдніх артыкулаў кароль падкрэсліў, што ніхто іншы, акрамя злотнікаў цэхавых, прысеглых, не можа «смалеваць» срэбра ў месце. У гэтым жа дакуменце было пазначана, што замкавы ўрад не можа прыцягваць злотнікаў да свайго суду, яны падлягаюць толькі юрысдыкцыі Берасцейскага ўраду.

У Берасці двойчы на месяц цэхмістры бралі ў кожнага майстра пробы срэбра, якія мусілі адпавядаць «пробе таляровай». Калі здаралася, што

яна не супадае са стандартам, вінаваты плаціў (за першы раз) у цэхавую скрынку штраф памерам у палову грыўні, другі раз — грыўню срэбра, а пасля трэцяга — дзве грыўні. Калі ж гэтыя меры не давалі пажаданага выхаваўчага плёну, на чацьвёрты раз паўтарэння падобнага ўчынку — вінаваты губляў права працы па гэтай спецыяльнасці. Пра яго дакладалася мескім уладам, магістрат зачыняў ягоныя варштат і крамы, ён выганяўся з асяродку цэхавых братоў.

За перыяд з другой паловы да канца XVI ст., па няпоўных дадзеных, зафіксавана сем майстроў, у XVII ст. іх фіксуецца звыш тузіна. Трэба адзначыць, што калі Берасце страціла свой ваяводскі статус і стала звычайным павятовым цэнтрам Гарадзенскай губерні, у XIX—пачатку XX ст., паводле архіўных статыстычных дадзеных, рамеснікаў, занятых злотніцкай і срэбраніцкай справай і рэзаннем пячатак, было трохі больш за дзесятак.

## Крыніцы і скарачэнні:

*Laucevičius E., B. R. Vitkauskenė.* Lietuvos Auksakalyste XV —XIX amzis. Vilnius. 2001. — Далей L—V №...

*Łopacinski E.* Materiały do dziejów rzemieosla artystycznego Wielkiego Xięstwa Litewskiego (XV — XIX W). Warszawa. 1946. Далей — Łopacinski № —

Акты, издаваемые комиссию высочайше утвержденной, для разбора древних актов в Вильне. Далей — АВАК. Т.

Калекцыя мікрафільмаў Нацыянальнага гістарычнага архіву Беларусі ў Мінску — Далей — КМФ 18. Спр., Арк...

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску Далей — НГАБ у Мінску

# ДАДАТАК

## Рэестр берасцейскіх злотнікаў

**АРАНОВІЧ** Давід *берасцейскі злотнік, меў жонку Фрэду Леўкаўну Давыдаўну — 19 жніўня 1663 — памёр ад няправільнага, на думку яго родных, лячэння. Згадваецца ў* скарзе ягонага бацькі Арона Якубовіча на бярэсцейскага цырульніка Самуэля Шрэера
(АВАК. Т. 28. С. 398).

**БАРКОЎСКІ** ... *(Borkowski...) — злотнік берасцейскі — 1624 — па справе М. Гронастайскага супраць цэху (КМФ 18. Спр. 305. Арк. 14зв. — 15).*

**БЕРГЕЛЬ** Аўгусцін *(Augustin Bergel) — злотнік берасцейскі — 1585 — у судовым працэсе з іншым злотнікам П. Туровічам (КМФ 18. Спр. 276. Арк. 20-20зв.).*

**ВІЛЬЧКАЎ** Себестыян *( Sebestyian Wilczkow) злотнік берасцейскі — памёр каля 1665, згадваецца ў «квіце», які ўнесла 25 траўня таго году ў берасцейскі гродскі суд ягоная жонка «блізкая памочніца» Марыяна» на «жыда берасцейскага» Якуба Ельяшэвіча Копыля, які прысвоіў сабе частку рухомасці нябожчыка (НГАБ у Мінску. Ф. 1705. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 186—186зв.).*

**ГАЎСІЎС** Аляксандр *(Аляксандар (Wawrynec) Hausius) — таварыш берасцейскага злотніцкага цэху і майстры М. Гронастайскага — 1624 — па справе апошняга, як нанеслы шкоду у 3 тыс. коп грошаў літоўскіх (КМФ 18. Спр. 305, арк. 1зв, 4зв. — 15).*

**ГРОНАСТАЙСКІ** Міхал *(Michal Gronostayski) — злотнік берасцейскі — 1599 — у прывілеі на цэх (КМФ 18. Спр. 106. Арк. 93); — 1623 — ад'язджае ў Гданьск (L—V № 1.356); — 1624 верасня 9 — у дэкрэце суда апеляцыйнага, як «актор» па справе супраць Берасцейскіх злотнікаў і ягонага таварыша — падмайстра Аляксандра Гаўсіуса, які нанёс яму шкоду ў 3 тыс. коп грошаў літоўскіх, што прывяло яго да нястачы (КМФ 18. Спр. 305. Арк. 1зв. — 4зв. — 15).*

**ГУТРОЎСКІ** Станіслаў *(Stanislaw Gutrowski) — берасцейскі злотнік — 1624 — у справе М. Гронастайскага супраць тамтэйшага злотнічага цэху (АВАК. Т. 6. С. 256 — 257).*

**ДРЭЗНЕР** Ян *(Drezner, Dryznik Jan) — злотнік берасцейскі — 1599 — у прывілеі на цэх (КМФ 18. Спр. 106. Арк. 93); — 1624 — старшы цэху, у справе М. ГРОНАСТАЙСКАГА супраць цэху (КМФ 18. Спр. 305. Арк. 1зв, 4зв. — 15; АВАК. Т. 6. С. 256 — 257); — 1626 — старшы цэху ў справе злотнікаў супраць С. РАДВАНСКАГА (АВАК. Т. 6. С. 268 — 269).*

**ЕЛЕНЕВІЧ** Францыск, *сын Юзэфа. Нарадзіўся ў Берасці ў 1749; — 1767 — запісаны вучням да віленскага злотніка Н.Ф. Мая; — 1772.VI. 19 — кантракт працягнуты на 5 гадоў; — 1777. VI. 16 — запісаны падмайстрам у таго ж Мая, які выплаціў яму 20 талераў; — 1786 — прынёс прысягу «месту Віленскаму» і быў прыняты ў цэх; — 1820 —апошняя дакументальная згадка пра яго (L—V № 1.478).*

**КЕЧНЕРСКІ** Юзэф *(Kiecznierski Jozef) — мяшчанін, злотнік берасцейскі — 1673 — звінавачваецца М. Лейбовічам у нападзе 23. 06. 1673 на ягоны дом на вул. Кавальскай (НГАБ у Мінску. Ф. 1786. Воп. І. Спр. 4. С. 125 — 1254 ).*

толькі на 40% і дасягнула 75 адзінак[19]. За стагоддзе, што мінула пасля візітацыі канца XVII ст., амаль знікаюць рукапісныя кнігі, за выключэннем рукапіснага Евангелля з мястэчка Палонка, «якое не мела пачатку», на якое звярнуў увагу і Я. Калубовіч. Пра рукапіснае Евангелле з Палонкі памятаюць і старажылы: яно захоўвалася ў 30-я гг. не ў самой царкве, а ў царкоўных актывістаў, па палях мела шмат допісаў, у тым ліку і тых, якія тычыліся гісторыі самога мястэчка. Сляды Евангелля губляюцца з канца 30-х гадоў мінулага стагоддзя.

Па-другое, з'яўляецца значны пласт польскамоўнай літаратуры, пераважна Евангелляў агульнай колькасцю 18 адзінак. У царкве ў Паручыне візітатары зафіксавалі адзін лацінамоўны Імшал (Службоўнік). Такім чынам, і на прыкладзе цэркваў сучаснага Баранавіцкага раёна пацвярджаецца заняпад кірылічнага кнігадрукавання, што адбілася на кніжных зборах. Візітатары ў многіх выпадках адзначаюць адносны ўзрост кніг, напрыклад, «Служэбнік стары», «Актоіх друкаваны стары», «Актоіх зусім стары», «Трэбнік стары» і інш. Безумоўна, гэта паказвае, што друкаваная літаратура паходзіць з тых кніжных збораў, што вядомыя нам з візітацыі канца 17 ст.



Аднак лёс гэтых бібліятэк склаўся трагічна. У 1879 г., калі была выдадзена друкам кніга «Описание церквей и приходов Минской епархии. IX Новогрудский уезд», у цэрквах амаль не ўпамінаюцца старадрукі[20]. Старабеларуская кніжная прадукцыя пачала мэтанакіравана канфіскоўвацца і вынішчацца з 1834 г. Так, на працягу 1834—1835 гг., у Жыровічы былі пакліканы да дачы тлумачэнняў за адмову выкарыстоўваць у набажэнствах Службоўнікі маскоўскага друку святары Гедэон Савіч з Каўпеніцы, Ігнат Марціноўскі са Сталовічаў, Фама Гарбацэвіч з Гарадзішча, Іван Шыманскі з Жалезніцы, Іван Пятровіч з Ясянца, Антон Трыкоўскі з Ястрабля і Станіслаў Яноўскі з Пачапава. Уніяцкіх святароў прымушалі даваць распіскі аб благанадзейнасці да Рускай Праваслаўнай Царквы, а тых , хто адмаўляўся гэта рабіць, пазбаўлялі пасадаў і званняў, як тое было зроблена ў адносінах да Фамы Савіча з Каўпеніцы[21]. У сувязі з гэтым фактам, патрэбна паставіцца з даверам да інфармацыі айца Льва Гарошкі, які прывёў прыклад масавага непадпарадкавання святароў

19 АСД СЗР. Вильна, 1903. Т. 13. С. 158—220; Тамсама, Вильна, 1904. Т. 14. С. 116—125.

20 Описание церквей и приходов Минской епархии, составленное по официально затребованным от причтовь сведений. IX Новогрудский уезд. Мн., 1879. С. 26—159.

21 Записки Иосифа Митрополита Литовского. Спб. 1893. С. 153, 188.

Навагрудчыны выконваць загад Сямашкі аб прымусовай здачы богаслужбовых кніг, за што многа святароў былі пакараны годам манастырскай турмы[22]. Безумоўна, рэлігійная літаратура пачала больш актыўна адбірацца з ужытку пасля ліквідавання Уніяцкай царквы. Сямашка не таіў інфармацыі пра сістэматычнае вынішчэнне, у тым ліку пра публічнае паленне старых кніг. Няма сумнення ў тым, што ў Жыровічах былі знішчаны многія кнігі, што паходзяць з кніжных царкоўных бібліятэчак сучаснага Баранавіцкага раёна. У час напісання хроніка-дакументальнай кнігі «Памяць Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы» намі была зроблена спроба ўліку старадрукаў, але такіх у цэрквах Баранавіцкага раёна не знайшлося, акрамя Вялікалуцкай царквы, дзе нам пашчасціла сфатаграфаваць выданне пачаеўскага друку. Здзіўляе ў гэтым аспекце адно: беднасць рэлігійнай літаратуры ў цэрквах у сярэдзіне XIX ст., нягледзячы на масавы яе завоз з тэрыторыі Расіі, дзе кнігадрукаванне знаходзілася на высокім узроўні.

Не менш трагічна склаўся лёс і бібліятэк касцёлаў Баранавіцкага раёна. Вядомы факт гвалтоўнага захопу маёмасці касцёла ў Ішкалдзі, пасля яго закрыцця ў 1867 г. Святар А. Стэцко спрабаваў у судовым парадку вярнуць маёмасць, у тым ліку і кнігі, якія захапіў праваслаўны поп І. Ражановіч. На пачатку XIX ст. у бібліятэках каталіцкіх касцёлаў налічвалася кніг: у Гарадзішчы — 9, Задзвеі — 6, Крошыне — 11, Новай Мышы — 16[23].

Падсумоўваючы сказанае, можам канстатаваць наяўнасць багатай рэгіянальнай храмавай кніжнай культуры, якая развівалася ў рэчышчы тых працэсаў, якія разгортваліся на Беларусі на працягу XVI—XIX стст. Гэты артыкул, спадзяемся, пакладзе пачатак больш дэталёваму вывучэнню стану кніжных фондаў у Баранавіцкім раёне, як духоўных устаноў, так і тых, што належалі свецкім асобам.

22 Калубовіч Я. Крокі гісторыі. Беласток-Вільня-Менск, 1993. С. 191.

23 Дубейка В.М. Як нашы продкі адукаванымі людзьмі станавіліся // Памяць: гіст.-дакум. хроніка г. Баранавічы і Баранавіцкага р-на. Мн., 2000. С. 132.

*Праневіч Г. М.*

# Берасце і Літоўскі Статут 1588 г.: нараджэнне маніфеста свабоды



Патрэбы духоўна-гістарычнай самаідэнтыфікацыі, аднаўлення ў поўным аб'ёме гістарычнай памяці, спазнання ўласнай нацыянальнай ментальнасці прымушаюць сёння больш пільна і ўважліва ставіцца да падзей і фактаў нашай даўнейшай гісторыі — асабліва да тых яе культурна-цывілізацыйных чыннікаў, якія выходзяць за рамкі звужанай, прыстасаванай да патрэб сацыялістычнай ідэалогіі канцэпцыі сацыяльнага этнагенезу беларусаў як выключна сялянскай нацыі.

Сярод іх важнае месца належыць асэнсаванню ідэалагічных, юрыдычна-прававых, маральна-этычных аспектаў грамадзянска-палітычнага і духоўна-культурнага ўкладу жыцця вышэйшых шляхецка-арыстакратычных колаў і ўрбанізаваных слаёў насельніцтва ВКЛ, адлюстраваных у юрыдычна-прававых дакументах ВКЛ XV—XVII стст. кшталту палажэнняў артыкулаў Магдэбургскага права, Літоўскіх Статутаў ВКЛ рэдакцый 1529, 1566 і 1588 гг. і інш.

Змест, абставіны з'яўлення на свет і барацьба за легітымізацыю і ўвядзенне ў дзеянне трэцяй рэдакцыі Літоўскага Статута (1588 г.), заключным акордам да якога стала напісанне ў Берасці падканцлерам ВКЛ Львом Сапегам дзвюх выдатных публіцыстычных прадмоў, якраз і з'ўляецца адной з такіх ключавых тэм, якая, апроч іншага, самым

непасрэдным чынам звязвае гэты дакумент найвялікшай гістарычнай і духоўна-мастацкай вартасці з Берасцем.

Пры больш дэталёвым разглядзе факт гэты зусім не здаецца выпадковым. Больш за тое, — успрымаецца як заканамерны ў святле цэлага шэрагу агульнаеўрапейскіх працэсаў геапалітычнага, грамадска-палітычнага характару і прыватных акалічнасцяў, звязаных з Сапегамі і іхняй роляй у грамадска-палітычнай гісторыі горада і ВКЛ на працягу XV—XVII стст.

Па-першае, Берасце і Берасцейшчына — ключавы для будучага канцлера біяграфічны і духоўна-гістарычны топас, які непасрэдна спрычыніўся да яго палітычнай і творчай біяграфіі, а таксама імклівага ўзлёту і ўзвышэння як палітыка і выдатнага дзяржаўнага дзеяча ВКЛ.

Пачнем з таго, што свой легендарны радавод Сапегі, як вядома, выводзілі ад Гедымінавічаў, лічылі сябе нашчадкамі пінскага князя Нарымонта Гедымінавіча[1]. Кодань, каля Берасця, і Ружаны — у суседнім, Навагрудскім ваяводстве, на мяжы з Берасцейскім — сталі апорнымі для Багдана і Івана Сямёнавічаў — пачынальнікаў дзвюх галоўных ліній сапежанскага роду — чарэйска-ружанскай і каданьскай. Іван Сямёнавіч у 1513—1517 гг. займаў пасаду ваяводы падляшска-берасцейскага і меў у Берасці свой ваяводскі двор. Іван, сын Багдана Сямёнавіча, знаходзіўся на гэтай жа пасадзе ажно 12 гадоў — з 1529 па 1541 г. Традыцыю прадоўжыў і сын Івана Сямёнавіча — Павел, які займаў двор ваяводы падляшскага ў Берасці на працягу 1556—58 гг. Паводле звестак, якія прыводзіць М. Шкялёнак, старастам дарагічынскім і ваяводам падляшскім некаторы час быў таксама бацька Льва Сапегі, прадаўжальнік старэйшай чарэйска-ружанскай лініі роду Іван Іванавіч Сапега[2]. Калі зыходзіць з таго, што бацька Л. Сапегі памёр у 1580 годзе, а апошнім ваяводам падляшскім да захопу і далучэння Падляшша да польскай Кароны быў В. Тышкевіч (1558—1569 гг.), дык выходзіць на тое, што пасаду ваяводы падляшскага бацька Л. Сапегі мог займаць толькі ў перыяд з 1541 па 1556 г., хутчэй за ўсё, пасля смерці свайго бацькі Івана Багданавіча Сапегі (1546 г.). Трэба адзначыць, што доўгія гады шматлікія дзяржаўныя і земскія пасады ў Берасці і Падляшска-Берасцейскім ваяводстве займалі таксама

1 Грыцкевіч А. Сапегі // Энцыклапедыя гіст. Беларусі : у 6 т. — Мн., 2001. Т. 6. Кн. 1. С. 223.

2 Шкялёнак М. Леў Сапега // Спадчына. 1991. № 1. С. 59.

некаторыя іншыя, менш вядомыя, прадстаўнікі роду Сапегаў. Так, з «Апісання староства Берасцейскага 1566 года» вядома, што каралеўскім рэвізорам на Падляшшы, адказным за ўлік земляў і маёмасці, плацяжы і падаткі, доўгі час быў нехта Іван Сапега, а «потомъ за недоконченемъ через него по смерты его <...> тое постановене и ревизея во всем том старостве докончоно и постановено естъ черезъ <...> Дмытрея Сопеги, ревизора его кр. мл. на Подляшу (відаць, сына ранейшага рэвізора Івана Сапегі — Г.П.)»[3].

Такім чынам, эканамічныя і палітычныя інтарэсы роду Сапегаў на працягу доўгага часу былі цесна звязаны з Падляшска-Берасцейскім ваяводствам і яго абодвума цэнтрамі — Берасцем і Дарагічынам. Таму зусім не дзівіць, што, займаючы высокія службовыя пасады ў дзяржаве (вялікага пісара (1584), падканцлера (1585), а з 1589 г. канцлера ВКЛ), якія патрабавалі, апроч іншага, шчыльных і частых палітычных кантактаў з каралём і польскай дзяржаўна-палітычнай элітай, сын колішняга дарагічынскага старасты Івана Сапегі і Багданы Друцкай-Сакалінскай глыбока пусціў свае карані менавіта ў Берасцейскую зямлю, якая на доўгія гады стане новым сямейным прытулкам і ўдзячным месцам жыцця, працы і адпачынку для актыўнай і дзейнай натуры выдатнага палітыка, дзяржаўнага дзеяча і дыпламата, шчодра адоранага яшчэ і бліскучым літаратурным талентам.

Ружанскі маёнтак, які Леў Сапега ў 1598 годзе, на піку сваёй палітычнай кар'еры, выкупіў у Барташа Брухальскага, стане галоўнай рэзідэнцыяй канцлера. Тут, у пачатку XVII стагоддзя, ён збудуе для сябе і сваёй сям'і новы двухпавярховы палац з шыкоўнай банкетнай гасцявой залай, вялікай бібліятэкай і архівам, у якім будзе прымаць самых высокіх гасцей і нават асобаў каралеўскай крыві.

Месца для рэзідэнцыі было выбрана выключна ўдала і рацыянальна: праз Ружану пралягаў найбольш зручны і кароткі шлях да абедзвюх сталіц Рэчы Паспалітай — Вільні і Варшавы, — паміж якімі найчасцей даводзілася курсіраваць канцлеру. Адсюль таксама было зручна дабірацца да Нясвіжскай рэзідэнцыі Радзівілаў, на двары якіх з сямігадовага ўзросту выхоўваўся будучы канцлер, трывалы палітычны саюз з якімі забяспечыў пасля маладому арыстакрату ўзыходжанне да вяршынь

3 Описаніе староства Берестейскаго1566 года // Документы Московского архива министерства Юстиции / под ред. М. Довнара-Запольского. М., 1897. Т. 1. С. 205.

палітычнай улады ў ВКЛ. І ўжо зусім рукой падаць было да Берасця — найбольш значнага пасля Вільні эканамічнага і дзяржаўна-палітычнага цэнтра дзяржавы, дзе часта адбываліся соймы і канфедэрацыі, царкоўныя сіноды і дыпламатычныя сустрэчы.

Другое важнейшае значэнне Берасця як нефармальнай сталіцы ВКЛ заключалася ў тым, што менавіта адсюль вёўся наўпроставы дыялог з польскай Каронай і Захадам наогул. Тут выпрабоўвалася мадэль новага тыпу еўрапейскай культуры, заснаваная на сінтэзе гуманістычных здабыткаў Захаду і Усходу, Поўдня і Поўначы. Адначасна з гэтым патрыятычнымі сіламі краіны вёўся пошук дзейсных спосабаў умацавання незалежнасці і суверэннасці дзяржавы, якая пад уплывам магутных цэнтрабежных тэндэнцый з Захаду і Усходу, з боку Польшчы і Масковіі, каталіцызму і праваслаўя паступова страчвала сваю ранейшую ваенна-палітычную моц, рэлігійна-культурную тоеснасць і нацыянальна-этнічную кансалідаванасць, што пагражала самому існаванню Княства. Процістаяць гэтым тэндэнцыям, прыдаць ім «зваротны ход», прымусіць працаваць на ўмацаванне дзяржавы імкнулася частка магнатэрскай эліты ВКЛ, у прыватнасці, Радзівілы і іх паслядоўнікі магнаты Хадкевічы, Сапегі, Глебавічы, Валовічы і інш., імкнуліся разгарнуць краіну на паўночны Захад Еўропы, абраўшы ў якасці ідэалагічнай асновы новага палітычнага курсу пратэстантызм у форме папулярнага ў Швейцарыі і балта-скандынаўскіх краінах кальвінізму.

Канкрэтным вынікам гэтай палітыкі стала заснаванне Мікалаем Радзівілам Чорным і ягоным стрыечным братам Мікалаем Радзівілам Рудым шматлікіх кальвінскіх Збораў і школ, дзе прапагандавалася новае веравучэнне, а таксама заснаванне ў Берасці і Нясвіжы друкарняў лацінскага і кірылічнага шрыфту.

У задачу першай з іх, заснаванай у 1553 г. у Берасці Бернардам Ваяводкам, а таксама пазнейшых друкарняў Станіслава Мурмеліуса (1558—1560-я гг.) і асабліва Кіпрыяна Базыліка (Cyprian Bazylik, 1566—1570) уваходзіла выданне разнастайнай рэлігійнай (кальвінскага напрамку) і свецкай літаратуры гуманістычна-рэфармацыйнага характару на польскай і лацінскай мовах, адрасаванай пераважна магнатэрска-шляхецкай эліце і каталіцкаму насельніцтву Княства.

Тады важнейшай задачай Нясвіжскай друкарні С. Буднага, М. Кавячынскага і Л. Крышкоўскага было: транслiраваць здабыткі гуманістычна-рэфармацыйнай культуры Захаду і новага веравучэння на вернікаў

праваслаўнага абраду, звязаных з старажытнарускай культурнай традыцыяй, арыентаваных на кірылічнае пісьменства і родную мову.

У гэтым праекце Берасцю, зыходзячы з яго памежнага становішча на мяжы Кароны і ВКЛ, адводзілася роля своеасаблівага маста паміж Усходам і Захадам. Як адзначаў М.В. Доўнар-Запольскі, «Берасце было тымі варотамі, праз якія Беларусь уступала ў дачыненні з Польшчай і паўднёвай Германіяй. На гэтым шляху Кракаў, Познань, і асабліва Люблін у XVI ст. набылі вялікае значэнне»[4]. Адпаведна сваёй новай ролі ў другой палове XVI ст. істотна вырасла не толькі палітыка-эканамічнае, але і культурна-цывілізацыйнае значэнне Берасця як своеасаблівага рэцыпіента і рэтранслятара заходніх уплываў. Падобна да таго, як Кракаў у канцы XV— пачатку XVI стст. стаў перадавым фарпостам і асноўным рэтранслятарам беларускай рэнесансавай культуры на еўрапейскім Захадзе, што выявілася ў закладцы ў Кракаве Ш. Фіёлем і ягонымі славянскімі памочнікамі Гаўрылам, Богушам і Янам на сродкі магнатаў Гаштольдаў, Солтанаў і Сапегаў друкарні кірылаўскага друку, у з'яўленні выдавецкага праекта «Бібліі рускай» Ф. Скарыны, узнікненні ў сталіцы польскага каралеўства магутнага ўсходнеславянскага вогнішча новалацінскай паэзіі і інш., Берасце стала першым такім рэпрэзентантам і папулярызатарам у ВКЛ і на еўрапейскім Усходзе польскай і ўвогуле заходняй гуманістычна-рэфармацыйнай культуры.



Тут, у 1553 г., з ініцыятывы і на сродкі М. Радзівіла Чорнага, выхадцам з Кракава Бернардам Ваяводкам была закладзена першая на землях Беларусі і ВКЛ друкарня лацінскага шрыфту. Прыгадаем, што росквіт друкарскай справы ў Берасці прыпаў на гады навучання Л. Сапегі на нясвіжскім двары М. Радзівіла Чорнага, а пасля ў Ляйпцыгскім універсітэце ў Германіі, калі з друкарні Цыпрыяна Базыліка выйшлі польскамоўная пратэстанцкая Радзівілаўская Біблія (1563 г.), а таксама каля 40 іншых выданняў на польскай і лацінскай мовах. Абсальвент Кракаўскай Акадэміі, кальвініст паводле веравызнання, заангажаваны да працы на нясвіжскім двары Радзівілаў спачатку як арганізатар музычнай капэлы, а пасля ў якасці кіраўніка Берасцейскай друкарні, Кіпрыян Базылік праявіў сябе не толькі як таленавіты музыка і выдатны друкар, але як арыгінальны паэт і перакладчык, погляды якога вызначаліся дэмакратызмам і свабодамыснасцю. Яму прыпісваецца аўтарства такіх

4 Довнар-Запольский М.В. История Белоруссии. Мн., 2003. С. 229.

антыкаталіцкіх твораў, як сатырычная паэма «Пратэй, або Пярэварацень» (1564 г.), алегорыя «Працэс чарцей супраць людскога роду» (1570 г.). Пра гэта сведчаць і ягонае творчае супрацоўніцтва з вядомым філосафам А. Валанам, з якім яны разам пераклалі з лаціны на польскую мову «Гісторыю жорсткіх ганенняў царквы боскай» (1567 г.). Акрамя гэтага, К. Базыліку належаць пераклады на польскую мову выдатнага палітычнага трактата Андрэя Фрыча Маджэўскага «Аб выпраўленні Рэчы Паспалітай» (Лоск, 1577), М. Олаха «Пра Атылу, караля вугорскага» (Кракаў, 1574), а таксама твора М. Барлетыуса пра героя вайны супраць туркаў Г. Скандэрбега «Гісторыя аб жыцці і выдатных справах Ежы Кастрыёта, якога па-простаму Скандэрбегам празываюць» (Берасце, 1569).

Каб ацаніць маштаб асобы і характар грамадскіх ідэалаў і памкненняў К. Базыліка, дастаткова працытаваць словы з напісанага ім да апошняга твора прысвячэння серадзкаму ваяводзе Альбрэхту Ласкаму і прадмовы да перакладу, у якіх К. Базылік, ставячы подзвіг Скандэрбега, героя вызваленчай барацьбой балканскіх народаў супраць турэцкай няволі, у прыклад рыцарскай шляхце Рэчы Паспалітай, уздымаецца да сапраўднага хваласпеву ў гонар свабоды як вышэйшай Боскай і чалавечай цноты: «Калі Бог пажадаў адарыць сваё стварэнне чалавека найвялікшай з усіх каштоўнасцей свету, ён абраў для гэтага свабоду». І яшчэ адна цытата з прадмовы К. Базыліка: «Няхай пахваляюцца вучоныя італьянцы навукамі, якія даўно там квітнеюць, багатымі зборамі пладоў, якія тут не растуць; няхай пахваляецца ганарлівы немец і ўмелы фландр рознымі тонкімі рамёствамі, няхай пахваляецца багаты француз багаццем і незлічонымі даходамі, няхай пахваляецца доблесны венгр і імклівы мужны іспанец усім тым, што ўзвышае іх над іншымі народамі. Не могуць яны пахваліцца тымі вольнасцямі, якімі ганарыцца Польшча»[5].

Такім чынам, Леў Сапега з «маладых пазногцяў» аказаўся ў самым эпіцэнтры, на вастрыі новых палітычных і культурных тэндэнцый, новай палітыкі дзяржавы, асновы якой заклаў ягоны апякун, тагачасны канцлер ВКЛ і віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Чорны. Ідэалы свабоды і гуманістычнай павагі да чалавечай асобы, рэлігійна-культурнай

5 Цыт. паводле артыкула Івановай Л.С. Роля Берасцейскай друкарні ў распаўсюджванні Рэфармацыі ў Вялікім княстве Літоўскім, змешчаным у гэтым выданні (с. 181).

талерантнасці, нацыянальна-дзяржаўнага патрыятызму і палітычнай незалежнасці ВКЛ сталі асноўным зместам адукацыі, выхавання і духоўных памкненняў будучага канцлера.

Значны ўплыў на фарміраванне асобы Л. Сапегі, яго філасофскіх, грамадска-палітычных і юрыдычна-прававых поглядаў аказалі таксама такія выданні берасцейскіх друкарняў, як «Артыкулы права магдэбургскага» і «Судовы працэс» (1560) Б. Граіцкага, перакладзены К. Базылікам знакаміты трактат Андрэя Фрыча Маджэўскага «Аб выпраўленні Рэчы Паспалітай» (Кракаў, 1577 г.), а таксама патрыятычны палітычны трактат віленскага войта і вядомага ў Еўропе доктара права Аўгустына Ротундуса «Размова Паляка з Літвінам» (каля 1564 г.), аўтар якога ў вострай палеміцы з С. Ажахоўскім, прыхільнікам ідэі інкарпарацыі ВКЛ у склад Польскага Каралеўства, адстойваў суверэнітэт і годнасць ВКЛ як вольнай, незалежнай і дэмакратычнай дзяржавы[6].

Гэта былі кнігі, якія фарміравалі духоўнае аблічча юнага Сапегі, які ў гэты час падрастаў і набіраўся сіл на Нясвіжскім двары Радзівілаў, спасцігаў навукі ў сценах Ляйпцыгскага універсітэта ў Нямеччыне, выбіраў свой шлях і жыццёвую дарогу, каб з найбольшай карысцю паслужыць сваёй Айчыне, якая адстойвала сваю свабоду і незалежнасць у крывавах бітвах Лівонскай вайны з самадзяржаўна-дэспатычнай Масковіяй Івана IV Грознага.

Мяркуем, што да зместу гэтых і іншых выданняў берасцейскіх друкарняў, а таксама прац і арыгінальных твораў берасцейскіх друкароў Л. Сапега неаднойчы звяртаўся і пазней, на працягу ўсёй сваёй палітычнай кар'еры. Багаж набытых ідэй і ведаў шырока выкарыстоўваў падканцлер і ў сваёй практычнай палітычнай дзейнасці, звязанай з публічнай юрыдычна-прававой абаронай патрыятычнымі сіламі краіны дзяржаўна-палітычнага суверэнітэту ВКЛ, істотна падарванага несправядлівымі ўмовамі Люблінскай уніі 1569 года; у прыватнасці, пры рэдагаванні ім Літоўскага Статута 1588 г. і падрыхтоўцы яго да друку.

Вядома, што ўзначаліўшы соймавую камісію па падрыхтоўцы новай рэдакцыі Статута, якая павінна была прывесці ўсё заканадаўства ВКЛ у адпаведнасць з палажэннямі Люблінскай уніі, ён фактычна праігнараваў рашэнні Люблінскага сойма 1569 г., стварыўшы на аснове і ў пра-

6 Саверчанка І. Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі: Адраджэнне і ранняе барока. Мн., 1998. С. 71—79.

цяг традыцый Статута 1566 г. новы Звод законаў, якім замацоўваліся нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт і ствараліся юрыдычна-прававыя гарантыі існавання і развіцця Вялікага княства Літоўскага як незалежнай прававой дзяржавы.

Паны-рада і Канцылярыя ВКЛ шукалі дзейсныя спосабы абароны сваёй дзяржавы ад інкарпарыцыі і паглынання яе Польшчай, умацоўваючы самадзельныя, аўтаномныя формы гаспадарання і грамадска-палітычнага жыцця краіны. Гэтым мэтам як найлепш адпавядала стварэнне новай рэдакцыі Статута, якім дзяржава цалкам аднаўляла б свой палітычны суверэнітэт. Гэтак жа было і з выбарамі новага караля: Літва меркавала аддаць свой голас таму з кандыдатаў на трон Рэчы Паспалітай, хто згодзіцца з ліцвінскімі ўмовамі і зацвердзіць новы Статут.

Умела выкарыстоўваючы палітычныя цяжкасці Жыгімонта III Вазы, які змагаўся з аўстрыйскім эрцгерцагам Максімільянам Габсбургам за трон караля Рэчы Паспалітай, Л. Сапега з сваімі аднадумцамі і прыхільнікамі дабіліся ад манарха падпісання, а затым увядзення ў дзеянне новага Статута, артыкулы якога аднаўлялі працу вышэйшага заканадаўчага органа краіны — Сойму, забаранялі замежнікам набываць землі, займаць дзяржаўныя, духоўныя і свецкія пасады, выбірацца ў суды і органы мясцовага самакіравання, а ў дадатак істотна абмяжоўвалі правы самога манарха.

«И то есть наша вольность, — пісаў Л. Сапега ў «Звароце да ўсіх станаў Вялікага княства Літоўскага», надрукаваным у якасці прадмовы да выдадзенага ім на ўласныя сродкі Статута 1588 г., — которою се мы межи иншыми народами хрестиянскими хвалим же пана, ижбы водле воли своее, а не водле прав наших пановал, над собою не маем, а яко славы учстивое, так живота и маетности волно уживаем. <…> А если которому народу встыд своих прав не умети, поготовю нам, которые не обчым яким языком, але своим власным права списаные маем и кождого часу, чого нам потреба ку отпору всякое кривды, ведати можем»[7].

Пад бліскучымі публіцыстычнымі прадмовамі-зваротамі Л. Сапегі да новаабранага караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта III Вазы і ўсіх станаў Вялікага княства Літоўскага, прасякнутымі ідэямі свабоды чалаве-

---

7 Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 : Тэксты. Давед. Камент. / Беларус. Сав. Энцыкл. ; рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. Мн. : БелСЭ, 1989. С. 47—48.

чай асобы і вяршэнства закона ў жыцці грамадства, пафасам барацьбы супраць рабства і тыраніі ўладароў, якімі канцлер завяршаў у Берасці сваю працу над трэцяй рэдакцыяй Літоўскага Статута 1588 г., стаіць уласнаручны подпіс Л. Сапегі з дакладна абазначанымі месцам і датай з'яўлення дакумента: «Писан у Берестью лета от нароженья сына Божьего 1588 месяца декабря, 1 дня.»[8]

Вучоных цікавіць, дзе канкрэтна ў Старым Берасці (паводле яго колішняй тапаграфіі) маглі быць напісаны знакамітыя радкі Сапегавых прадмоў да Літоўскага Статута 1588 г., для стварэння якіх, безумоўна, патрэбен быў і час, і бібліятэка, і сталы прытулак у горадзе, неабходныя для плённай творчай працы.

Тое, што Л. Сапега, па прыкладзе некаторых іншых высокапастаўленых магнатаў ВКЛ кшталту князя К. Астрожскага, меў у горадзе нейкую нерухомую маёмасць — уласны заезджы двор, дом ці палацык — практычна не выклікае сумнення: даўнія і сталыя сувязі Сапегаў з Берасцейшчынай і Падляшшам, дзе яны мелі шматлікія ўладанні, а таксама дзяржаўныя абавязкі Л. Сапегі як вялікага пісара, а пасля і падканцлера ВКЛ, адказнага за дыпламатыю і знешнюю палітыку дзяржавы, выключаюць нейкі іншы адказ.

Некаторымі даследчыкамі выказваліся меркаванні, што палацык Л. Сапегі месціўся ў Старым горадзе, на рагу вуліц Пясецкая і Кракаўская[9]. Аднак пры бліжэйшым разглядзе высветлілася, што ў якасці рэзідэнцыі Л. Сапегі разглядалася пазначаная ў «Апісанні Берасцейскага староства 1566 года» колішняя сціплая сядзіба ў Берасці каралеўскага рэвізора Дзмітрыя Сапегі плошчай 1½ прута (прыкладна 35 м кв — Г.П.), якая, па-першае, належала зусім іншай асобе, а, па-другое, (нават калі б Л. Сапега пазней стаў яе ўладальнікам) наўрад ці магла выкарыстоўвацца ім у якасці рэзідэнцыі, улічваючы амбіцыі магната і высокі дзяржаўны статус падканцлера ВКЛ.

Значна большую цікавасць уяўляе апублікаваны І. Лаўроўскай рэестр земляў, ахвяраваных канвенту св. Брыгіты на працягу 1632—1691 гг., у якім пад 1584 годам значыцца дом у Берасці, уласнікам якога называ-

---

8 Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 : Тэксты. Давед. Камент. / Беларус. Сав. Энцыкл. ; рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. Мн. : БелСЭ, 1989. С. 45.

9 Гл. рэдакцыйныя ўключэнні І. Лаўроўскай ў артыкуле: Праневіч Г. Вялікі Канцлер Вялікага Княства // Брестский курьер. 2003. 20 — 26 ноября. С. 9.

еццa «пісар ВКЛ»[10]. Паколькі ж сам канвент св. Брыгіты быў заснаваны пазней, у пачатку XVII ст., і, адпаведна, само ахвяраванне магло быць зроблена не раней гэтага часу, дык можна меркаваць, што пазначаны ў рэестры 1584 г. — гэта, хутчэй за ўсё, год набыцця дома ва ўласнасць самім ахвярадаўцам, у якім не без падстаў можна падазраваць менавіта Льва Сапегу, які з 1581—га па 1585 г. займаў пасаду вялікага пісара ВКЛ, і, безумоўна, меў патрэбу ва ўласным доме ў Берасці.

Такім чынам, Л. Сапегу на працягу доўгіх гадоў трывала лучыла з Берасцем не толькі даўняя сямейна-родавая традыцыя, але найперш службовыя абавязкі вялікага пісара і падканцлера ВКЛ, якія вымагалі частых і доўгіх падарожжаў за межы дзяржавы. Бо вялікім пісарам ВКЛ, як людзям добра абазнаным у дзяржаўных справах, адукаваным юрыстам і знаўцам моў, часта даручаліся пасольствы да замежных двароў. У той час як канцлеры і падканцлеры традыцыйна займаліся знешнімі сувязямі дзяржавы з Масковіяй і Польшчай. У абавязкі апошніх уваходзіла таксама пастаянная (па паўгода на кожнага) прысутнасць пры каралеўскім двары[11]. Гораду, такім чынам, выпала місія перадавога фарпосту Вялікага княства Літоўскага на галоўным накірунку яго знешняй палітыкі і дачыненняў з асноўным сваім партнёрам-супернікам — Польскай Каронай. Як правіла, з Берасця, дзе канцэнтраваўся ток высокага палітычнага напружання, што ішоў з Вільні і Нясвіжа, і распачынаў падканцлер свой няпросты дыялог-палеміку з саюзнікам. Удзел Літвы і літвінскіх паслоў у элекцыйным сейме, які праходзіў 30 чэрвеня 1587 г. паблізу Варшавы, барацьба за тое, каб новы манарх вярнуў незаконна адабраныя ад дзяржавы землі Падляшша, Падолля і Кіеўшчыны, прызнаў новы Статут, якім адмяняліся ўсе артыкулы Люблінскай уніі, скіраваныя на скасаванне незалежнасці ВКЛ, патрабавалі ад падканцлера пастаяннай прысутнасці паблізу асноўнага тэатра палітычных дзеяў. Тым больш, што Леў Сапега, як старшыня соймавай камісіі, непасрэдна ўдзельнічаў у завяршэнні працы над новым Статутам і ў палітычных перамовах з Жыгімонтам III Вазам аб яго зацвярджэнні і ўвядзенні ў дзеянне. Берасце, як найлепш, падыходзіла для выканання гэтай задачы. Тут ён спыняўся перад сваімі пастаяннымі раз'ездамі і ваяжамі ў Польшчу, да каралеўскіх рэзідэнцый

10 Лаўроўская І. Ахвярадаўцы і ахвяраваньні ў Берасьці Літоўскім // ARCHE Пачатак. 2008. № 7—8. С. 693.

11 Góralski Z. Urzędy i godnośći w dawnnej Polsce. Warszawa, 1998. S. 83, 86, 88, 116.

у Кракаве і Варшаве, на сеймы і дыпламатычныя сустрэчы. Тут праводзіў апошнія сустрэчы і палітычныя кансультацыі, атрымоўваў неабходную інфармацыю, абдумваў свае выступленні і заявы, рыхтаваў дакументы, вёў дыпламатычную перапіску і г.д.

У гэтай барацьбе-супрацьстаянні Л. Сапега несумненна абапіраўся не толькі на матэрыяльныя і палітычныя рэсурсы, але і на духоўна-культурны патэнцыял Берасця як буйнога ваяводскага цэнтра і аднаго з галоўных гарадоў Вялікага княства Літоўскага, падпітваўся вольналюбівым духам горада і яго жыхароў, выхаваных у Магдэбургскім праве, прывілей на якое горад атрымаў у 1390 годзе, адразу ўслед за Вільняй. Галоўнае ж, што рабіла гараджан аднадумцамі і прыхільнікамі Вялікага Канцлера, заключалася ў тым, што іх светапогляд, грамадска-палітычныя настроі і ідэалы, як і яго ўласныя, таксама фарміраваліся пад уплывам свабодалюбівых ідэй К. Базыліка і А. Волана, А. Ротундуса і А.Ф. Маджэўскага, Паўла з Бжэзіна і М. Барлетыуса, кнігі якіх выходзілі з-пад варштатаў брэсцкіх друкарняў і, безумоўна, уплывалі на духоўную атмасферу Берасця і яго жыхароў.



Не выклікае сумнення, што ў асабістым кнігазборы Л. Сапегі былі выданні берасцейскіх друкарняў. Неабходныя канцлеру для працы над прадмовамі кнігі можна было знайсці таксама ў багатых бібліятэках берасцейскіх манастыроў і пратэстанцкіх Збораў і прыватных кнігазборах заможных гараджан.

Такім чынам, у Сапегавым «Звароце да ўсіх станаў Вялікага княства Літоўскага», дзе свабода і незалежнасць абвешчаны вышэйшай каштоўнасцю і цнотай чалавечага жыцця, можна выразна адчуць не толькі водгук ідэй К. Базыліка, А. Волана ці А. Ротундуса, але і салідарны голас грамадзян Берасця: «Обачывали то усих веков люди мудрые, же в каждой речы посполитой чоловеку почтивому ничого не маеть быти дорожшого над вольность. А неволею так се маеть гыдити, же не только скарбами, але и смертью ее од себе отганяти есть повинен. А прото люди почтивые не только маетности, але и горл своих против кождому неприятелю выносити не жалують, абы под их окрутное опанованье не приходили, а з волности своее будучи злуплени, водлуг воли и мысли их яко невольники не мусели жити»[12].

12 Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 : Тэксты. Давед. Камент. / Беларус. Сав. Энцыкл. ; рэдкал.: І.П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. — Мн. : БелСЭ, 1989. С. 47.

Статут 1588 г. засведчыў найвышэйшы духоўна-творчы ўзлёт Л. Сапегі як палітыка і творцы. За свабодалюбным зместам напісаных падканцлерам у Берасці публіцыстычных прадмоў і гуманізмам юрыдычна-прававых артыкулаў Літоўскага Статута 1588 г. стаяць не толькі шматгадовая руплівая праца выдатных тагачасных палітыкаў, прававедаў і філосафаў, такіх як канцлеры ВКЛ Крыштаф Радзівіл і Астафей Валовіч, віленскі войт і доктар права Ротундус і інш., але глыбокія веды, асабісты духоўны вопыт і ідэйныя перакананні самога Л. Сапегі, узбагачаныя патрыятычнымі ідэямі такіх айчынных філосафаў і рэфарматараў, як Ф. Скарына, С. Будны, В. Цяпінскі, А. Волан і інш.

Назіранні за прадмовамі Л. Сапегі і зместам артыкулаў Літоўскага Статута 1588 г. сведчаць, што Леў Сапега схіляўся ў сваёй творчасці да мастацкага сінтэзу розных традыцый, імкнучыся да творчага абагульнення перадавых грамадска-палітычных і філасофскіх ідэй свайго часу, выпрацаваных еўрапейскімі гуманістамі і айчыннымі мысліцелямі, а ў сваім шляхецкім лібералізме, сантыментах і спагадзе да селяніна і людзей простых аказаўся найбольш блізкі да таго грамадзянскага і чалавечага тыпажу, які прадстаўлялі ў літаратуры эпохі Рэнесансу і Рэфармацыі Францыск Скарына, Андрэй Волан, а ў польскай — выдатны публіцыст і палітычны дзеяч Андрэй Фрыч Маджэўскі.

Навукова-публіцыстычная спадчына апошняга надзвычай імпанавала Л. Сапегу сваёй тэорыяй арыстакратычна-шляхецкага патэрналізму, бацькоўскай апекі і дапамогі сялянам з боку феадалаў, таксама ідэямі гуманізацыі адносін і прымірэння паміж станамі ў імя грамадзянскага міру і ўнутранага спакою ў дзяржаве, якія А.Ф. Маджэўскі выклаў у сваёй славутай кнізе «Аб выпраўленні Рэчы Паспалітай».

Як піша Казімір Лепшы, «А.Ф. Маджэўскі асцерагаўся грамадскага перавароту, які б узбунтаваў і вызваліў масы сялян і гарадскога плебсу, і хацеў унікнуць у яго праз зняцце напружанага супрацьстаяння на вёсцы. А для гэтага нагадваў феадалам, каб змянілі свае адносіны да селяніна, даводзячы ім, што «не павінна быць ніякага адрознення паміж бацькам і добрым панам», спадзеючыся, што маральна-этычныя аргументы ў выніку пераканаюць феадалаў адмовіцца ад іх палітыкі ўціску і эксплуатацыі»[13].

13 Lepszy K. Andrzej Frycz Modrzewski. Warszawa, 1954. S. 60.

Ліберальныя ідэі А.Ф. Маджэўскага мелі вялікі розгалас у Рэчы Паспалітай, але найбольш — у Літве, дзе іх падтрымлівалі такія высокапастаўленыя магнаты як канцлер А. Валовіч і падканцлер Л. Сапега. Пра гэты ўплыў, прынамсі, могуць сведчыць некаторыя гуманістычныя юрыдычныя навацыі, унесеныя ў тэкст Літоўскага Статута 1588 г. соймавай камісіяй пад кіраўніцтвам Льва Сапегі, якіх не было ў ранейшых рэдакцыях. Складальнікі, напрыклад, увялі ў Статут 1588 г. беспрэцэдэнтна смелы для таго часу артыкул, які прадугледжваў смяротнае пакаранне шляхціца за наўмыснае забойства простага чалавека. Гэты факт дазволіў даследчыкам гаварыць аб больш гуманістычным характары літоўскага заканадаўства ў адносінах да сялян у параўнанні з Каронай, дзе падобны артыкул быў уведзены толькі ў 1768 г.[14]

Статут 1588 г. як выдатны помнік прававой культуры беларускага народа стаў выключнай з'явай еўрапейскага заканадаўства, дзякуючы найперш творчаму ўкладу Л. Сапегі, які ўзбагаціў яго глыбокімі ведамі і здабыткамі перадавой юрыдычна-прававой навукі, а ў сваіх прадмовах «выказаў шмат гэткіх высокіх думак, якія адпавядалі толькі XVIII і XIX стагодзьдзям»[15]. Так, у Статуце дэкляраваўся прынцып усеагульнага прамога выбарчага права для ўсіх станаў і саслоўяў, які ўвойдзе ў практыку еўрапейскага заканадаўства толькі ў канцы XVIII ст.

Прадугледжвалася больш суровае пакаранне (амаль удвая) за злачынствы супраць жанчын.

Статут устанаўліваў прэзумпцыю невінаватасці асобы, вызваляў ад крымінальнай адказнасці непаўналетніх (да 16 гадоў) і псіхічна хворых.

У ім замацоўвалася права падсуднага на абарону з удзелам пракуратараў (адвакатаў).

Пацвярджалася магчымасць свабоднага выезду за межы дзяржавы (акрамя непрыяцельскіх земляў) з мэтай лячэння, атрымання адукацыі і здзяйснення рыцарскіх учынкаў.

Нязменным і абавязковым для ўсіх службовых асобаў, пісараў і канцылярыстаў заставаўся дзяржаўны статус старабеларускай мовы.

---

14 Stroynowski A. Pozycja społeczna drobnej szlachty WKL w końcu XVIII w. // Zeszyty naukowe uniwersytetu Łódzkiego. Nauki humanistyczno-społeczny. Łódź, 1976. Seria I, zeszyt 4. S. 106.

15 Шкялёнак М. Леў Сапега // Спадчына. 1991. № 1. С. 64.

Зыходзячы з акта Варшаўскай канфедэрацыі 1573 года «Аб міры паміж іншаверцамі», зацвярджаўся прынцып верацярпімасці і роўнасці ўсіх хрысціянскіх веравызнанняў.

Адносна апошняга належыць сказаць, што сам Л. Сапегаў сваёй шчырай прыхільнасці і адданасці ідэі рэлігійнай талерантнасці адштурхоўваўся не толькі ад засвоенай ім у маленстве пратэстанцкай этыкі, але відочна ішоў наўпрост ад Скарынавай традыцыі, у прыватнасці, ад яго фенаменальнай «Бібліі рускай» (1517—1519 гг.), адрасаванай не адной якой-небудзь канфесіі (праваслаўным, каталікам ці пратэстантам), але ўсім «людем посполитым рускаго языка».

Паслядоўны дзяржаўнік і патрыёт, чалавек і палітык, які пад уплывам розных ідэйных перакананняў і палітычных меркаванняў сам двойчы пераходзіў з адной хрысціянскай канфесіі ў другую, ён адным з першых усвядоміў, што ва ўмовах эпохі Рэнесансу і Рэфармацыі хрысціянская ідэя на Беларусі і ў ВКЛ пачала набываць экуменічны, надканфесійны характар, пераўтвараючыся ў *ідэю нацыянальную*, сэнсам якой стала аб'яднанне народа на глебе гуманістычных каштоўнасцяў свабоды асобы і захоўвання закону, а таксама абароны дзяржаўнага суверэнітэту, роднай мовы і культуры, спалучаных з гуманістычнай этыкай самых розных хрысціянскіх веравызнанняў.

Такім чынам, можна гаварыць аб тым, што Літоўскі Статут 1588 г., ачолены Л. Сапегам у сваім берасцейскім палацыку дзвюма выключна глыбокімі паводле грамадска-палітычнага і філасофскага зместу прадмовамі, назаўсёды звязаў імя іх аўтара з Берасцем як месцам першага вялікага палітычнага трыумфу беларускай нацыянальнай ідэі.

Ва ўзнікненні гэтага феномена Берасцю поруч з Нясвіжам і Вільняй належыць адна з ключавых роляў, звязаных з перадачай, трансляцыяй і сінтэзам здабыткаў гуманістычнай культуры Захаду і Усходу, што ў значнай ступені паўплывала на ідэйны змест і характар выдатнейшага грамадска-палітычнага і прававога дакумента эпохі — Літоўскага Статута 1588 года, які стаў для беларусаў маніфестам і тэстаментам свабоды, на стагоддзі наперад вызначыўшы арыенціры і шляхі барацьбы за адраджэнне Айчыны.

# Аўтары зборніка

**Бразюнене Альма** — доктар гуманітарных навук, лектар Інстытута кнігазнаўства і дакументалістыкі Віленскага універсітэта

**Бярозкіна Наталля Юр'еўна** — кандыдат гістарычных навук, дырэктар Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**Валецкі Вацлаў** — прафесар Ягелонскага універсітэта, кіраўнік Цэнтра даследаванняў Польскай бібліяграфіі Эстрэйхераў Ягелонскага універсітэта

**Верас Нэлі Яўгенаўна** — магістр гуманітарных навук, загадчык сектара навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

**Галубовіч Ала Купрыянаўна** — дырэктар Нацыянальнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Рэспублікі Беларусь

**Гвёздзік Яланта** — доктар, ад'юнкт Сілезскага універсітэта (Катавіцы)

**Герасімаў Валерый Мікалаевіч** — загадчык сектара старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь

**Гладышчук Анатоль Антонавіч** — кандыдат фізіка-матэматычных навук, загадчык кафедры фізікі УА «Брэсцкі дзяржаўны тэхнічны універсітэт»

**Гусева Вольга Валер'еўна** — кандыдат філалагічных навук, дацэнт Санкт—Пецярбургскага універсітэта

**Доўнар Ларыса Іосіфаўна** — кандыдат педагагічных навук, дацэнт кафедры гісторыі і тэорыі інфармацыйна-дакументных камунікацый Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў



**Долгадрова Таццяна Аляксееўна** — доктар гістарычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік навукова-даследчага аддзела рэдкіх кніг Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі (Масква)

**Дубейка Васіль Міхайлавіч** — дырэктар Цешаўлянскай сярэдняй школы Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці

**Жылко Вадзім Вітальевіч** — краязнаўца (Лунінец, Брэсцкая вобласць)

**Зверава Ірына Сяргееўна** — кандыдат філалагічных навук, загадчык Аддзела архіўных дакументаў Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі (Санкт-Пецярбург)

**Есіпава Валерыя Анатольеўна** — доктар гістарычных навук, загадчык сектара. аддзела рукапісаў і кніжных помнікаў Навуковай бібліятэкі Томскага дзяржаўнага універсітэта

**Іванова Алена Вітальеўна** — дырэктар Нацыянальнай кніжнай палаты Рэспублікі Беларусь

**Іванова Людміла Сяргееўна** — вядучы палеограф Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (Мінск)

**Ігнацюк Алена Іванаўна** — кандыдат філалагічных навук, выкладчык Палескага дзяржаўнага універсітэта (Пінск, Брэсцкая вобласць)

**Ільін Аляксандр Львовіч** — кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт Палескага дзяржаўнага універсітэта (Пінск, Брэсцкая вобласць)

**Караў Дзмітрый Уладзіміравіч** — доктар гістарычных навук, прафесар Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я. Купалы

**Камісарава Алена Віктараўна** — кандыдат педагагічных навук, супрацоўнік Генеральнага консульства Чэшскай Рэспублікі ў Санкт-Пецярбургу

**Кірухіна Людміла Генадзьеўна** — намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі РБ

**Кірэева Галіна Уладзіміраўна** — загадчык аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі РБ

**Кнырэвіч Сяргей Міхайлавіч** — краязнаўца (Мінск)

**Коўкель Лілія Іванаўна** — доктар, ад'юнкт Педагагічнай акадэміі (Кракаў)

**Лаўрык Юрый Мікалаевіч** — магістр тэалогіі, вядучы навуковы супрацоўнік навукова-фондавага аддзела пісьмовых і выяўленчых крыніц Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі (Мінск)

**Мамантаў Марк Аляксандравіч** — кандыдат педагагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Расійскай нацыянальнай бібліятэкі (Санкт-Пецярбург)

**Мароз Валерый Вячаслававіч** — краязнаўца (Брэст)

**Нарбуцене Дайва** — доктар гуманітарных навук, загадчык аддзела рэдкай кнігі бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Літвы

**Несцярчук Леанід Міхайлавіч** — кандыдат гістарычных навук, галоўны спецыяліст упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама

**Нікалаеў Мікалай Віктаравіч** — доктар філалагічных навук, загадчык аддзела рэдкіх кніг Расійскай нацыянальнай бібліятэкі (Санкт-Пецярбург)

**Пазіхоўская Святлана Уладзіміраўна** — загадчык Музея кнігі і друку (Астрог)

**Пазіхоўскі Аляксандр Лявонцьевіч** — загадчык аддзела нумізматыкі Дзяржаўнага гісторыка-культурнага запаведніка г. Астрога

**Папко Вольга Мікалаеўна** — кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры філасофіі і культуралогіі Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта

**Петшкевіч Івона** — доктар, ад'юнкт Педагагічнай акадэміі (Кракаў)

**Підлыпчак-Маеровіч Марыя** — доктар габілітаваны, прафесар Педагагічнай акадэміі (Кракаў)

**Праневіч Генадзь Мікалаевіч** — кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускага літаратуразнаўства Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С.Пушкіна

**Саітава Валянціна Іванаўна** — кандыдат педагагічных навук, дацэнт кафедры гісторыі і тэорыі інфармацыйна-дакументных камунікацый Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў

**Саўчук Алеся Іванаўна** — галоўны захавальнік Гродзенскага дзяржаўнага гістарычна-археалагічнага музея

**Сацута Іван Уладзіміравіч** — кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С. Пушкіна

**Сямашка Святлана Мікалаеўна** — дырэктар Брэсцкай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы

**Сінкевіч Мікалай Мікалаевіч** — краязнаўца, журналіст (Бяроза, Брэсцкая вобласць)

**Сіесс-Кшышкоўскі Станіслаў** — прафесар, спецыяліст Цэнтра даследаванняў польскай бібліяграфіі Эстрэйхераў Ягелонскага ўніверсітэта (Кракаў)

**Сцефановіч Аляксандр Віктаравіч** — загадчык аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**Туміловіч Васіль Мікалаевіч** — краязнавец, святар (Камянец, Брэсцкая вобласць)

**Турмасава Любоў Іванаўна** — загадчык аддзела краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі Гродзенскай абласной бібліятэкі імя Я. Карскага

**Цібароўская-Рымаровіч Ірына Алегаўна** — кандыдат гістарычных навук, супрацоўнік аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя В.І. Вярнадскага (Кіеў)

**Цітоў Анатоль Канстанцінавіч** — гісторык (Мінск)

ЗМЕСТ

## Кнігі і кніжная культура Берасцейшчыны XVI — XVIII стст.

SUMMARY

The collected book consists of the reports delivered at the international research and practice conference 'Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследвання' (Брэст, 29-31 кастрычніка 2008г./Brerst, 29-31 October 2008). The authors from Belarus, Lithuania, Poland, Russia and the Ukraine introduce the research results of the book culture history, the particular importance is given to the ancient books of Brest, the destiny of local archives and libraries. The special place is taken by the materials dedicated to the contemporary book publishing, library acquisition, the question of restitution, perspectives of ancient historical and architectural objects' renovation.

The collected book is addressed to the wide range of readers — historians, culturologists, bibliognosts, bibliographers. It can be also valuable for all who is interested in history and spiritual culture of the Belarusian nation.

Навуковае выданне

**Берасцейскія кнігазборы:**
Матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі
«Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання»
(Брэст, 30—31 кастрычніка 2008 г.)

Рэдактар *В.А. Гарбачэўская*
Дызайн і макет *Г.І. Мацур*
Карэктар *Л.І. Рачкоўская*

Падпісана да друку 04.02.2010. Фармат 70x100 1/16. Папера афсетная.
Гарнітура Minion Pro. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 38,9. Ул.-выд. арк. 32,3.
Тыраж 500 экз. Заказ 265.

ТАА «Паліграфіка», ЛВ № 02330/0494034 ад 05.09.2008
Вул. Стафеева, 21, 224007, г. Брест
тэл. +375 162 49 26 79

Надрукована з гатовага арыгінал-макета ў ААТ «Паліграфкамбінат»
ЛП № 02330/0150496 ад 11.03.2009
Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск

